УСЦІН *Устын* Кобр.

ФАДЗЕЙ *Хвідей* Іван.

ФАМА *Нама* Іван., *Тамаш* Драгіч., *Томаш, Фома* Іван., *Хама* Івац., *Хом* Драгіч., *Хома* Драгіч., Кобр., *Хомка* Драгіч., Кобр., *Хымка* Драгіч.

ФЕАФАН *Фанік* Баранав., *Феня* Бяроз.

ФЕЛІКС *Фэлё* Баранав., *Фэлік* Камян., *Фэлька, Фэля* Пружан.

ФЁДАР *Федік* Камян., *Фёдарка* Ганц., *Федка* Івац., *Федот* Драгіч., Столін., *Федраня* Бяроз., *Федут* Маларыц., *Федру, Федурко* Драгіч., *Федуха, Федзенька, Федзечка, Федзік* Ганц., Маларыц., Баранав., *Федзічок* Драгіч., *Федзька* Драгіч., Іван., Баранав., *Федько* Івац., *Федось* Драгіч., *Федюня, Федюша* Драгіч., *Федюшка* Драгіч., *Федзя* Драгіч., Жабін., Лунін., *Фрэндж* Драгіч., *Фыдор* Іван., Пін., *Фэдор* Брэсц., Лунін., Маларыц., Кобр., *Фэдорко* Іван., *Фэдысо* Пін., *Фэдя* Брэсц., Іван., Пін., *Фэдур* Брэсц., *Фэлё* Столін., *Фядорушка* Пінск, *Фядот* Камян., Жабін., *Хведё* Іван., *Хведор, Хведко* Івац., *Хведзька, Хведзя* Ганц., Пружан., *Хвэ* Пін., *Хвэдор* Брэсц., Драгіч., Іван., Пін., *Хвэдорко* Пін., *Хвэдур* Іван., Камян., *Хвэдзько* Іван., *Хвэдзё* Лунін., *Хвэйшык* Драгіч.

ФІЛІМОН *Халымон, Халымонка* Драгіч.

ФІРС *Ферусь* Пін.

ФРАНЦ *Проня* Пін., *Франё, Франак* Баранав., *Франучал* Ляхав.

ФЯДОСІЙ *Фыдось* Кобр., *Фядос, Фядоска* Драгіч., *Хвыдось* Іван., Маларыц., *Хвэдосько* Столін.

ФЯДОТ *Федечка, Федька, Федя* Драгіч., *Федотка* Драгіч., *Фыдот, Фыдотка* Драгіч., *Фэдот* Столін.

ХАРЫТОН *Хартін* Іван., *Хартон* Лунін., Столін., *Хартонко* Брэсц., Лунін., *Харык* Столін., *Харытане* Іван., *Харытонавіч* Камян., *Харытонко* Драгіч., *Харыцён* Столін.

ЦІМАФЕЙ *Тімуфей, Тімуфійко* Драгіч., *Трошка* Маларыц., *Тыміш* Іван., *Тымон* Маларыц., *Тымофій* Кобр., *Тымох* Іван., *Тымоша* Маларыц., Іван., *Тымолык* Маларыц., *Тымуш* Брэсц., *Цёма* Драгіч., *Цім, Ціма* Жабінка, *Цімо* Столін., *Цімох* Бяроз., Столін., Пін., *Цімоха* Кобр., Маларыц., *Цімоша* Бяроз., Камян., Баранав., *Цімошачка* Пружан., *Цімошка* Бяроз., Кобр., *Цімошко* Столін., Лунін., *Цішка* Жабінка, Баранав.

ЦІМУР *Ціма, Цімка* Маларыта.

ЦІТ *Тытусь* Іван.

ЦІХАН *Тіша* Маларыц., *Тыхань* Маларыц., *Тыхон* Драгіч., Пін., *Тыхонко* Іван., Пін., *Тыхонэць* Кобр., *Тыхоняка* Іван., *Ціхон* Лунін., *Цішка* Баранав.

ЦЯРЭНЦІЙ *Тырэнтій* Маларыц., *Цярошка* Івац.

ЧАСЛАЎ *Цэсік* Камян., *Чэсё* Баранав., *Чэсік* Брэсц., Баранав., Камян.

ЭДМУНД *Эмусь* Баранав.

ЭДУАРД *Эд, Эда* Маларыц., *Эдзё* Пін., Столін., *Эдзенька* Баранав., *Эдзік* Баранав., Іван., Камян., *Эдык* Камян., *Эдзька* Баранав., *Эдзюша* Іван., *Эдзя* Брэсц., Кобр., *Эндзюлік, Эндзюлька* Камян.

ЮЗАФ *Юзеф, Юзік* Жабін., Кобр.

ЮЛІЙ *Юленька* Столін., *Юлё* Маларыц., Столін, *Юлік* Лунін., Маларыц.

ЮЛЬЯН *Юлё* Брэсц., Столін, Пін., *Юлік* Камян., Драгіч.

ЮРЫЙ *Юра* Іван., Драгіч., Жабін., *Юрасік* Пружан., *Юрась* Столін, Камян., *Юрачка* Баранав., Іван., Камян., *Юрашка, Юрка* Драгіч., Баранав., Жабін., *Юрко* Драгіч., Івац., Столін., *Юрок* Камян., *Юрык* Брэсц., Драгіч., Камян., *Юрычак* Баранав., *Юрэчка* Іван.

ЯГОР *Жора* Бяроз., *Рыгор* Маларыц., *Ягорка(о)* Камянец, *Ягорушка* Маларыц.

ЯКАЎ *Еков,Ековко* Кобр., *Екуў, Екуўко* Драгіч., *Яковэць* Драгіч., *Якаўка, Якоў* Брэсц., Лунін., Пін., Драгіч., *Якуля* Лунін., *Якуша* Ганц., *Янкель* Іван., *Ячка* Драгіч., *Яша* Жабін., Драгіч., Лунін., Пін., *Яшка* Бяроз., Камян., *Яшко* Івац., *Яшук* Іван., *Яшунька* Маларыц., *Яшэчка* Бяроз.

ЯКІМ *Мнякын* Іван., *Якімушко* Івац., *Якым* Столін.

ЯРАСЛАЎ *Яруш, Ярошка* Брэсц.

ЯЎГЕН *Гена* Брэст, Пінск, *Жэк, Жэка* Пінск, *Жэнечка* Драгіч., Баранав., Кобр., Пружан., *Жэнё* Іван., Івац., *Жэнёта* Столін., *Жэнік* Брэсц., Івац., Маларыц., *Жэнька* Драгіч., Іван., Камян., Лунін., *Жэнько* Брэсц., Столін., *Жэня* Брэсц., Драгіч., Іван., *Джон* Жабінка, *Джэк* Пінск.

ЯЎМЕН *Евмен* Столін.

ЯЎСТРАФІЙ *Астах* Брэсц.

ЯЎХІМ *Еўхым* Іван., *Еўхім* Лунін., *Хэмка* Пін., *Юхім, Юхымко* Кобр., *Якым* Пін., *Яўхімешко* Столін, *Яўфім* Ганц., *Яўхімко* Лунін.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

Баранав.— Баранавіцкі
Брэсц.— Брэсцкі
Бяроз.— Бярозаўскі
Ганц.— Ганцавіцкі
Драгіч.— Драгічынскі
Жабін.— Жабінкаўскі
Іван.— Іванаўскі
Івац.— Івацэвіцкі
Камян.— Камянецкі
Кобр.— Кобрынскі
Лунін.— Лунінецкі
Ляхав.— Ляхавіцкі
Маларыц.— Маларыцкі
Пін.— Пінскі
Пружан.— Пружанскі
Столін.— Столінскі

## СПІС АБСЛЕДАВАНЫХ ВЁСАК У МЕЖАХ РАЁНА

Баранавіцкі р-н: Гірава, Каўпеніца, Сеўрукі, Скробава, Ятвезь.

Брэсцкі р-н: Аркадзія, Вулька-Застаўская, Гершоны, Забалоцце, Заказанка, Казловічы, Кацельня-Баярская, Клейнікі, Костычы, Нэплі, Орхава, Прыбарава, Пугачова, Пяскі, Рыдзец, Селяхі, Страдзеч, Харсы, Церабунь, Чылеева, Шумакі.

Бярозаўскі р-н: Агароднікі, Варажбіты, Міжлессе, Пясчанка, Рачыца, Сашыца, Спорава.

Ганцавіцкі р-н: Раздзялавічы, Чудзін.

Драгічынскі р-н: Адамава, Асаўцы, Бездзеж, Галоўчыцы, Радастава, Залессе, Імянін, Какорыца, Маркавічы, Равіны, Ражное, Сварынь, Суткі.

Жабінкаўскі р-н: Ёжыкі, Маціевічы, Рагозна, Шчэглікі.

Іванаўскі р-н: Беразляны, Вартыцк, Вулька-Дастоеўская, Глінна, Дастоева, Дзедавічы, Заваяцін, Заполле, Косава, Моладава, Моталь, Оўзічы, Рудск, Сычэва, Упірава, Франопаль, Хамічова.

Івацэвіцкі р-н: Дабрынёва, Квасевічы, Любішчыцы, Сенькавічы, Скураты.

Камянецкі р-н: Відамля, Высокае, Дашэвічы, Зарэчча, Кавалікі, Каленкавічы, Перкавічы, Чапялі.

Кобрынскі р-н: Акцябр, Асаўцы, Бельск, Дзівін, Дубіны, Казішча, Патрыкі, Чарнічна.

Лунінецкі р-н: Багданаўка, Дварэц, Дзятлавічы, Купаўцы, Лугі, Мокрава.

Ляхавіцкі р-н: Крывошын, Мядзведзічы, Набережная, Падлессе, Рамашкі.

Маларыцкі р-н: Велікарыта, Горы, Олтуш, Пажэжын.

Пінскі р-н: Аснежыцы, Бярозавічы, Востраў, Вулька, Кончыцы, Лышча, Маладзельчыцы, Невель, Парэчча, Туляцін.

Пружанскі р-н: Клепачы, Перадзельск, Смаляны.

Столінскі р-н: Альшаны, Бережное, Беразцы, Гарадная, Кострава, Струга, Харомск, Хатомель.

*З. І. МАКАРАНКА, І. А. ШУМСКАЯ*

# УЛАСНЫЯ АСАБОВЫЯ ІМЁНЫ БРЭСЦКАГА РАЁНА

З мэтай выяўлення папулярнасці імён пры надаванні іх нованароджаным было абследавана 15 населеных пунктаў у Брэсцкім раёне. У Гершонаўскім сельсавеце — вв. Аркадзія, Гершоны, Пугачова, Заказанка, Страдзеч; у Клейнікаўскім — вв. Казловічы, Клейнікі, Костычы, Нэплі, Шумакі; у Тамашоўскім— вв. Камароўка, Орхава, Прыбарава, Селяхі, Харсы. Па спісках насельніцтва, якія маюцца ў сельсаветах, зроблены падлікі імён, носьбітамі якіх з'яўляюцца жыхары вёсак, з улікам узросту носьбітаў. Гэта дазваляе ўстанавіць частотнасць ужывання імён на перыяд іх фіксацыі (май 1980 г.) і дыферэнцыравана па гадах. Што датычыцца частотнасці, то пра гэта гавораць наступныя падлікі (табл. 1). Калі браць за аснову дадзеныя ў табліцы, выходзіць, што адно імя ў сярэднім носяць 10—15 чалавек у вёсках з большай колькасцю насельніцтва, 4—8 чалавек — з меншай колькасцю насельніцтва.

На самай справе імёны размяжоўваюцца інакш. Існуюць пэўныя заканамернасці ў выбары імён. Адны з імён ужываюцца вельмі часта, другія — радзей, трэція — рэдка. Прасочым гэту

*Табліца 1*

| Вёскі | Колькасць мужчын | Колькасць імён | Сярэдняя колькасць носьбітаў аднаго імя, % | Колькасць жанчын | Колькасць імён | Сярэдняя колькасць носьбітаў аднаго імя, % |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пугачова | 1051 | 84 | 12,5 | 1205 | 85 | 15,4 |
| Страдзеч | 486 | 48 | 10 | 551 | 52 | 10 |
| Гершоны | 523 | 51 | 10 | 546 | 65 | 8,4 |
| Камароўка | 326 | 56 | 6 | 377 | 64 | 5,8 |
| Аркадзія | 277 | 49 | 5,6 | 264 | 49 | 5,4 |
| Прыбарава | 269 | 56 | 4,8 | 284 | 53 | 4,8 |
| Клейнікі | 266 | 58 | 4 | 258 | 60 | 4 |

з'яву ў самай вялікай па насельніцтву вёсцы Пугачова. У вёсцы 1051 мужчына. Для іх называння выкарыстана 84 імені. З іх імя *Уладзімір* сустракалася 84 разы, *Мікалай* — 79, *Сяргей* — 72, *Іван* — 65, *Віктар* — 64, *Пётр* і *Міхаіл* — па 52, *Васіль* — 46, *Анатоль* — 31, *Андрэй* — 26, *Юрый* — 24, *Сцяпан, Дзмітрый* — па 23, *Аляксей* — 19, *Генадзій* — 18, *Павел* — 17, *Фёдар, Яўгеній* — па 16, *Ігар* — 15, *Леанід* — 14, *Барыс* — 12, *Вячаслаў, Канстанцін* — па 11, *Віталій, Грыгорый, Алег* —па 10, *Георгій*— 9, *Лявонцій* — 8, *Валянцін, Іосіф* — па 7, *Вадзім* — 6, *Руслан, Сямён, Цімафей, Эдуард* — па 5, *Адам, Антон, Афанасій, Даніла, Раман, Савелій, Ціхан, Піліп, Якаў* — па 3, *Дзяніс, Яфім, Ігнат, Кузьма, Маісей, Нікіфар, Сідар, Філімон, Аўрам* — па 2, *Аркадзій, Анісім, Арцём, Багдан, Вікенцій, Веніамін, Уладзіслаў, Гаўрыла, Дарафей, Ілья, Кірыла, Карніл, Леў, Лука, Максім, Мацвей, Навум, Ніпаліт, Рослаў, Севасцян, Спірыдон, Станіслаў, Цярэнцій, Трафім, Усцін, Франц, Харытон, Юльян, Ян* — па 1 разу.

У артыкуле прааналізавана 85 імён, носьбітамі якіх з'яўляецца 1305 жанчын. Вось як яны размеркаваны: імя *Марыя* носяць 79 жанчын, *Таццяна* — 73, *Вольга* — 69, *Валянціна* — 68, *Ганна* — 62, *Алена, Вера* — па 61, *Наталля* — 58, *Надзежда* — 49, *Галіна, Ірына* — па 47, *Святлана* — 46, *Лідзія* — 41, *Людміла* — 39, *Тамара* — 36, *Любоў* — 32, *Аляксандра* — 29, *Анастасія— 17, Еўдакія—17, Ліна— 16, Ларыса — 15, Антаніна, Яўгенія, Кацярына, Матрона*—па 13, *Ала, Зінаіда*—па 12, *Ефрасіння, Інга, Фёкла* —па 11, *Ксенія* —10, *Іна, Раіса, Соф'я, Ульяна* — па 9, *Пелагея* — 8, *Таісія* — 7, *Марфа, Юлія* — па 5, *Агрыпіна, Агаф'я, Варвара, Зоя, Праскоўя, Сцепаніда* — па 4, *Анжэла, Дар'я, Дамініка, Яфімія, Жана, Клара, Лілія, Марына, Феўронія* — па 3, *Акуліна, Анісся, Маланння, Паўліна, Фядора, Крысціна, Ядвіга* — па 2, *Альберціна, Аляўціна, Аліна, Браніслава, Ванда, Ганавера, Данута, Ева, Зіновія, Казіміра, Карашна, Лукер'я, Маўра, Рэня, Рэгіна, Саламаніда, Усцінія, Эльвіра* — па 1.

Такую ж самую з'яву мы назіраем і ў іншых вёсках. Гэта дае нам падставу вылучыць тры групы імён паводле частотнасці: 1) самыя частыя, папулярныя імёны, 2) частыя, 3) рэдкія.

Сярод мужчынскіх імён самымі частымі з'яўляюцца наступныя 10 імён: *Мікалай* (9%), *Іван* (8,6%), *Аляксандр* (8%), *Уладзімір* (7,4%), *Сяргей* (6,6%), *Васіль* (5,7%), *Віктар* (4,8%), *Пётр* (4,8%), *Міхаіл* (4%), *Анатолій* (3%). Гэтымі імёнамі названа каля 39% мужчын абследаваных населеных пунктаў. Як яны выкарыстоўваліся па гадах, бачна з табл. 2. Некаторыя з іх з'яўляюцца сталымі — выкарыстоўваюц-

*Табліца 2*

| Імёны | 1896 1900 | 1901 1905 | 1906 1910 | 1911 1915 | 1916 1920 | 1921 1925 | 1926 1930 | 1931 1935 | 1936 1940 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| *Мікалай* | 3 | 1 | 10 | 4 | 7 | 13 | 26 | 43 | 22 |
| *Іван* | 10 | 4 | 20 | 14 | 11 | 28 | 53 | 44 | 26 |
| *Аляксандр* | 1 | 5 | 7 | 7 | 7 | 7 | 6 | 10 | 9 |
| *Уладзімір* | 1 | 1 | 1 | 3 | 1 | 8 | 36 | 22 | 22 |
| *Сяргей* | 1 | 1 | 4 | 6 | — | 3 | 11 | 20 | 6 |
| *Васіль* | 3 | 4 | 1 | 8 | 11 | 7 | 22 | 23 | 16 |
| *Віктар* | — | — | — | — | 2 | 1 | 6 | 8 | 4 |
| *Пётр* | 3 | 3 | 3 | 6 | 9 | 9 | 25 | 24 | 21 |
| *Міхаіл* | 4 | 4 | 11 | 8 | 7 | 13 | 12 | 14 | 15 |
| *Анатолій* | 1 | — | — | — | — | 1 | — | 5 | 6 |

| Імёны | 1941 1945 | 1946 1950 | 1951 1955 | 1956 1960 | 1961 1965 | 1966 1970 | 1971 1975 | 1976 1980 | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| *Мікалай* | 17 | 27 | 52 | 48 | 32 | 15 | 14 | 12 | 346 |
| *Іван* | 19 | 16 | 21 | 25 | 13 | 16 | 7 | 4 | 331 |
| *Аляксандр* | 2 | 10 | 15 | 42 | 54 | 26 | 38 | 54 | 305 |
| *Уладзімір* | 15 | 19 | 38 | 49 | 33 | 16 | 13 | 8 | 286 |
| *Сяргей* | 4 | 4 | 14 | 14 | 49 | 29 | 35 | 43 | 244 |
| *Васіль* | 5 | 9 | 16 | 25 | 16 | 9 | 9 | 8 | 202 |
| *Віктар* | 3 | 2 | 24 | 37 | 32 | 21 | 22 | 24 | 186 |
| *Пётр* | 11 | 6 | 26 | 16 | 10 | 7 | 3 | 3 | 185 |
| *Міхаіл* | 11 | 10 | 15 | 6 | 6 | 10 | 3 | 9 | 159 |
| *Анатолій* | 2 | 6 | 14 | 30 | 26 | 18 | 15 | 4 | 127 |

ца на працягу ўсіх гадоў — *Мікалай, Іван, Аляксандр, Уладзімір, Сяргей, Васіль, Пётр, Міхаіл.* Але частотнасць іх выкарыстання не аднолькавая. Самае шырокаўжывальнае з іх імя *Мікалай,* якое найбольшай папулярнасцю карысталася ў 1950—1955 гг. (15%), у 1956—1960 гг. сустракаецца ў 13,9% выпадкаў, у 1931—1935 гг. — 12,4%, у 1961—1965 гг. — 9%. Досыць часта адзначаецца яно і ў астатнія гады. Людзей старэйшага пакалення з гэтым імем некалькі менш. Спад у выкарыстанні яго пачаўся з 1966 года. Ва ўсіх 15-ці вёсках яно выкарыстана ў 1966—1970 гг. 15 разоў (4%), у 1971—1975 гг. — 14 разоў (4%), у 1976—1980 гг. — 12 разоў (3,5%).

Імя *Іван* самым папулярным было ў 1925—1935 гг. (29%). Даволі частае яно ў мужчын сталага веку. У апошняе дзесяцігоддзе (1970—1980) гэта імя ўжываецца рэдка. У гэты перыяд толькі 11 хлапчукоў з 15-ці вёсак атрымалі імя *Іван.*

Папулярнасць імя *Аляксандр* узрастае з 1955 г. Най-

больш частае яно ў 1961—1965 і 1976—1980 гг. З 305 разоў у гэтыя два пяцігоддзі яно выкарыстана 108 разоў. Імя *Уладзімір* пачало часта ўжывацца з 1926 па 1930 г. і наступныя два пяцігоддзі. Затым яно часта пачало ўжывацца ў 1951—1965 гг. Напалову змяншаецца сустракаемасць у 1966—1975, а ў 1976—1980 гг. яно выкарыстана толькі 8 разоў.

Апошнім імем з першай пяцёркі з'яўляецца імя *Сяргей*. Асабліва часта яно пачало выкарыстоўвацца з 1961 г., з'яўляецца папулярным па сённяшні дзень.

З наступнай пяцёркі — *Васіль, Віктар, Пётр, Міхаіл, Анатоль* — больш-менш раўнамерна ўжываюцца імёны *Васіль, Пётр, Міхаіл*. Імёны *Віктар, Анатоль* не выкарыстоўваліся для называння людзей, якія зараз належаць да старэйшага пакалення. Да 1915 г. імя *Віктар* у нашых матэрыялах не зафіксавана. У далейшым да 1950 г. ужываецца рэдка. Папулярнасць яго ўзрасла з 1950 г. Такім жа застаецца і да 1980 г. Імя *Анатоль* да 1936 г. выкарыстана 2 разы. Самая высокая актыўнасць яго ўжывання адзначана ў 1956—1965 гг. Папулярным яно было і наступнае дзесяцігоддзе. У апошнія гады частотнасць ужывання яго зноў стала зніжацца. З 1976 па 1980 г. імя *Анатоль* атрымалі толькі 4 хлопчыкі з 3480 асоб мужчынскага полу. Такім чынам, імёны першай дзесяткі прысвоены 68% усіх зарэгістраваных хлопчыкаў.

Частымі імёнамі з'яўляюцца *Андрэй, Рыгор, Аляксей, Дзмітрый, Павел, Сцяпан, Фёдар, Вячаслаў, Віталій, Валерый, Генадзій, Якаў, Леанід, Сямён, Барыс, Канстанцін.*

Нашы матэрыялы даюць магчымасць выдзеліць малаўжывальныя, рэдкія імёны, якія ў абследаваных вёсках ужыты па 1—3 разы. Гэта імёны: *Аксенцій, Гаўрыла, Еўстафій, Лазар, Лука, Нікіфар, Сава, Цімафей, Ціхан, Трыфан, Ульян, Веніамін, Вадзім, Уладзіслаў, Станіслаў, Эдуард, Ігар, Алег, Руслан, Рослаў, Аркадзій, Якім, Яўгеній* і інш.

Сярод гэтых імён вылучаюцца дзве групы. Першую групу складаюць так званыя «старыя» імёны, аджыўшыя, не характэрныя для нашага часу. Носьбітамі іх з'яўляюцца людзі старэйшага пакалення. Такіх імён большасць: *Адам, Аксенцій, Анісій, Арцём, Аўрам, Афанасій, Ануфрый, Гаўрыла, Георгій, Герасім, Даніла, Дарафей, Дзям'ян, Дзяменцій, Еўстафій, Іосіф, Ільля, Ляонцій, Лука, Мітрафан, Сямён, Тарас, Піліп, Уласлаў, Фама, Феадосій, Харытон, Якаў, Яўціхій* і інш.

Другую групу складаюць «новыя» імёны, якія выкарыстаны для называння асоб малодшага пакалення 10—15 гадоў: *Алег, Валерый, Ігар, Руслан, Эдуард, Юрый, Яўгеній* і інш. Малая

актыўнасць іх тлумачыцца, напэўна, тым, што яны паступова асвойваюцца сельскім насельніцтвам.

Сустрэліся ў нашых матэрыялах і такія адзінкавыя антрапонімы, якія можна аднесці да экзатычных. Іх нямнога: *Лелян* (Пугачова), *Маўлютбой* (Клейнікі), *Венер* (Прыбарава), напэўна, ад імя Венера. Апошняе ў адносінах да мужчын гучыць некалькі нязвыкла. Незвычайнае ў гэтага чалавека і спалучэнне імя з прозвішчам: *Цар Венер Аркадзьевіч.*

Група частых і рэдкіх мужчынскіх імён, разам узятых, складае 32%.

Даследаваны матэрыял паказвае, што самымі частымі жаночымі імёнамі з'яўляюцца наступныя: *Марыя* (9,2%), *Вольга* (7%), *Ганна* (6,2%), *Таццяна* (5,3%), *Ніна* (4,8%), *Надзежда* (4,6%), *Галіна* (3,7%), *Валянціна* (3,6%), *Наталля* (3,2%), *Алена* (3,2%). Найбольш ужывальныя з іх імёны першай пяцёркі, якія складаюць 32,5% ад усіх назваў жанчын у абследаваных населеных пунктах. Як размяркоўваліся яны па гадах, паказвае табл. 3.

Самым частым, папулярным з'яўляецца імя *Марыя.* Найбольшая інтэнсіўнасць яго ўжывання прыходзіцца на дзесяцігоддзе з 1921 па 1930 г. (14%), затым з 1936 па 1941 г. (19,2%), з 1946 па 1955 г. (21,4%). У астатнія гады яно ўжываецца стабільна, за выключэннем перыяду да 1915 г., дзе ўжыванне яго за два дзесяцігоддзі складае 4,3% ад усіх жанчын, названых гэтым імем. І наадварот, імя *Таццяна* было вельмі папулярным сярод жанчын сталага веку. З 1891 па 1905 г. яно ўжыта 40 разоў, што складае 17%. Даволі часта гэта імя ўжывалася ў наступныя гады. З 1931 г. пачынаецца спад. З 1961 г. папулярнасць яго паступова ўзрастае зноў. Імёны *Вольга* і *Ганна* больш-менш раўнамерна выкарыстоўваліся на працягу ўсяго перыяду (1891—1980). Імя *Ніна* ў першай пяцёрцы па частотнасці займае апошняе месца, ужыта 211 разоў (4,8%). Актыўнасць ужывання яго неаднолькавая: за тры пяцігоддзі (1895—1910) гэтым імем было названа ўсяго 6 дзяўчынак, паступова частотнасць яго ўзрастае, і з 1916 па 1965 г. яно ўжываецца раўнамерна, за выключэннем пяцігоддзя з 1946 па 1950 г., дзе актыўнасць гэтага антрапоніма самая высокая (16% ад усіх жанчын, названых гэтым імем). Затым з 1966 г. пачынаецца спад, і ў пяцігоддзе з 1976 па 1980 г. толькі 2 дзяўчынкі з 15 вёсак атрымалі гэта імя.

Наступную пяцёрку па ступені актыўнасці складаюць антрапонімы *Надзежда* (4,6%), *Галіна* (3,7%), *Валянціна* (3,6%), *Наталля* (3,2%), *Алена* (3,2%). Актыўнасць антрапоніма *Надзежда* такая ж, як і антрапоніма *Ніна.* Цікавым тут з'яўляецца ўжыванне імя *Наталля.* Папулярным яно было сярод жан-

*Табліца 3*

| Імёны | 1896<br>1900 | 1901<br>1905 | 1906<br>1910 | 1911<br>1915 | 1916<br>1920 | 1921<br>1925 | 1926<br>1930 | 1931<br>1935 | 1936<br>1940 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| *Марыя* | 2 | 5 | 7 | 12 | 14 | 39 | 30 | 27 | 41 |
| *Вольга* | 12 | 7 | 16 | 19 | 18 | 19 | 23 | 18 | 15 |
| *Ганна* | 9 | 5 | 7 | 12 | 11 | 13 | 16 | 17 | 22 |
| *Таццяна* | 40 | — | 22 | 22 | 24 | 29 | 17 | 6 | 2 |
| *Ніна* | | 2 | 4 | 7 | 13 | 22 | 24 | 19 | 13 |
| *Надзежда* | | 3 | 2 | 5 | 17 | 13 | 17 | 14 | 19 |
| *Галіна* | | 8 | 6 | 17 | 33 | 24 | 20 | 4 | 1 |
| *Валянціна* | | 7 | 4 | 7 | 20 | 27 | 32 | 12 | 5 |
| *Наталля* | | 33 | 12 | 23 | 16 | 13 | 6 | 2 | — |
| *Алена* | | 16 | 16 | 19 | 18 | 16 | 15 | 2 | 5 |

| Імёны | 1941<br>1945 | 1946<br>1950 | 1951<br>1955 | 1956<br>1960 | 1961<br>1965 | 1966<br>1970 | 1971<br>1975 | 1976<br>1980 | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| *Марыя* | 38 | 49 | 40 | 26 | 13 | 22 | 22 | 24 | 411 |
| *Вольга* | 18 | 26 | 24 | 27 | 15 | 13 | 9 | 13 | 297 |
| *Ганна* | 23 | 21 | 18 | 29 | 19 | 16 | 15 | 11 | 263 |
| *Таццяна* | 4 | 7 | 6 | 4 | 11 | 12 | 15 | 10 | 233 |
| *Ніна* | 16 | 34 | 24 | 10 | 11 | 5 | 4 | 2 | 211 |
| *Надзежда* | 23 | 18 | 27 | 17 | 8 | 8 | 6 | 5 | 202 |
| *Галіна* | 4 | 6 | 1 | 11 | 23 | 5 | 4 | 3 | 169 |
| *Валянціна* | 11 | 15 | 12 | 7 | 1 | 1 | 1 | — | 162 |
| *Наталля* | 3 | 4 | 1 | 2 | 10 | 10 | 8 | 14 | 157 |
| *Алена* | 11 | — | 6 | 5 | 2 | 9 | 7 | 6 | 153 |

чын сталага веку, затым з 1926 г. ступень актыўнасці яго рэзка падае, а ў пяцігоддзе з 1936 па 1940 г. ні адна дзяўчынка не атрымала гэта імя. З 1941 г. яно ўжываецца рэдка (3—4—1—2). Актыўнасць гэтага імя пачынае ўзрастаць з 1961 г. (10—10—8): у 1976—1980 гг. яно ўжыта 14 разоў.

Аналагічны малюнак з імем *Алена.* Частае яно для жанчын старэйшага пакалення. Спад актыўнасці пачынаецца з 1931 г., а ў 1941—1950 гг. у абследаваных вёсках зусім не зарэгістравана. У наступныя пяцігоддзі яно ўжываецца не больш 9 разоў.

Дзесяць пералічаных антрапонімаў па ступені актыўнасці складаюць 48,8%.

Астатнія жаночыя імёны, так як і мужчынскія, можна раздзяліць на дзве групы: 1) імёны частыя і 2) рэдкія імёны.

Антрапонімы першай групы таксама рэзка дзеляцца на дзве групы. Адны з іх ужываюцца для называння жанчын старэйшага пакалення, гэта такія, як *Аляксандра, Антаніна, Анаста-*

*сія, Варвара, Еўдакія, Ефрасіння, Лізавета, Лукер'я, Мелання, Матрона, Палагея, Праскоўя, Ульяна, Фёкла, Яўгенія* і інш. Другія — для называння жанчын сярэдняга і маладога ўзросту: *Вера, Ірына, Любоў, Людміла, Лідзія, Святлана, Соф'я, Тамара, Таісія, Раіса, Аксана, Марына, Ксенія, Дзіна, Зінаіда, Ала.*

У нашых матэрыялах вылучаецца тры групы рэдкіх імён. Першую групу складаюць антрапонімы, якія ў наш час лічацца ўстарэлымі, аджыўшымі. Ужываюцца яны ў абследаваных населеных пунктах 1—2 разы. Сюды мы адносім наступныя: *Агрыпіна, Агаф'я, Акуліна, Алімпіяда, Аліцыя, Аляўціна, Анфіса, Васіліна, Веслава, Ганавера, Дар'я, Зіноўя, Марфа, Мілінціна, Серафіма, Саламаніда, Паўліна, Уліта, Усцімія, Усцінія, Фаіна, Феадосія, Фёкла, Феўронння, Фядора, Яўфімія.* Да другой групы адносім антрапонімы, малая актыўнасць якіх тлумачыцца тым, што яны толькі яшчэ ўваходзяць ва ўжыванне. У асноўным гэта кніжныя, запазычаныя імёны: *Анжэла, Дзіана, Жана, Інэса, Інга, Інаса, Ліка, Лілія, Нона, Нэлі, Разалія, Эльвіра, Эма.*

Да трэцяй групы малаўжывальных антрапонімаў адносяцца імёны каталіцкай іменаназыўной сістэмы, якія ў выніку гістарычных прычын перастаюць ужывацца ў абследаваным рэгіёне. Сюды адносяцца: *Агнешка, Альберціна, Альбіна, Браніслава, Ванда, Гелена, Даменіка, Данута, Далута, Ева, Эва, Казіміра, Караліна, Карашна, Клара, Рэня, Рэгіна, Рэната, Станіслава, Тэрэза, Ядвіга, Яніна.* Сустрэўся адзін двайны антрапонім — *Марыя-Тэрэза* (в. Казловічы Клейнікаўскага с/с). Частыя і рэдкія жаночыя імёны больш разнастайныя, чым мужчынскія, і складаюць 51,2%.

Такім чынам, нашы матэрыялы паказваюць, што магчымасці іменніка рэалізуюцца ў параўнальна невялікай колькасці жаночых і мужчынскіх імён. Папулярнасць адных імён у пэўныя перыяды ўзрастае, другіх — падае.

*Г. К. УСЦІНОВІЧ*

# АНТРАПАНІМІЧНЫЯ ЭЦЮДЫ

У актавых запісах Брэстчыны XV—XVII стст. засведчаны антрапонімы з няясным значэннем. Разгляду такіх антрапонімаў і прысвячаецца гэты артыкул.

ГЛЯД — *панъ Федоръ Глядъ* 1592 АБПС, АВАК VI 148.

Напрошваецца параўнанне з дзеясловам *глядзець,* рус. *гляд* 'взгляд; выкл. як хвать, хлопъ, пырь і інш. выражае ненаўмыснасць' (Даль). У БА II адзначаны прозвішчы: Гляд, Глядка, Глядко, Глядчанка; у Слоўніку стараўкраінскай мовы XIV—XV стст. засведчана асабовая назва Глядъ.

ДРОБИШ — *Михайло Дробишъ* 1401 АБГС, АВАК III 2.

Напрошваецца параўнанне з прыметнікам *дробны* 'шчуплы, нешырокай косці; маларослы; з малымі матэрыяльнымі магчымасцямі; эканамічна слабы; які займае невысокае грамадскае або службовае становішча' (ТСБМ). Утварэнні з суфіксам *-іш/-ыш* пашыраны ў рускіх (Теплов) і беларускіх дыялектах (*галыш* 'голы', *зялёныш* 'зялёны', *карыш* 'каравы', *дробіш* 'дробны', *беліш* 'белы', *чарныш* 'чорны' і інш.). Мянушка можа быць утворана таксама і ад дзеяслова *драбіць* 'разбіваць, дзяліць, крышыць на дробныя часткі; расчляняць, раз'ядноўваць на асобныя часткі; рабіць што-н. (іграць, гаварыць і пад.) у залішне паскораным тэмпе'; *драбнець* 'станавіцца драбнейшым па велічыні, змяншацца ў памерах' (ТСБМ), рус. *дробнеть* 'драбніцца, дзяліцца, разбівацца на часткі' (Даль). Ва ўкраінскай мове адзначана *дробитько* 'які гаворыць хутка і невыразна' (Грынч.). Не выключана, што магчыма і ўтварэнне ад слова рус. *дробь,* укр. *дріб* 'хатняя птушка; дробная свойская жывёла — козы, авечкі', балг. *дроб* 'печань, лёгкія', чэш. *drob* 'кавалачак, крошка', польск. *drób* 'дробязь, крошка' (Фасмер, 1).

ЖЕДЫК — *Андрей Жедыкъ* 1665 АБГС, АВАК IV 11.

Мянушка, магчыма, звязана з беларускім дыялектным драгіч. *жед* 'яўрэй'. У частцы гэтых гаворак пад націскам *ы* давала *е*. Відаць, гэта з'ява і адлюстравалася ў мянушцы Жедык.

З другога боку, у драгічынскіх гаворках ёсць слова *шэдык* 'пояс'. Разам з тым можа ўзыходзіць да праславянскага *žęd-ja*.

ЗАРАНКА — *Өедора Заранка* 1568 АБЗС, АИАК II 224.

Мянушка, відаць, утварылася ад беларус. *заранка* 'ранішняя або вячэрняя зорка' (ТСБМ).

ЗВЕР — *Криштофомъ Звѣромъ* 1599 АБПС, АВАК VI 176.

Мянушка звязана са словам *звер* 'дзікая, лютая, драпежная жывёліна', 'вельмі злы жорсткі чалавек' (ТСБМ); рэг. 'бязлітасны, жорсткі чалавек' (навагруд.); рус. *зверь* 'чалавек, падобны звеpу' (Даль).

КОРАБИК — *у Кузьмы Корабика* 1660 АБГС, АВАК III 351.

Можна параўнаць з беларус. *караблік* 'галаўное ўпрыгожванне жанчыны' (Нас.), рус. *кораблик* 'старынная цёплая шапка мужчынская і жаночая, у якой зад і перад задраны былі насамі ўверх' (Даль), **кораб* (цсл. *корабь)* 'карабель' (Слоўнік староўкраінскай мовы, XIV—XV стст., Київ, т. 1, 1977, с. 496). Аднак не выключана, што мянушка гэта можа быць утворана і ад дзеясл. рус. *корябить* 'баранаваць' (гл. этымалогію ў Фасмера, II, 190).

МАЛЧА — *Малча Василій Мальчу* 1645 АБГС, АВАК III 340.

Утварэнне *Малча* ад (**малъка)*<*мал* — 'малы'. Параўн. курск. *малка* 'хлопчык, хлапчук, малы хлопец' (Даль), *малка* 'дзіця, хлопчык, дзяўчынка; маларослы чалавек, каратыш; меншы, малодшы ў сям'і, апошні сын ці дачка, брат, сястра' (Даль). Суфікс -**ę* (ва ўскосных склонах -**ęt-)*. Аналагічна ўтварэнню **děvъka* — **děvъčę* (укр. *дівчá,* бел. *дзяўчá*): *malъka* — **malъčę* > *Малчá.*

Можна таксама выводзіць *Малча (*malъčę)* непасрэдна ад слова *малец (malьcь).*

МЕЛЬВИД — *Мальхеръ Габриелъ Мельвидъ* 1665 АБГС, АВАК IV 20.

Па ўсяму відаць, што гэта старое складанае слова **мель* 'мел'— *видъ* 'відны'— прыметнік. **Мельвидъ* хутчэй за ўсё мела значэнне 'які мае бледны від'. Утварэнні на-вид вядомы.

Аднак **мельвидъ* можа быць і не прыметнікам, а складаным назоўнікам ('мелавы від'). У слоўніку Даля зафіксавана наступнае слова — *мѣловидный* 'знешнасцю на мел падобны'.

МОРКГЕЙ — *Миколай Моркгей* 1597 Бр., АВАК XIV 616.

Хутчэй за ўсё слова ўтворана ад дзеяслова *маргаць* і *моргаць* 'падымаць і апускаць павекі; падаваць знак; зяваць' (ТСБМ) і суфікса *-ей.* У беларускіх дыялектах сустракаецца форма *маргай* 'хто часта маргае, маргун' (навагруд.). Аналагічныя ўтварэнні на *-ей/-ай* ёсць і ў рус. дыялектах *моргач, моргун, моргу-*

*ша, маргуха, маргай* 'хто часта маргае; валацуга; залётнік; разявака, гультай' (Даль). Магчыма і ўтварэнне ад літоўс. *mãrgas* 'стракаты', *mar̃guoti* 'пераліввацца'.

ПУТИЛО — *Конона Ярофеевича Путила* 1584 АБЗС, АИАК II 255.

Можна зрабіць спробу звязаць гэтую мянушку з рус. *путать* 'гаварыць блытана, супярэчліва і няясна, памылкова, непраўдзіва; збіваць з толку, наводзіць прыдзіркамі на неўласцівыя адказы' (Даль). Утварэнні з суфіксам *-ло/-ла* вядомы як у беларускіх дыялектах, напрыклад: (навагруд.) *круціла* 'круцель', *муціла* 'махляр, хітрун', так і ў гутарковай мове. Гэта мянушка магла быць утворана ад укр. *путівець* 'палявая дарога' (Грынч.). У рускай мове засведчана *путило* 'той, хто звязваў рукі' (Мірасл.).

ПУТЯТА — *пана Сасина Путяты... Сасинъ Путята* 1585 АБЗС, АИК I 12.

Напрошваецца параўнанне з беларускім дыялектным драгіч. *пу́тя* 'куранятка, курачка' і суфікса *-ат / -ят*. Аднак, магчыма, што мянушка Путята ад літоўс. *pùtė* 'курыца', *putýtis* 'птушачка', латв. *putns* 'птушка' (гл. БЛ, с. 66). Пры дапамозе суфікса *-ат/-ят* называлі дзяцей, нашчадкаў па імені бацькі.

ПУКЛЯ — *Костентина Пукля* 1589 АБГС, АВАК VI 39.

Напрошваецца параўнанне з рус. *пукля* 'локан валасоў' (Даль), польск. *pukla, pukiel* 'локан', чэш. *pukla* 'горб'. Разам з тым ёсць рус. *пукли* 'металічныя закругленыя бляшкі на царкоўных кнігах; буклі', польск. *pukli* < чэш. *pukle* < ням. *Buchel* (Булыка). Аднак, магчыма, што мянушка Пукля ўтворана ад дзеяслова беларус. *пукацца,* укр. *пу́кнути* 'стукнуць; лопнуць, трэснуць' (Грынч.). Формы з суфіксам *-ля* адзначаны ў беларускіх дыялектах, напрыклад: *лёпля* ад лёпаць, *рохля* ад рохаць, *мытля* ад мыць і інш.

СОЛТАН — *Давида Солтана* 1604 АБЗС, АИК I 20.

Дакладна можна сказаць, што слова гэта іншамоўнае — тур. *sultan, soldan* 'правіцель, султан, манарх' < араб. *soldan* (Булыка).

ТОНКОВИД — *паномъ Яномъ Тонковидомъ* 1661 АБГГС, АВАК V 22.

Відаць, што гэта складанае слова *тонкий — вид 'танклявы, тонкі з выгляду'.

ХМЕЛЬ — *Станислава Хмеля* 1586 АБПС, АВАК VI 142.

Мянушку можна звязаць з назвай расліны хмель (ТСБМ, Грынч., Даль). Аднак, магчыма, і ад *хмель* 'ап'яняючы напітак' (Грынч.), 'стан ап'янелага' (Даль).

ХОХЛИК — *Хведякъ Хохликъ* 1591 Бр., АВАК XIV 403.

Мянушка, магчыма, з'яўляецца памянш. ад *хахол* (Нас.), рус. *хохол, хохлик* 'чуб, клок шэрсці, валасоў на галаве; узбітыя ўверх валасы над ілбом' (Даль), зах. *хохлік* 'чорт, д'ябал' (Даль), польск. *chochlik* 'дамавік'. Не выключана, што мянушка магла быць утворана і ад дзеяслова *хахлаціць* 'рабіць хахлатым' (Даль).

ЦВИЛИК — *Антономъ Цвиликомъ* 1589 АБГС, АВАК VI 75.

Магчыма, памяншальнае ўтварэнне ад *цвіль* 'запляснелы прадмет; гніль' (ТСБМ, Грынч.), рус. *цвиль* 'зялёны налёт на рэчах, прыпасах ад сырасці, гнілі' (Даль). Матывы называння розныя. Можна дапусціць, што першапачаткова гэта была мянушка жартаўлівая (чалавек, якога так звалі, можа быць, выглядаў дрэнна, меў бледны твар). А так як існуе беларус. дзеяслоў *цвяліць* 'раздражняць' (БРС), рус. *цвелить* 'злаваць, засмучаць, мучыць' (Даль), укр. *цвілúти* 'біць', мянушка ўтворана суфіксам *-ик* пры пераходзе *я ў і*, характэрнага для тэрыторыі Брэстчыны. З другога боку, можна звязаць і са ст.-польск. *chylich* < с. в. н. *zwilich* 'палатно, тканае ў дзве столкі' (Булыка, 348).

ЦЕТНАР — *Иванъ Цетнаръ* 1485 АБГС, АВАК III 5.

Адно можна сказаць, што слова гэта іншамоўнага паходжання, дакладней, нямецкае Zentner з лац. > *centēnārius* 'які важыць сто фунтаў' і прыйшло праз польскую мову (cetnar, centnar, гл. Фасмер, IV).

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

### Крыніцы


АВАК — Акты, издаваемые Виленской Археографической комиссией. Т. 14. Инвентари имений XVI столетия.— Вильна, 1887.— 702 с. АВАК, АБГГС — Акты, издаваемые Виленской Археографической комиссией. Т. 5. Акты Брестского и Городненского гродских судов.— Вильна, 1871.— 450 с. АВАК, АБГС— Акты, издаваемые Виленской Археографической комиссией. Т. 3—4. Акты Брестского поветового суда.— Вильна, 1872.— 593 с. АИАК, АБЗС — Акты, издаваемые Археографической комиссией, высочайше учрежденною в Вильне. Т. 2. Акты Брестского земского суда.— Вильна, 1867.— 361 с. АИК, АГЗС — Акты, издаваемые комиссией, высочайше учрежденною для разбора древних актов. Т. 1. Акты Гродненского земского суда.— Вильна, 1865.— 377 с.

БА II — Бірыла М. В. Беларуская антрапанімія. 2. Прозвішчы, утвораныя ад апелятыўнай лексікі.— Мн., 1969.— 505 с.

БЛ — Беларуская лінгвістыка.— Мн., 1980, вып. 17.— 80 с.

Булыка — Булыка А. М. Даўнія запазычанні беларускай мовы.— Мн., 1972.— 374 с.

Грынч.— Словарь української мови.: У 4-х т.— Київ, 1907—1909.

Даль — Толковый словарь живого великорусского языка.— 2-е изд.— СПб; М., 1881.

Мірасл.— Мирославская А. Н. Древнерусские имена и прозвища в Нов-

городских записных кабальных книгах 100—104 и 111 годов.— Учен. зап. Калининград. гос. пед. ин-та, 1959, вып. 6.
Нас.— Носович И. И. Словарь белорусского наречия.— СПб, 1870.
Теплов — Теплов Е. Ф. Лексико-семантические разряды.— У кн.: Актуальные проблемы лексикологии. Мн., 1976.— 248 с.
ТСБМ — Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: У 5-ці т.— Мн., 1977—1984.
Фасмер — Фасмер М. Этимологический словарь русского языка.— М., 1971.

## Іншыя скарачэнні

Араб.— арабскае
балг.— балгарскае
беларус.— беларускае
выкл.— выклічнік
драгіч.— драгічынскае
польск.— польскае
рус.— рускае
ст.-польск.— старажытнапольскае
зах.— заходняе
латв.— латвійскае
літоўс.— літоўскае
навагруд.— навагрудскае
ням.— нямецкае
тур.— турэцкае
укр.— украінскае
цсл.— царкоўнаславянскае
чэш.— чэшскае

*В. П. ЛЕМЦЮГОВА*

# АБ АДНОЙ РАЗНАВІДНАСЦІ АПЕЛЯТЫЎНЫХ ТАПААСНОЎ
## (НА МАТЭРЫЯЛЕ ТАПАНІМІІ БРЭСТЧЫНЫ)

Назіранні Н. І. Бабушкінай, В. М. Емельяновіч, Н. І. Васілюк, Л. Ф. Бараўковай і Н. Я. Кулагі паказалі, што ў працэсе фарміравання тапаніміі Брэстчыны шырока выкарыстоўваліся самыя разнастайныя класы апелятыўнай лексікі. З аднаго боку, гэта назвы, якія абазначаюць прыродна-геаграфічныя паняцці, з другога — назвы, якія характарызуюць умовы жыцця і вынікі практычнай дзейнасці людзей.

Самую распаўсюджаную катэгорыю апелятыўных тапаасноў складаюць прыродна-геаграфічныя тэрміны, якія адлюстроўваюць спецыфіку элементаў прыроды (рэльефу, гідраграфіі і т. п.). Ад іх утворана звыш 45% айконімаў Брэстчыны [1]. Паводле В. М. Емельяновіч [2], гэта група лексікі з'яўляецца адной з асноўных крыніц фарміравання мікратапаніміі паўночна-заходняй яе часткі. Да такога ж вываду прыходзіць і Н. І. Васілюк [3], даследуючы лексіка-семантычныя тыпы трох раёнаў беларускага Пабужжа.

Удзельная вага тапаасноў, суадносных з тэрмінамі, якія абазначаюць вынікі чалавечай дзейнасці, некалькі ніжэй. Але і яны, па адзінадушнаму прызнанню даследчыкаў, адыгралі істотную ролю ў тапонімаўтваральным працэсе Брэстчыны. Тапонімы фіксуюць назвы амаль усіх важнейшых сфер чалавечай дзейнасці: промыслаў і вытворчых прадпрыемстваў, жыллёвых і гаспадарчых збудаванняў, шляхоў зносін і водных пераправаў, зямельных участкаў рознага гаспадарчага прызначэння, тыпаў пасялення і іх частак, штучных вадаёмаў і інш.

---

[1] Падлікі зроблены на аснове матэрыялаў, змешчаных у кнізе Я. Н. Рапановіча «Слоўнік назваў населеных пунктаў Брэсцкай вобласці».— Мн., 1980.— 176 с.

[2] Емельянович В. М. Микротопонимия северо-западной части Брестской области. Дис. ... канд. филол. наук.— Мн., 1982 (рукапіс), с. 81.

[3] Гл. артыкул «Лексіка-семантычныя тыпы мікратапаніміі паўднёва-заходняй часткі Брэстчыны», змешчаны ў гэтым жа зборніку.

Найбольшую цікавасць уяўляюць, на наш погляд, тапаасновы са значэннем 'тып пасялення'. У іх адлюстроўваюцца асаблівасці сацыяльна-эканамічнага і палітычнага жыцця народа, узровень яго матэрыяльнай і духоўнай культуры, сувязі з іншымі народамі.

Тапонімаў з гэтай лексічнай асновай у межах сучаснай Брэстчыны параўнальна нямнога. Але ў іх утварэнні прыняло ўдзел звыш 20 лексем і іх форм: *воля, волька (вулька), выстаўка, горад, гарадзец, гарадок, гарадзішча, двор, дварэц, дворышча (дворыско), засценак, калонія, маёнтак, місто, пагост, паліварак* (мясцовая назва фальварка), *прысяленне, сяло, селішча (селіска), слабада, сядзіба (садыба), хутар.*

З пункту погляду сучаснага стану беларускай мовы значэнне 'тып пасялення' ўласціва названым лексемам не ў аднолькавай ступені. Адны з іх *(сяло, горад, хутар)* трывала замацаваліся ў гэтым значэнні, другія *(гарадзец, гарадок, міста, засценак, слабада, фальварак)* адносяцца да гістарычных, трэція *(пагост, выстаўка, воля, двор, дворышча)* страцілі гэта значэнне і выйшлі з ужытку. Таму зразумела, што семантычная сувязь тапонімаў з гэтай групай лексікі ўстанаўліваецца толькі на аснове дыяхранічнага аналізу.

Рамкі артыкула не дазваляюць прасачыць працэс тапанімічнага пераасэнсавання кожнай з названых лексем. Таму абмяжуемся разглядам толькі тых тапаасноў, якія суадносяцца з найбольш тыповымі для Беларусі назвамі тыпаў пасялення, улічваючы ў першую чаргу паказанні старабеларускіх помнікаў і дыялектаў [4]. Да іх ліку аднесены: *сяло, сялец, воля, двор, дварэц, дворышча, калонія, фальварак, засценак, гарадок, гарадзец,* а таксама апелятывы *селішча* 'месца, дзе было паселішча', *гарадзішча* 'месца, дзе быў горад, гарадок', якія прымыкаюць да гэтай групы лексікі тэматычна і эпізадычна адзначаюцца ў функцыі тыпу паселішча.

*Сяло* — старажытнае агульнаславянскае слова, засведчанае пісьмовымі помнікамі X—XI стст. (Сразн., 3; Філін, 150). А. А. Патэбня [5] лічыў, што не пазней чым у сярэдзіне X ст. яно абазначала тып пасялення. Паводле Н. Н. Вароніна [6], гэта былі княжаскія сёлы, якія служылі ў якасці загарадных дач.

---

[4] Больш падрабязна аб гэтых і іншых тапаасновах са значэннем 'тып пасялення' гл.: Лемтюгова В. П. Восточнославянская ойконимия апеллятивного происхождения.— Мн., 1983, с. 197.

[5] Потебня О. О. Этимологические заметки.— Русский филологический вестник. Варшава, 1881, т. 5, № 1, 2, с. 111.

[6] Воронин Н. Н. К истории сельского поселения феодальной Руси.— Изв. гос. Академии истории материальной культуры. Л., 1935, вып. 138, с. 42.

Б. А. Рыбакоў[7] дапускае, што існавалі і сёлы княжаскіх баяр-воінаў, якія ў IX—X стст. размяшчаліся вакол гарадоў.

Увогуле ж слова *сяло* на радзе этапаў свайго развіцця валодала полісемічнасцю: абазначала 'тып пасялення', 'зямельнае ўладанне', 'сялянская гаспадарка' і іншыя паняцці.

У старабеларускіх помніках XV—XVI стст. яно ўжывалася ў некалькіх значэннях: 'зямельная ўласнасць', 'памесце', 'феадальнае землеўладанне' (замест больш ранняга 'землеўладанне' безадносна да класавай прыналежнасці), 'цэнтр абшчыны або акругі', 'населены пункт'[8].

У другой палавіне XVI ст. у заходніх беларускіх землях у сувязі з развіццём фальваpачнай і дваровай гаспадаркі сяло паступова страчвае свае ранейшыя функцыі і ператвараецца ў галоўнае сялянскае паселішча, залежнае ад уладальніцкіх двароў, дварцоў, замкаў, фальваркаў. У сувязі з правядзеннем у жыццё рэформы «Устава на валокі» значная колькасць старажытных сёл была знесена, а іх землі раздадзены пад панскія сядзібы. У гэтых выпадках лексема *сяло* (часцей за ўсё ў складзе словазлучэння) ужывалася ў якасці ўласнай назвы новага паселішча.

Другой крыніцай тапонімаў з'явіліся сёлы «на сыром корне», аб якіх паведамляюць помнікі XIV—XVII стст. У выніку збяднення лясной глебы яны сістэматычна ператвараліся ў пусташы, якія праз некаторы час, як правіла, засяляліся паўторна. Новае паселішча атрымлівала назву *Старое Сяло* або *Новае Сяло* ў залежнасці ад таго, што хацеў падкрэсліць яго ўладальнік: «гэта паселішча на месцы ранейшага сяла» ці «гэта сяло новае».

Апрача таго, пры дварах, фальварках і маёнтках былі невялічкія сёлы агароднікаў, якія прыходзілі ў заняпад, калі складваліся неспрыяльныя ўмовы для развіцця гаспадаркі землеўладальніка. Сяляне імкнуліся не заводзіць пастаянных паселішчаў на шляхецкай зямлі, баючыся на аснове «Закона даўнасці» ператварыцца ў прыгонных.

Такім чынам, умовы для тапанімізацыі лексемы *сяло* на тэрыторыі Беларусі з'явіліся ўжо ў XIV ст. Асабліва спрыяльнымі, на наш погляд, яны былі ў XVI—XVII стст. Іменна ў гэты перыяд часцей за ўсё сустракаюцца тапонімы з гэтай асновай: *тые люди... привернулъ к Красному селу* (АЛМ, I, вып. 1, 97; 1502); *в ыменью ей мл., прозываемомъ в Старомъ Селе* (АВАК,

---

[7] Рыбаков Б. А. Древности Чернигова.— Материалы Института археологии. М., 1949, т. 1, с. 51.

[8] Шадурскі І. В. Сельскагаспадарчая лексіка ў старабеларускай пісьмовай мове. Дыс. ... канд. філал. навук.— Мн., 1967, с. 124.

XXXVI, 130; 1582, Мінскі павет); *ze wsi Nowego sioła* (АВАК, XXX, 503; 1659).

Але паколькі слова *сяло* працяглы час выконвала функцыю агульнай назвы паселішча, тапанімічная функцыя не заўсёды была ясна выражанай, у першую чаргу ў тых выпадках, калі яно адначасова з'яўлялася агульнай назвай паселішча і адным з кампанентаў яго ўласнай назвы (сяло *Княжае Сяло*).

У складзе сучаснай айканіміі Брэстчыны толькі дзве назвы з асновай сяло (*Вялікае Сяло, Крывое Сяло*). Значна часцей сустракаюцца мікратапонімы (*Сяло, Село, Сыло, Засяло, За сялом, Проці Сяла*) [9]. Звычайна гэта ўласныя назвы частак вёсак, населеных пунктаў або суседніх з сялом аб'ектаў.

У мінулым (нават не такім далёкім) назваў, суадносных з лексемай *сяло,* на Брэстчыне было значна больш. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова звярнуцца да Спіскаў населеных месц Расійскай імперыі другой палавіны XIX — пачатку XX ст. (Гродзенская губерня).

**Сялец* як агульная назва тыпу пасялення не адзначаецца ні ў старапісьмовых, ні ў дыялектных крыніцах. Яна рэканструюецца на аснове тапонімаў. Граматычная форма, а таксама словаўтваральныя аналагі ад іншых каранёў (*гарадзец, дварэц, пасадзец*) дазваляюць дапусціць, што ў беларускіх дыялектах (прыкладна ў XV—XVII стст.) функцыяніраваў апелятыў *сялец,* які служыў для абазначэння дробнага паселішча. Праўда, у сучасных усходнеславянскіх мовах няма прыкладаў утварэння апелятываў з дэмінутыўным суфіксам *-ец* ад асноў назоўнікаў ніякага роду. Але яны ёсць у тапаніміі: *Азярэц — возера, Лядзец — ляда.* Значыць, у прынцыпе магчыма і форма *сялец* ад *сяло.* Але застаецца няясным, на якім узроўні яна з'явілася: апелятыўным ці тапанімічным. З аднаго боку, існаванне тыпу паселішча *сялец* ускосна пацвярджаецца айконімамі *Сялец Малы, Сялец Новы, Сялец Стары,* азначальныя кампаненты якіх складаюць тыповую рысу словазлучэнняў з іншымі тыпамі паселішчаў (параўн. *Малое Сяло, Новае Сяло, Старое Сяло, Рускае Сяло*). З другога боку, нельга не ўлічваць і тапанімічнай сітуацыі ў раёне функцыяніравання тапонімаў з асновай *сялец.* Па даных Спіскаў населеных месц Расійскай імперыі, большасць іх прыпадае на Мінскую, Віленскую, Гродзенскую, Магілёўскую, Валынскую і Смаленскую губерні, зрэдку адзначаюцца таксама ў Віцебскай, Арлоўскай і Чарнігаўскай. Як бачым, арэал айконімаў *Сялец* склаўся ў межах усходнеславянскіх зя-

[9] Мікратапонімы ўзяты з дыс.: Емельянович В. М. Микротопонимия северо-западной части Брестской области, а таксама з кн.: Мікратапанімія Беларусі.— Мн., 1974.— 326 с. У далейшым без спасылак.

мель, якія часова знаходзіліся ў складзе Рэчы Паспалітай. Значыць, не выключана магчымасць, што *сялец* як гатовая лексічная адзінка або як тапанімічная мадэль была запазычана з польскай мовы, дзе яна мела форму *седлец*. На пачатковым этапе такія назвы, відаць, прысвойваліся населеным пунктам у форме мужчынскага роду. Нават у перыяд публікацыі Спіскаў населеных месц Расійскай імперыі сярод населеных пунктаў з назвай *Сялец* нямала засценкаў, фальваркаў, хутароў, пастаялых двароў. У акружэнні тапонімаў на *-ец*[10] больш выразна выкрышталізавалася іх тапанімічная функцыя, у выніку чаго яны маглі быць выкарыстаны ў якасці ўласнай назвы любога тыпу пасялення.

У старабеларускіх і стараўкраінскіх помніках тапонімы *Селец* адзначаюцца з другой палавіны XVII ст. і да пачатку XIX ст.: *у дворе Се(л)цу* (ДМВН, 209; 1650, Житомир); *село Селецъ* (АВАК, XXIV, 327; 1654—1667); *Wieś Siełec* (АВАК, XXXIV, 189; 1660, Пінскі павет); *въ мѣстѣчкѣ Селецъ* (АВАК, XXXVII, 12, 37; 1812).

У помніках гэта назва сустракаецца рэдка. Але ў межах вышэй упамянёных губерань яна паўтараецца 50 разоў.

Да нашага часу дайшлі асобныя з гэтых назваў. На Брэстчыне іх толькі дзве (у Кобрынскім і Бярэзінскім р-нах).

*Селішча* ў адпаведнасці з этымалагічнай прыродай суфіксальнай марфемы *-ішч-* (указаннем на ранейшае месцазнаходжанне прадмета) абазначала 'месца, на якім было сяло ці якоенебудзь іншае паселішча'. Ва ўсходнеславянскіх мовах *селішча* вядома і як тып пасялення. Асабліва трывала замацавалася яно ў гэтым значэнні ва ўкраінскай мове. І. В. Шадурскі[11] прыводзіць выпадкі ўжывання селішча ў якасці пасёлка або двара ў старабеларускай мове XV—XVII стст. Паводле яго, селішчамі іменаваліся таксама 'ўчастак зямлі на месцы былога паселішча', 'участак, адведзены пад сядзібу ці заняты ёю', 'сялянскае землеўладанне'.

У любым з указаных значэнняў слова *селішча* магло быць выкарыстана ў якасці тапаасновы. Гэтым у значнай ступені абумоўлена яго высокая актыўнасць у тапонімаўтваральным працэсе.

У тапанімічнай функцыі *селішча* выступае ў помніках XVI—XVIII стст. Гэта назвы ніў, палёў, сенажацяў, урочышчаў, сёл, засценкаў, маёнткаў: *на властномъ кгрунтѣ его на ниве, прозы-*

---

[10] Найбольш канцэнтрыраваная частка іх арэала, паводле матэрыялаў Спіскаў населеных месц Расійскай імперыі, накладваецца на тэрыторыю названых вышэй губерань.

[11] Шадурскі І. В. Сельскагаспадарчая лексіка ў старабеларускай пісьмовай мове..., с. 134, 138.

*ваемой Селищо Старое* (АВАК, XXVI, 363; 1586); *до врочища Высокого Селища* (РППЗ, 48, 1559); *при селе Селищах* (АВАК, XXIV, 495; 1665); *застенокъ Селище* (АВАК, XXV, 143; 1558). У радзе помнікаў сустракаюцца тапонімы ў паланізаванай форме *(Siedlisko)*.

На тэрыторыі Брэстчыны функцыяніруюць два айконімы, суадносныя з апелятывам *селішча (Селішча)*. У межах двух раёнаў (Пружанскага і Камянецкага) В. М. Емельяновіч выявіла тры мікратапонімы з гэтай асновай (поле *Селішча*, поле *Сэлэшчэ*, поле *Заселішчэ*, лес *Старое Селіска*).

*Воля* і вытворныя *волька, вулька* ў старабеларускіх помніках XV—XVI стст. абазначалі 'часовае вызваленне новых пасяленцаў ад феадальных павіннасцей і падаткаў'. З XVI ст. пад гэтымі назвамі разумеецца таксама 'пасёлак на новым месцы, насельніцтва якога часова вызвалялася ад уплаты павіннасцей і падаткаў'. Тую ж семантыку мае гэта слова і ў старапольскай мове (Карловіч, Ліндэ) і стараўкраінскай (СлСУМ, 1). Але на тэрыторыі Беларусі і Украіны яго ўжыванне абмяжоўваецца выключна раёнамі, якія знаходзіліся ў сферы польскага ўплыву. Слова *воля* з'явілася тут у перыяд заснавання польскімі памешчыкамі сялянскіх паселішчаў на льготных умовах.

У афіцыйных пісьмовых дакументах гэты тып пасялення сустракаецца досыць рэдка, паколькі на час вызвалення ад падаткаў волі не мелі гаспадарчага значэння. Пасля ж заканчэння вызначанага тэрміна яны пераходзілі ў катэгорыю «цяглых» сёл або вёсак. У выніку патрэба ў ранейшай назве паселішча адпадала, і яна трапляла ў разрад уласных імён. Тапанімічнае пераасэнсаванне слова *воля* адбывалася і ў выпадку знікнення льготнага паселішча і з'яўлення на яго месцы зямельнага ўчастка, прыгоднага для эксплуатацыі.

У пісьмовых помніках тапонімы з асновай *воля* адзначаюцца ў другой палавіне XVI ст.: *село Долгая Воля, весь Красная Воля* (АВАК, II, 209; 1580); *зъ Старой Воли подданые его Василь, зъ жоною, зъ дѣтьми* (АВАК, VI, 911; 1589, Берасцейскае ваяводства).

Самая вялікая колькасць іх прыпадае на сярэдзіну XVII ст., калі маса беларускага насельніцтва бегла ад прыцяснення памешчыкаў у Маскоўскую слабадскую ўкрайну і іншыя землі, не дачакаўшыся тэрміна заканчэння льготы.

У складзе тапаніміі сучаснай Брэстчыны слова *воля* адзначаецца часцей, чым назвы іншых тыпаў пасяленняў. У большасці выпадкаў выступае дэмінутыўная форма гэтага слова *волька* (польскі варыянт *вулька*): *Волька, Вулька, Вялікая Вулька, Вулька Драгічынская, Вулька Малая, Лаўская Вулька, Падга-*

*родская Вулька, Папінская Вулька, Целяханская Вулька.* Мікратапонімы з гэтай асновай адзначаюцца рэдка.

*Двор* — агульнаславянскае слова. Паводле старажытнарускіх і стараpускіх помнікаў X—XV стст., яно абазначала 'жыллё', 'дом', 'сядзіба' (Сразн., 1; Філін, 157).

На ўсходнеславянскай тэрыторыі слова *двор* набывае асабліва шырокую вядомасць у сувязі з развіццём феадальнага землеўладання. Ва ўмовах Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай яно мае рад спецыфічных рыс. У пачатковы перыяд знаходжання Беларусі ў складзе Вялікага княства Літоўскага дваром называецца маёнтак, феадальнае памесце, а таксама сялянскае землеўладанне: *Билъ намъ чоломъ панъ Троцкій, намѣстникъ Полоцкій,... просилъ въ насъ имѣнія, двора, на имя Дубины* (АЛМ, I, вып. 1, 95; 1496); *спустилъ ему дворъ свой Заозерье съ озеромъ, и зъ пашнями... и со всимъ тымъ, што къ тому двору прислухаеть* (АЛМ, I, вып. 1, 59; 1495, Вильна); *Дали есмо конюшому... Виленскому и дворному пану Михайлу дворъ Вагановъ и приселки Свѣтычово и Поникві...* (АЛМ, I, вып. 1, 14; 1466).

Яшчэ ў раннефеадальны перыяд на тэрыторыі Беларусі былі двары вялікакняжацкія, якія служылі ў якасці гаспадарчых і палітычных цэнтраў. Побач з імі з XIV ст. пачынаюць з'яўляцца двары баярскія, панскія і шляхецкія. Усе яны размяшчаюцца адасоблена ад іншых пасяленняў і з'яўляюцца не толькі сядзібай, але і месцам пражывання, пасёлкам.

Вядомы таксама двары-фермы, прызначаныя для апрацоўкі зямлі і жывёлагадоўлі, прамысловыя двары-станы.

Дварамі называліся і будынкі, якія служылі месцам прыпынку князя ці караля ў час палявання: *се садили на мѣстцахъ погожихъ, и для будованья дворов пріѣханья короля его милости въ ловъ въ тыхъ пущахъ* (РППЗ, 1; 1559).

Другая палавіна XVI — першая палавіна XVII ст.— перыяд росквіту ўладальніцкай гаспадаркі. З другой палавіны XVII ст. яна пачынае прыходзіць у заняпад у сувязі з развіццём таварных адносін і масавым бегствам сялян ад непасільнага прыгнёту феадалаў-землеўладальнікаў. Частка двароў па гэтых прычынах перастала існаваць. Ужо ў першай палавіне XVI ст. сустракаюцца паведамленні тыпу *«на томъ мѣстцы былъ дворъ коралевскій* (Арх. зб., I, 15; 1536). Пустыя ўчасткі ператвараліся ў палі і ўрочышчы, якія маглі быць выкарыстаны для новых пасяленняў. Такія ўчасткі і пасяленні захоўвалі памяць аб былых дварах у сваіх уласных назвах.

Тапонімы з лексічнай асновай *двор* адзначаюцца ў старабеларускіх помніках XVI—XVII стст.: *до врочища Княжего Двора*

(РППЗ, 7; 1559); [*село*] *Новый Двор на Белой в Пинскомъ повете* (АВАК, XVIII, 143, 145; 1613); *dobra Dwór nazwane w powiecie Pinskim* (АВАК, VIII, 596; 1648); *Новый Дворъ, им. в Пинском повете* (АВАК, XIII, 203; 1630).

Некалькі назваў функцыяніруе ў сучаснай тапаніміі Брэстчыны: *Новы Двор, Стары Двор, Новыя Дворы, Задвор'е.* Мясцовыя старажылы сведчаць аб паходжанні некаторых з іх. Вядома, што назву Двор носіць частка вёскі Непамацінаўкі, дзе раней знаходзіўся панскі двор. Поле *За дваром* (в. Сухопаль) атрымала сваю назву за суседства з былым панскім дваром. Палі *Дворнае* (вёскі Стараволя, Шэні і Шубічы) у мінулым уваходзілі ў склад зямельных уладанняў панскіх двароў.

Мікратапонімы *Задвор'е* (вв. Обруб і Доўгае), *Кала двара* (в. Шпакі) фіксуюць слова двор у яго сучасным значэнні. Падставай для іх утварэння з'явілася суседства з калгаснай сядзібай (дваром).

Найбольш спрыяльныя ўмовы для тапанімізацыі лексемы *двор* склаліся ў другой палавіне XVII і XVIII ст., калі пачаўся заняпад уладальніцкай дваровай гаспадаркі на тэрыторыі Беларусі.

*Дварэц* — дэмінутыў ад слова *двор*. Паводле старабеларускіх помнікаў, гэта агульная назва невялікага па памеры феадальнага памесця, г. зн. населенага землеўладання: *завели есмо ... имениче ншое... то есть самый дворецъ з будованьемъ домовымъ и гуменнымъ* (АВАК, XXXII, 206; 1576). У радзе кантэкстаў выступае як цэнтр землеўладання: *панъ Янъ далъ ему дворецъ свой... зъ людми, и со всимъ тымъ, што къ тому дворцу здавна прислухало* (АЛМ, I, вып. 1, 120; 1496).

Разам з тым гэта слова абазначала 'будынак на выпадак прыезду пана', 'жыллё чэлядзі', 'комплекс пабудоў для розных гаспадарчых патрэб', 'скацінны двор': *при томъ же селѣ Луницу есть дворецъ на приѣздъ панскій збудованый, въ которомъ нихто не мѣшкаетъ* (АВАК, XIV, 339; 1594); *Дворецъ не подалеку двора, изба черная въ дворцу и зъ сынми рикунья зъ мыта служитъ* (Арх. зб., IV, 240; 1571); *Дворецъ, гдѣ рикунья живетъ* (Арх. зб., I, 146; 1571); *на гьздъ кгвалътовны на домъ шляхетъски, не только на самы дворъ але и на гумно або на дворецъ, гдѣ быдло и иншое домовое господаръство бываеть ховано* (Стат. 1588, 167; КГСБМ); *дворецъ двора Южынтского, где быдло дворное ховаютъ* (АВАК, XXXII, 414; 1596).

Такім чынам, *дварэц* на тэрыторыі Беларусі па гаспадарчай функцыі або прыраўноўваўся да двара (толькі адрозніваўся памерам), або з'яўляўся састаўной часткай дваровай гаспадаркі. Вось чаму лёс дварцоў складваўся аналагічна лёсу двароў. На

працягу XV—XVII стст. частка іх запусцела, а на іх месцы з'явіліся новыя паселішчы.

Некаторыя дварцы, падобна сёлам, былі знішчаны ў час правядзення новай зямельнай рэформы: *дворецъ именейцо небощика отца его Валентого Петровича Рудайтя... забралъ и на волоки померылъ и цынш до скарбу его короля милости с того постановилъ* (АВАК, XXIV, 375; 1580). Новыя паселішчы, якія заводзіліся на ўчастках былых дварцоў, нярэдка атрымлівалі назву *Дварэц*. У пісьмовых помніках яны адзначаюцца з другой палавіны XV ст.: *тые имѣнія, што сестра его держитъ, Колодязи а Новый Дворец* (АЛМ, I, вып. 1, 124; 1496); *купилъ селцо Дворецъ у Васка* (там жа, 133; 1497).

Большасць айконімаў, змешчаных у Спісках населеных месц Расійскай імперыі, прыпадае на заходнія (беларускія) землі і з'яўляецца назвамі фальваркаў і маёнткаў. У гэтых выпадках апошнім не абавязкова папярэднічалі дварцы. На наш погляд, тут мела месца прамое, сінхроннае перамяшчэнне агульнага імя ва ўласнае, абумоўленае аслабленнем яго апелятыўнай функцыі. Няцяжка заўважыць, што з часу пранікнення на тэрыторыю Беларусі слоў *фальварак* і *маёнтак (маетнасць) дварэц* у значэнні 'панская сядзіба' сустракаецца рэдка. У перыяд свайго станаўлення ўласная назва *Дварэц* мела сацыяльную афарбоўку. Выконваючы намінатыўную функцыю, яна ў той жа час указвала на прыналежнасць населенага пункта землеўладальніку, пану.

На Брэстчыне захавалася толькі тры назвы з кампанентам *дварэц: Новы Дварэц, Малыя Дворцы, Вялікія Дворцы* (у радзе раёнаў і апелятыў і тапонім мае форму *дво́рац)*.

*Дворышча* — старажытнае агульнаславянскае слова, якое першапачаткова абазначала 'месца, дзе быў двор'. У працэсе функцыяніравання яно развіло рад іншых значэнняў. Так, у Ноўгарадскіх помніках XII—XV стст. *дворышча* — 'дом', 'двор'; 'сядзіба' (Сразн., 1; СлРЯ, 4). У беларускіх і ўкраінскіх пісьмовых крыніцах XIV—XVI стст. пад гэтай назвай засведчана арыгінальная форма землеўладання і пасялення групы родзічаў па бацькоўскай лініі, якая М. О. Косвенам [12] імянуецца патраніміяй. Патранімічны характар такіх пасёлкаў выразна праяўляецца і ў іх уласных назвах: *дворище Шуровичъ, на томъ дворищи Гринъ а Сергѣй, Дмихъ а Малецъ, сыны Шуровы; на дворищи Пасынковичъ Данецъ а Ходоръ а Пилипъ, сыны Пасынковы* (РППЗ, 69; 1557).

Дворышчы-пасёлкі складалі найбольш тыповую з'яву для землеўладання Беларусі, а асноўным раёнам іх канцэнтрацыі было Палессе.

---

[12] Косвен М. О. Семейная община и патронимия.— М., 1963, с. 218.

У старабеларускай мове *дворышча* нярэдка раўназначна зямельнаму ўчастку: *панъ Василий пану Федору полътора дворищи земли в селе Микуличохъ поступилъ* (АВАК, XXII, 438; 1570); *мы дозволяем на тых дворищах слух и людей за собою садыти* (ГЮМ, XXVIII, 228; 1593).

У другой палавіне XVI ст. асновы старажытнай формы сялянскага саўладання ў значнай ступені былі разбураны. Асноўнай прычынай паслужыла ўзмацненне панскай і шляхецкай гаспадаркі, а таксама ўвядзенне індывідуальнай (валочнай) сістэмы землекарыстання.

У выніку разбіўкі сёл і дворышчаў на асобныя ўчасткі (валокі) і перадачы іх у індывідуальнае карыстанне калектыўнае сялянскае землеўладанне хутка скарачалася. Многіх дворышчаў не стала. На іх месцы з'явіліся памешчыцкія двары, дварцы, маёнткі, фальваркі, сёлы і прыселкі залежных сялян. Некаторая частка новых паселішчаў засведчыла гэты факт, у сваіх уласных назвах *(Дворышча, Дворышчы, Дворжышча, Дварыска),* якія трапляюць у пісьмовыя старабеларускія крыніцы з другой палавіны XVI ст. У помніках пад такімі назвамі часцей за ўсё сустракаюцца маёнткі і фальваркі, нярэдка палі і ўрочышчы, якія да іх прылягаюць, у Спісках населеных месц Расійскай імперыі — пераважна вёскі і хутары, зрэдку засценкі, аколіцы, урочышчы. Назвы вёсак хутчэй за ўсё сведчаць аб сваёй сувязі з агульнымі назвамі адасобленых аднадворных пасёлкаў-дворышчаў, якія з цягам часу страчвалі свой ранейшы сэнс. Такім жа іменем маглі называцца паселішчы ў межах баярскіх і іншых уласніцкіх надзелаў, якія ўключалі землі аднаго або некалькіх дворышчаў, а таксама паселішчы, створаныя шляхам зліцця ў адзінае цэлае разрозненых аднадворных або маладворных дворышчаў, што з'яўляліся састаўнымі часткамі радавога дворышча ці патранімічнага гнязда. Што датычыць хутароў як больш позняй з'явы для тэрыторыі Беларусі, то сувязь іх са старажытнымі дворышчамі апасродкавана праз стадыю мікратапонімаў.

На сучаснай тэрыторыі Брэстчыны назву *Дворышча (Дворышчэ, Дворыско)* носяць тры хутары і адна вёска ў Бярэзінскім, Іванаўскім, Лунінецкім і Маларыцкім раёнах, шматлікія палі (зрэдку сенажаці, пашы і лясныя ўрочышчы) у Драгічынскім, Івацэвіцкім, Камянецкім, Кобрынскім, Пінскім і Пружанскім раёнах. Значная частка мікратапонімаў, па сведчанню іх збіральнікаў, фіксуе апелятыў *дворышча* ў значэнні 'месца былога двара (маёнтка, сядзібы)'.

Такі ж сэнс, безумоўна, пакладзены і ў аснову назваў некаторых паселішчаў. Але паколькі асноўная і найбольш канцэнтраваная частка арэала айконімаў *Дворышча* супадае з арэа-

лам айконімаў на *-ічы, -овічы, -евічы,* ёсць падставы лічыць, што беларускія тапонімы (у першую чаргу айконімы) — сляды старажытнага дворышчнага землеўладання.

*Гарадзец, гарадок* — старажытныя дэмінутывы ад слова *горад*. У помніках яны адзначаюцца з IX ст. у якасці назваў невялікіх умацаванняў або дробных умацаваных паселішчаў (пасёлкаў-гарадкоў). Гарадкамі называліся таксама цэнтры малых тэрытарыяльна-гаспадарчых аазісаў у раёнах каланізацыі, цэнтры акруг або валасцей, паселішчы са слабымі зачаткамі прамысловасці і гандлю.

Усе гэтыя віды паселішчаў характэрны і для тэрыторыі Беларусі. А ў перыяд знаходжання яе ў складзе Вялікага княства Літоўскага з'явілася шмат гарадкоў гандлёва-прамысловага профілю па суседству з вялікакняжаскімі дварамі.

Звычайна гарадкі не мелі сталага характару. Па розных прычынах многія з іх прыходзілі ў заняпад, ператвараліся ў руіны. Новыя паселішчы на іх месцы ў радзе выпадкаў атрымлівалі назву па папярэдніку — *Гарадзец, Гарадок.* Тое ж адбывалася і пры набыцці гарадкамі статуса больш буйных гарадоў, мястэчак, сёл, вёсак.

Пад такімі назвамі ў найбольш ранні перыяд (IX—XIV стст.) адзначаюцца многія гарады [13]. Сярод іх *Гарадзец* на Нёмане (XI ст.), *Ноўгарадок (Новы Гарадок)* на тэрыторыі княства Літоўскага (XI ст.). На аснове вывучэння рэчавых археалагічных матэрыялаў П. Ф. Лысенка [14] прыйшоў да вываду, што беларускі горад *Давыд-Гарадок* заснаваны на рубяжы XI—XII стст. па ініцыятыве валынскага князя Давыда Ігаравіча.

У XV—XVII стст. на тэрыторыі Беларусі назвы з асновай *гарадзец, гарадок* маюць некаторыя маёнткі і фальваркі. Пэўную ролю ў станаўленні гэтых айконімаў адыграў той факт, што ва ўмовах распаду натуральнага рынку і пераходу да таварнай гаспадаркі (XVI—XVII стст.) мясцовыя гандлёвыя пункты паступова трацілі сваё значэнне і набывалі сельскагаспадарчы накірунак або знікалі.

На Брэстчыне функцыяніруе толькі адзін айконім з лексічнай асновай *гарадзец (Гарадзец)* і два — з лексічнай асновай *гарадок (Давыд-Гарадок, Кажан-Гарадок)*. У Жабінкаўскім раёне выяўлены мікратапонім *Городэць.*

---

[13] Барсов Н. Материалы для историко-географического словаря России IX—XIV веков.— Вильна, 1865, с. 220.

[14] Лысенко П. Ф. Археологические исследования раннефеодальных памятников Туровской земли. Раскопки городища древне-русского Давид-Городка в 1967 году.— У кн.: Древности Белоруссии. Доклады к конференции по археологии (март, 1969). Мн., 1969, с. 143, 380.

Першы кампанент складаных назваў мае агульную каранёвую частку з назвай суседняга населенага пункта: *Давыд-Гарадок* і *Давыдаўка, Кажан-Гарадок* і *Кажановічы.* Параўн. таксама іншыя беларускія айконімы: *Астрашыцкі Гарадок* і *Астрашыцы, Сёмкаў Гарадок* і *Сёмкава.* Гэта сведчыць аб тым, што гарадкі, якія знайшлі адлюстраванне ў беларускіх айконімах, з'яўляліся састаўной часткай нейкага гаспадарчага комплексу ў межах землеўладання канкрэтнай асобы.

*Гарадзішча* — агульнаславянскае слова. У помніках адзначаецца пераважна ў двух значэннях: 'умацаванае паселішча, гарадок' і 'месца з рэшткамі горада або крэпасці' (СлРЯ). Ва ўсходнеславянскіх мовах вядома ў XI—XII стст. (Філін).

У першай палавіне XIII ст. слова *гарадзішча* ўжываецца ў тапанімічнай функцыі. Асабліва частыя тапонімы з гэтай асновай у помніках XVI—XVII стст. Нямала іх і ў Спісках населеных месц Расійскай імперыі, галоўным чынам у Віцебскай, Віленскай, Пскоўскай і Ноўгарадскай губернях. У Гродзенскай губерні, куды ўваходзіла і тэрыторыя сучаснай Брэсцкай вобласці, іх адзінкі.

Зараз на Брэстчыне функцыяніруюць толькі тры айконімы ад гэтага апелятыва (*Гарадзішча, Вялікае Гарадзішча, Малое Гарадзішча)* і некалькі мікратапонімаў у Пружанскім і Столінскім раёнах.

*Фальварак* (з ням. *vorwerk*) — 'зямельнае ўладанне феадала'. У беларускую мову гэта слова пранікла праз польскую. Беларускія, як і ўкраінскія, землеўладальнікі пачалі заводзіць фальваркі на рубяжы XV—XVI стст. У другой палавіне XVI ст. фальваркачная сістэма ахапіла і ўладанні баяр. Фальваркамі сталі называцца не толькі маёнткі буйных землеўладальнікаў, але і дробных.

На працягу другой палавіны XVI—першай палавіны XVII ст. фальваркі атрымалі шырокае распаўсюджанне на тэрыторыі Беларусі, галоўным чынам у заходніх яе раёнах. Пачатак XVIII ст. азнаменаваўся часовым спадам у іх эканоміцы. У сувязі з бегствам сялян у многіх фальварках не хапала рабочай сілы. Аднак з другой палавіны XVIII ст. зноў наступае пад'ём у сістэме фальварачна-баршчыннай гаспадаркі. Як назва тыпу паселішча слова *фальварак* вядома на тэрыторыі Беларусі нават у канцы XIX — пачатку XX ст. У гэтай функцыі яно нярэдка адзначаецца ў Спісках населеных месц Расійскай імперыі, пераважна ў Віленскай, Гродзенскай, Магілёўскай і Мінскай губернях. На гэтай жа тэрыторыі лакалізавана 9 з 11 матываваных ім айконімаў.

У сучасных крыніцах на Брэстчыне не значыцца ніводнага

айконіма з асновай *фальварак*. В. М. Емельяновіч выявіла толькі адзін мікратапонім у форме *Паліваркі,* які, паводле яе, суадносіцца з *поліварок* (мясцовы варыянт слова *фальварак*).

*Засценак* першапачаткова абазначаў 'участак зямлі, які застаўся за межамі (за сцяной) абшчынных зямель, раздзеленых на валокі'. У першай палавіне XVII ст. на тэрыторыі Беларусі— гэта 'невялікі пасёлак або хутар, у якім жыве дробная шляхта'. У якасці тыпу пасялення ўжываецца досыць працяглы час. Рад засценкаў зарэгістравана ў Віцебскай, Віленскай, Гродзенскай, Мінскай, Магілёўскай і Смаленскай губернях нават у перыяд складання Спіскаў населеных месц Расійскай імперыі.

У межах тых жа губерань зафіксіравана каля 30 айконімаў *Засценак,* большасць якіх з'яўляецца назвамі вёсак (зрэдку фальваркаў і выселкаў). Лакалізуюцца яны пераважна ў Магілёўскай і Віцебскай губернях. Хутчэй за ўсё гэта вёскі, якія развіліся на базе засценкаў або ўзніклі на іх месцы.

На тэрыторыі Брэсцкай вобласці з апелятывам *засценак* суадносіцца адзін айконім *(Засценак)*. У Жабінкаўскім, Кобрынскім і Пружанскім раёнах выяўлена некалькі мікратапонімаў у форме *Засценак, Застінок, Застінкы.*

Апрача тапонімаў, якія паўтараюць структуру агульных назваў тыпаў паселішчаў у нязменным выглядзе, нямала прыкладаў, калі сувязь з гэтымі назвамі праяўляецца праз стадыю вытворных ад іх або аднакарэнных з імі апелятываў: *Навасёлкі, Старасёлкі, Гарадняны*<*гарадняны* 'высяленцы з *Гарадно (е)'*; *Задворцы*, *Задвараны* < *задворцы, задвараны* 'людзі, якія жывуць за дваром ці за населеным пунктам *Двор'*; *Задвор'е* 'паселішча за дваром або за населеным пунктам *Двор'*; *Навадворцы* < *навадворцы* 'высяленцы з *Новага Двара'*.

Большасць выяўленых на Брэстчыне тапаасноў са значэннем 'тып пасялення' адносіцца да катэгорыі агульнаславянскіх *(сяло, селішча, слабада, пагост, двор, дварэц, дворышча, калонія, сядзіба, хутар, горад, гарадзец, гарадок)*. І толькі асобныя з іх маюць беларуска-ўкраінскую *(воля, волька, калонія, міста)*, беларуска-рускую *(выстаўка, засценак)* або беларускую *(маёнтак, паліварак)* лакалізацыю. Некаторыя тапаасновы выходзяць за межы ўсходнеславянскага моўнага арэала *(воля, волька, двор, гарадок, сад)*.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

АВАК — Акты, издаваемые Виленскою Археографическою комиссиею.— Вильна, 1865—1915, т. 1—39.

АЛМ — Акты литовской метрики (1413—1498 гг.) / Сабр. Ф. І. Леантовічам.— Варшава, 1896, т. 1, вып. 1.

Арх. зб.— Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси.— Вильна, 1867—1904, т. 1—14.
ГЮМ — Историко-юридические материалы, извлеченные из архивных книг губерний Витебской и Могилевской.— Витебск, 1871—1906, т. 1—32.
ДМВН — Ділова мова Волині і Наддніпрянщини XVII ст. (Зб. актавых дакументаў).— Київ, 1981.— 316 с.
Карловіч — Karłowicz Jan. Słownik jęnzyka polskiego.— Warsząwa, 1900—1928, t. 1—8.
КГСБМ — Картатэка Гістарычнага слоўніка беларускай мовы (Мінск, Інстытут мовазнаўства).
КСД — Литовская метрика. Книга судных дел. «Русская историческая библиотека».— СПб, 1903, т. 20.
Ліндэ — Linde Samuel Bogusław Słownik jęnzyka polskiego.— Lwów, 1854—1860, t. 1—6.
РППЗ — Ревизия пущ и переходов звериных в бывшем Великом княжестве Литовском.— Вильна, 1867, с. VI+382.
СлРЯ — Словарь русского языка XI—XVII вв.—М., 1975—1983, т. 1—9.
СлСУМ — Словник староукраїнської мови XIV—XV стст.— Київ, 1977—1978, т. 1—2.
Сразн.— Срезневский И. И. Материалы для словаря древнерусского языка.— СПб, 1898—1903, т. 1—3.
Стат. 1588 — Статут Великого княжества Литовского.— Вильна, 1588.
Філін — Филин Ф. П. Лексика русского литературного языка древнекиевской эпохи (по материалам летописей).— Ученые записки ЛГПИ им. Герцена. Л., 1948, т. 80, с. 18—23.

*П. С. БУДЗЬКО*

# ТЫПАЛОГІЯ САСТАЎНЫХ АЙКОНІМАЎ (НА МАТЭРЫЯЛЕ БЕЛАРУСКАЙ І НЯМЕЦКАЙ МОЎ)

Састаўныя айконімы — гэта лексікалізаваныя словазлучэнні, якія складаюцца з апорнага (азначаемага) кампанента, выражанага назоўнікам, і атрыбутыўнага (азначальнага), якім можа быць прыметнік, назоўнік, лічэбнік, назоўнік з прыназоўнікам. У нямецкай айканіміі такія словазлучэнні, згодна з класіфікацыяй А. Баха, атрымалі назву сінтаксічных груп (syntaktische Gruppen) [1].

У залежнасці ад граматычнай формы словазлучэнняў сярод састаўных айконімаў вылучаюцца чатыры структурныя разнавіднасці: айконімы ў форме атрыбутыўных, генітыўных, прыназоўнікавых і недапасаваных словазлучэнняў.

Асаблівую цікавасць уяўляе структурна-семантычнае супастаўленне беларускіх і нямецкіх айконімаў гэтага тыпу, бо яны маюць не толькі агульную структуру, а і адэкватныя кампаненты. Адной і другой айканімічным сістэмам уласцівы агульныя прынцыпы ўтварэння, хоць у кожнай ёсць і спецыфічныя рысы.

Зыходным матэрыялам будуць пераважна назвы населеных пунктаў Мінскай вобласці і Цюрынгіі (акругі Гера, Зуль і Эрфурт) у адпаведнасці з сучасным адміністрацыйным падзелам БССР і ГДР.

## Айконімы ў форме атрыбутыўных словазлучэнняў

Атрыбутыўныя словазлучэнні звычайна складаюцца з двух кампанентаў — субстантыўнага (азначаемага) і атрыбутыўнага (азначальнага). Паколькі ў якасці апорнага кампанента могуць выкарыстоўвацца лексемы апелятыўнага, тапанімічнага і антрапанімічнага ўзроўняў, ёсць падставы вылучыць айконімы з наступнымі апорнымі кампанентамі: «апелятыў», «тапонім» і «антрапонім».

---

[1] Bach A. Deutsche Namenkunde. Die deutschen Ortsnamen.— Heidelberg, 1953, Bd II, 1, S. 121.

Апелятыўныя кампаненты з'яўляюцца назвамі прыродна-геаграфічных аб'ектаў, якія ўказваюць на вынікі дзейнасці чалавека. У беларускіх айконімах дамінуюць назвы прыродна-геаграфічных аб'ектаў, шмат якія з іх абазначаюць асаблівасці рэльефу: узвышшы — *Бярозавая Гара, Высокая Гара, Высокая Горка, Высокі Бераг, Вясёлая Горка, Гарэлы Востраў, Залатая Горка, Зялёны Курган, Казлоў Бераг, Каменная Горка, Красная Гара, Красны Бераг, Крутая Гара, Крутая Горка, Крутая Града, Круты Бераг, Лысая Гара, Мар'іна Горка, Паськава Горка, Рэпная Града, Сакава Гара, Сухая Гара, Сухі Астравок, Тамілава Гара, Чырвоная Гара, Чырвоная Горка, Цёмны Востраў, Якавіна Града;* нізкія ці забалочаныя месцы: *Доўгі Лог, Дубовы Лог (2), Клімаў Лог, Кабыліна Балота, Сасновае Балота, Чырвоная Даліна.*

У нязначнай колькасці выпадкаў апорнымі словамі з'яўляюцца назвы водных басейнаў: *Белая Лужа, Белыя Лужы, Глыбокі Ручай, Краснае Возера, Стары Пруд, Строкава Рэчка, Чорная Лужа, Чырвонае Возера.*

Зрэдку субстантыўныя кампаненты абазначаюць: агульныя назвы зямельных участкаў — *Вялікае Поле, Добрая Зямля;* характар глебы — *Вялікі Камень, Сівы Камень, Сіні Камень, Сухая Гразь, Чорная Гразь.*

Значная колькасць субстантыўных кампанентаў абазначае рэаліі расліннага свету: лясныя масівы — *Бабін Лес, Белы Бор, Вялікі Лес, Дзедзін Лес, Дубовы Лес, Задні Бор, Зялёная Дубрава, Зялёны Бор, Зялёны Гай, Іванаў Бор, Казённыя Баркі, Каменны Барок, Лазараў Бор, Нізавыя Баркі, Сасновы Бор, Сухі Бор, Чорны Лес, Чысты Бор;* пароды дрэў, віды раслін — *Вострыя Ёлкі, Высокая Ліпа, Вялікая Ліпа, Зялёны Мох, Крывая Бяроза, Стары Дуб.*

Як бачым, у састаўных айконімах Міншчыны пераважаюць два тыпы субстантыўных кампанентаў: назвы рэльефа (37 назваў) і флоры (25 назваў).

У нямецкай айканіміі назвы прыродна-геаграфічных аб'ектаў значна радзей выкарыстоўваюцца ў якасці кампанентаў састаўных айконімаў. Так, у Цюрынгіі іх адзначана толькі чатыры. Апорныя словы ў іх абазначаюць: узвышша — *Langer Berg,* характар глебы — *Weißer Stein,* рэаліі расліннага свету — *Untere Haardt*[2], *Hohe Tann.* Затое назвы прыродна-геаграфічных аб'ектаў шырока ўжываюцца ў складзе кампозітаў, якія ўзыходзяць да словазлучэнняў-мікратапонімаў. Гэты працэс можна

---

[2] У айконіме *Untere Haardt* лексема *Haardt* (*mhd hart — горны лес*) у сучаснай нямецкай мове выйшла з ужывання ў неанамастычнай лексіцы.

праілюстраваць прыкладамі з двух раёнаў акругі Гера, што ў Цюрынгіі,— Нойгаус на Рэнвезе і Зонэберг: *Siedlung bei der hohen Tanne*>айконім-кампозіт *Hohetanne, Siedlung am langen Bach*>*Langenbach*. Такое ж паходжанне айконімаў *Reichenbach, Schmalenbuche, Schwarzwald, Steinbach, Truckental*[3].

У якасці апелятыўных апорных кампанентаў шырока выкарыстоўваюцца таксама назвы, якія адлюстроўваюць вынікі дзейнасці чалавека. Яны абазначаюць:

а) зямельныя ўчасткі: па спосабу распрацоўкі і пераўтварэння — *Высокія Ляды, Лясныя Наддаткі;* па форме і канфігурацыі — *Вясёлы Вугал, Крутая Паляна, Савін Вугал, Хлебны Клін, Шаманаў Кут, Ясная Паляна;* па гаспадарчаму прызначэнню — *Гарэлы Луг, Жукаў Луг, Зялёны Луг, Зялёны Лужок, Красная Ніва, Чырвоная Ніва, Крайцова Ніва, Шкляны Луг;* па назвах зямельных знакаў — *Белы Слуп, Рабы Слуп;*

б) тыпы пасяленняў: *Аронава Слабада, Баравая Слабада, Вышні Стан, Вялікае Сяло, Вялікі Двор, Гайдукова Слабада, Зарэчная Слабада, Зацітава Слабада, Каралёў Стан, Кішчына Слабада, Красная Слабада, Красныя Хутары, Крывое Сяло, Марусін Пасёлак, Межная Слабада, Новае Сяло, Новая Вёска (3), Новы Двор, Новы Пасёлак, Рускае Сяло, Сёмкаў Гарадок, Старая Дзярэўня, Старое Гарадзішча, Старое Сяло, Стары Двор, Сярэдняе Сяло, Чырвоная Слабада;*

в) збудаванні і шляхі зносін — *Баравы Мост, Бярозавы Мост, Жоўты Брод, Жылін Брод, Каменны Брод, Лапачоў Брод, Перуноў Мост, Старыя Дарогі, Чырвоная Сцежка, Чорны Брод;*

г) вытворчыя прадпрыемствы — *Кардонная Фабрыка, Смалакурны Завод.*

Усяго на тэрыторыі Міншчыны зафіксавана 59 айконімаў гэтага тыпу, з іх 29 абазначаюць тып пасялення, 18 — зямельныя ўчасткі.

У Цюрынгіі зафіксавана 8 такіх айконімаў. Тут адсутнічаюць назвы зямельных участкаў і шляхоў зносін у якасці апорных кампанентаў. Як і ў беларускіх айконімах, субстантыўныя кампаненты абазначаюць:

а) тып пасялення: *Altes Dorf, Wendisches Dorf;*

б) збудаванні — *Alte Burg, Hohes Kreuz, Neues Haus;*

в) прадпрыемствы — *Hohe Warte, Kalte Schenke, Neue Schenke.*

У айканіміі розных моў ёсць састаўныя назвы населеных пунктаў з апорнымі кампаненгамі апелятыўнага паходжання з

---

[3] Этымалогіі ўзяты з: Schindhelm W. Die Ortsnamen der Kreise Neuhaus am Rennweg und Sonneberg. Dissertation A.— Leipzig, 1966, S. 37, 43, 64, 71, 73, 83.

незвычайнай семантыкай. Як адзначае В. Д. Беленькая, «характар гэтых назваў дакладней за ўсё выражаецца азначэннем «аказіяльныя»... Іх узнікненне не абумоўлена геаграфічнымі рэаліямі (як гэта звычайна бывае ў тапаніміі), а вызначаецца ўплывам якога-небудзь канкрэтнага выпадку» [4].

Аказіяльныя назвы найбольш уласцівы айканіміі англамоўных краін, перш за ўсё для ЗША: *Total Wreck (поўны крах), Hot Coffee (гарачы кофе)* і інш.

Сустракаюцца яны на Міншчыне — *Божы Дар, Гнойны Рак, Добрая Парада,* нешматлікія і ў Цюрынгіі — *Kühler Morgen (свежы ранак), Wilde Taube (дзікі голуб), Hohe Sonne (высокае сонца);* у нямецкай айканіміі — *Weißer Hirsch (белы алень), Wilder Mann (дзікі мужчына)* і інш.

У якасці атрыбутыўных кампанентаў у беларускай айканіміі выступаюць прыметнікі трох разрадаў — якасныя, адносныя і прыналежныя.

Якасныя прыметнікі ўказваюць на:

а) колер аб'екта — *Белая Лужа, Белы Бор, Белы Слуп, Белыя Лужы, Жоўты Брод, Зялёная Дубрава, Зялёны Бор, Зялёны Курган, Зялёны Луг, Зялёны Лужок, Зялёны Мох, Краснае Возера, Красная Гара, Красная Ніва, Красная Слабада, Красны Бераг, Красныя Хутары, Рабы Слуп, Сівы Камень, Цёмны Востраў, Чорная Гразь, Чорная Лужа, Чорная Сцежка, Чорны Лес, Чырвонае Возера, Чырвоная Гара, Чырвоная Горка, Чырвоная Даліна, Чырвоная Ніва, Чырвоная Слабада, Ясная Паляна;*

б) памер ці форму аб'екта — *Вострыя Ёлкі, Высокая Гара, Высокая Горка, Высокая Ліпа, Высокі Бераг, Высокія Ляды, Доўгі Лог, Крутая Гара, Крутая Горка, Крутая Града, Крутая Паляна, Круты Бераг, Крывая Бяроза, Крывое Сяло;*

в) узрост ці час узнікнення аб'екта — *Новае Сяло, Новая Вёска* (3), *Новы Двор, Новы Пасёлак, Старая Дзярэўня, Старое Гарадзішча, Старое Сяло, Стары Дуб, Стары Пруд, Старыя Дарогі, Стары Двор;*

г) станоўчую ці адмоўную характарыстыку аб'екта — *Вясёлая Горка, Добрая Зямля, Добрая Парада;*

д) іншыя адзінкавыя прызнакі — *Гарэлы Востраў, Гарэлы Луг, Глыбокі Ручай, Гнойны Рак, Лысая Гара, Сухая Гара, Сухая Гразь, Сухі Астравок, Сухі Бор, Чысты Бор.*

Дамінуючым прызнакам аб'ектаў, на які ўказваюць якасныя прыметнікі, з'яўляецца колер (33 айконімы).

Атрыбутыўныя кампаненты састаўных айконімаў, выражаныя адноснымі прыметнікамі, указваюць на:

---

[4] Беленькая В. Д. Очерки англоязычной топонимики.— М., 1977, с. 128; Paul H. Prinzipien der Sprachgeschichte. Halle a. S., 1920, S. 75.

а) месцазнаходжанне аб'екта — *Вышні Стан, Задні Бор, Зарэчная Слабада, Межная Слабада, Сярэдняе Сяло;*

б) віды раслін і жывёл, якасць глебы — *Баравая Слабада, Баравы Мост, Бярозавая Слабада, Бярозавы Мост, Дубовы Лес, Дубовы Лог (2), Залатая Горка, Кабыліна Балота, Каменная Горка, Каменны Барок, Каменны Брод, Лясныя Наддаткі, Нізавыя Баркі, Рэпная Града, Сасновае Балота, Сасновы Бор;*

в) прызначэнне аб'екта — *Кардонная фабрыка, Смалакурны завод, Хлебны Клін, Шкляны Луг;*

г) этнічную прыналежнасць — *Рускае Сяло.*

Адным з асноўных прызнакаў атрыбутыўных кампанентаў разгледжанага тыпу з'яўляецца ўказанне на віды расліннага свету, якія пераважалі на гэтай тэрыторыі (11 айконімаў).

Атрыбутыўныя кампаненты ў форме прыналежнага прыметніка звычайна суадносяцца з антрапонімамі, радзей з агульнымі імёнамі, і ўказваюць на прыналежнасць уладальніку — *Аронава Слабада, Бабін Лес, Гайдукова Слабада, Дзедзін Лес, Жукаў Луг, Жылін Брод, Зацітава Слабада, Іванаў Бор, Казённыя Баркі, Казлоў Бераг, Каралёў Стан, Кішчына Слабада, Клімаў Лог, Крайцова Ніва, Лазараў Бор, Лапачоў Брод, Марусін Пасёлак, Мар'іна Горка, Паськава Горка, Перуноў Мост, Савін Вугал, Сакава Гара, Сёмкаў Гарадок, Строкава Рэчка, Тамілава Гара, Шаманаў Кут, Якавіна Града.*

Такім чынам, у беларускіх састаўных айконімах з апорным кампанентам «апелятыў» атрыбутыўны кампанент звычайна выражаецца якаснымі прыметнікамі (73), значна радзей — адноснымі (27) і прыналежнымі (27).

У нямецкай айканіміі таксама атрыбутыўным кампанентам пераважна з'яўляецца якасны прыметнік, адпаведны беларускаму па семантыцы (у Цюрынгіі зафіксаваны 12 назваў гэтага тыпу), які абазначае:

а) колер — *Weißer Stein;*

б) памер ці форму аб'екта — *Hohe Sonne, Hohe Warte, Hohes Kreuz, Langer Berg;*

в) узрост ці час узнікнення аб'екта — *Alte Burg, Altes Dorf, Neue Schenke, Neues Haus;*

г) іншыя адзінкавыя прызнакі — *Kalte Schenke, Kühler Morgen, Wilde Taube.*

Адносныя прыметнікі ў якасці атрыбутыўнага кампанента ўжываюцца даволі рэдка (у Цюрынгіі зафіксавана ўсяго 2 прыклады). Яны ўказваюць на месцазнаходжанне аб'екта: *Untere Haardt;* этнічную прыналежнасць: *Wendisches Dorf (ahd winida; mhd winden, wenden 'славяне').*

У адрозненне ад беларускіх у нямецкіх айконімах адсутні-

чаюць адносныя прыметнікі, утвораныя ад назваў дрэў і раслін, бо ў неанамастычнай лексіцы яны адзінкавыя, і паняцці, якія ў беларускай мове выражаюцца словазлучэннямі, у нямецкай мове перадаюцца кампозітамі: *Дубовы Лог — Eichenthal, Бярозавы Мост — Birkenfeld* і інш.

Прыналежныя прыметнікі ў якасці атрыбутыва амаль не сустракаюцца ў нямецкай айканіміі. Паказчыкам прыналежнасці тут служыць назоўнік-антрапонім у форме роднага склону.

Састаўныя айконімы ў форме атрыбутыўных словазлучэнняў з апорным кампанентам «апелятыў» у абедзвюх мовах маюць агульную структуру — двухчленнасць. Агульным з'яўляецца і спосаб сінтаксічных адносін — дапасаванне атрыбутыўнага кампанента да апорнага слова ў родзе, ліку і склоне. У абедзвюх айканіміях атрыбутыўнымі кампанентамі пераважна служаць якасныя прыметнікі.

Аднак у беларускіх айконімах у якасці апорных слоў часцей за ўсё выступаюць назвы прыродна-геаграфічных аб'ектаў, у нямецкай пераважаюць кампаненты, якія ўказваюць на вынікі дзейнасці чалавека. Адсутнічаюць у нямецкай айканіміі і адносныя прыметнікі, утвораныя ад назваў дрэў і раслін, а таксама прыналежныя прыметнікі.

### Айконімы з апорным кампанентам «тапонім»

У беларускай і нямецкай айканіміі сустракаецца шмат назваў, утвораных на ўзроўні тапаніміі. Апорным словам тут выступае тапонім (пераважна айконім, радзей — гідронім). Атрыбутыўнымі кампанентамі служаць прыметнікі, якія выконваюць дыферэнцыруючую функцыю і ўтвараюць антанімічныя пары: *Верхняе Сіняла — Ніжняе Сіняла, Вялікі Бор — Малы Бор, Obere Grasmühle — Untere Grasmühle*. Значна радзей атрыбутыўным кампанентам з'яўляецца ад'ектываваны назоўнік, матываваны айконімам: *Астрашыцкі Гарадок, Галяноўскія Цюрлі, Eisfelder Thalmühle, Sulzer Siedlung.*

Айконімы з дыферэнцыруючымі кампанентамі, якія ўтвараюць антанімічныя пары, шырока распаўсюджаны ў абедзвюх мовах. Аднак у нямецкай многія з'яўляюцца складанымі словамі: *Großaga — Kleinaga, Oberbodnitz — Unterbodnitz* і інш.

Тым не менш супастаўленне з беларускімі састаўнымі айконімамі здаецца нам дапушчальным, бо азначальныя кампаненты ў такіх назвах у абедзвюх мовах выконваюць аднолькавую функцыю — ужываюцца для дыферэнцыяцыі аднайменных назваў: *Дзешчанка — Малая Дзешчанка, Вялікія Бакшты — Ма-*

*лыя Бакшты, Bucha — Kleinbucha, Großdraxdorf — Kleindraxdorf, Großschwabhausen — Kleinschwabhausen.* Захавалі яны і семантычную самастойнасць: сэнсавыя адносіны паміж імі і астатняй часткай слова тоесныя сэнсавым адносінам паміж кампанентамі словазлучэння.

Захавалася таксама і генетычная сувязь са словазлучэннем. Як слушна адзначае Г. Пауль, сучасны кампозіт «прыметнік+ +назоўнік» паходзіць ад шырока распаўсюджаных у сярэдневерхненямецкай устойлівых словазлучэнняў з нефлектываваным прыметнікам тыпу *(ein) edel man* (у новаверхненямецкай — кампозіт *Edelmann)*. Шматлікія складаныя словы з першым кампанентам *ober-, unter-, vorder-, mittel-* і інш. у сярэдневерхненямецкай былі яшчэ сінтаксічнымі словазлучэннямі.

«Пераход ад сінтаксічных злучэнняў да кампозітаў (vom syntaktischen Gefüge zum Kompositum),— працягвае даследчык,— настолькі паступовы, што нават няма рэзкай мяжы паміж імі. Гэта выяўляецца ў той няўпэўненасці, якая датычыць арфаграфіі ў адносінах злітнага ці асобнага напісання многіх злучэнняў, няўпэўненасці, якая прывяла да кампраміснага напісання (zur vermittelnden Schreibweise) праз дэфіс» [5].

Незавершанасць пераходу добра прасочваецца і ў айканіміі: паралельна са складанымі ёсць і формы тыпу: *Alt Guthendorf — Neu Guthendorf, Groß Leine — Klein Leine, Alt-Reitwitz.* Дарэчы, у тапанімічных слоўніках дыферэнцыруючыя кампаненты запісваюцца пасля апорнага слова і аддзяляюцца коскай: *Aga, Groß-; Aga, Klein-; Bodnitz, Unter-* і г. д.

Іменна таму нямецкія тапаністы вылучаюць гэтыя айконімы ў асобную структурную групу (Unterscheidende Zusätze — дыферэнцыруючыя кампаненты, ці Differenzierung — дыферэнцыраванне) і класіфікуюць іх па семантыцы дыферэнцыруючых кампанентаў без сувязі з астатняй часткай слова.

У англійскай мове паасобнае напісанне такіх айконімаў сустракаецца значна часцей, аднак і тут назіраецца працэс субстантывацыі словазлучэнняў: *Newberlin, Fallentimber, Bluehill* (замест *New Berlin, Fallen Timber, Blue Hill*). «...Яснасць унутранай формы і граматычная аформленасць кампанентаў, якія сведчаць пра тое, што гэтыя назвы характарызуюцца раздзельна-аформленасцю, дазваляюць аднесці іх да групы састаўных тапонімаў «тапонімаў-словазлучэнняў» [6].

Таму супастаўленне складаных нямецкіх айконімаў з дыферэнцыруючымі кампанентамі і адпаведных беларускіх састаўных здаецца нам правамерным.

---

[5] Paul H. Prinzipien der Sprachgeschichte.— Halle a. S., 1920, § 227, S. 328.
[6] Беленькая В. Д. Очерки англоязычной топонимики.— М., 1977, с. 121.

У аснову размежавання айканімічных назваў у розных мовах кладуцца розныя прызнакі. Можна выдзеліць дыферэнцыруючыя кампаненты, якія ўказваюць на адносную храналогію ўзнікнення населеных пунктаў.

Частыя ў беларускай і нямецкай айканіміях:

а) *вялікі — малы* / адп. ням. *groß — klein,* якія ўказваюць на памеры населеных пунктаў: *Вялікае Белякова — Малое Белякова, Вялікае Гарохавішча — Малое Гарохавішча, Вялікае Журава — Малое Журава* і г. д. (на Міншчыне зафіксавана 49 такіх антанімічных пар айконімаў); *Großballhausen — Kleinballhausen, Großbrüchter — Kleinbrüchter, Großenlupnitz — Wenigenlupnitz* і інш. (у Цюрынгіі — 39 такіх пар). Азначэнне *wenig (mhd wênec, wênic — малы)* было распаўсюджана да XVI ст. Потым пачало ўжывацца сінанімічнае *klein: Kleingölitz* (раней было — *Wenigengölitz)* [7].

б) *стары — новы, alt — neu,* якія сведчаць пра ўзрост населеных пунктаў: *Старая Дуброва — Новая Дуброва, Старое Сяло — Новае Сяло, Стары Будкаў — Новы Будкаў* (на Міншчыне 26 такіх пар); *Altenbeuthen — Neuenbeuthen, Altdörnfeld — Neudörnfeld, Altengönna — Neuengönna* і г. д. (у Цюрынгіі — 7);

в) *I, 1, першы — II, 2, другі; I, 1, eins — II, 2, zwei: Азярышча I — Азярышча II, Баброва I — Баброва II, Сямёнавічы I — Сямёнавічы II* і г. д. (на Міншчыне 15 пар.); *Hemmenrode I — Hemmenrode II, Waltersdorf I — Waltersdorf II, Zickra I — Zickra II* і г. д. (у Цюрынгіі — 9 пар); дыферэнцыруючую функцыю тут выконваюць лічэбнікі, у беларускай айканіміі парадкавыя, у нямецкай — колькасныя.

Словы *вялікі — groß, стары — alt, першы — eins* сведчаць пра больш ранняе ўзнікненне населеных пунктаў.

Трэба адзначыць, што кампаненты *вялікі — малы/groß — klein* зараз не заўсёды ўказваюць на адносны памер аб'екта, а выконваюць толькі дыферэнцыруючую функцыю, бо па розных сацыяльна-эканамічных прычынах у працэсе гістарычнага развіцця ранейшыя малыя населеныя пункты па велічыні пераўзышлі вялікія.

Назвы, якія ўзніклі раней, не заўжды маюць пры сабе азначэнні тыпу *вялікі — groß, стары — alt, першы — eins.* У такіх выпадках дыферэнцыруючую функцыю выконваюць словы *малы — klein, новы — neu, другі — zwei,* якія сведчаць пра больш позняе ўзнікненне аб'ектаў: *Малая Дзешчанка — Дзешчанка, Малое Селішча — Селішча, Малыя Амговічы — Амговічы* і г. д.

---

[7] Fischer R., Elbracht K. Die Ortsnamen des Kreises Rudolstadt.— Deutsch-Slawische Forschungen zur Namenkunde und Siedlungsgeschichte N 10. Halle (Saale), 1956, S. 33.

(на Міншчыне 19 н. п.); *Kleinbernsdorf — Bernsdorf, Kleinreinsdorf — Reinsdorf, Wenigenhaarhausen — Haarhausen* і г. д. (у Цюрынгіі 7 н. п.); *Новае Заполле — Заполле, Новая Ніва — Ніва, Новыя Рубяжэвічы — Рубяжэвічы* і г. д. (на Міншчыне 12 н. п.); *Neubleicherode — Bleicherode, Neudietendorf — Dietendorf* (у Цюрынгіі 6 н. п.); *Ліпава II — Ліпава, Шчарка II — Шчарка* (на Міншчыне 2 н. п.); *Heukendorf II — Heukendorf, Hauckendorf II — Hauckendorf* (у Цюрынгіі 2 н. п.).

На абедзвюх тэрыторыях сустракаюцца і трайныя адпаведнікі. Яны ўяўляюць сабою выходны айконім і антанімічныя пары, утвораныя на яго аснове. Па атрыбутыўных элементах цяжка меркаваць пра велічыню населеных пунктаў ці час іх узнікнення. Яны толькі дыферэнцыруюць геаграфічныя аб'екты, адрозніваючы іх адзін ад другога. Сярод іх вылучаюцца трыяды:

а) з антанімічнымі прыметнікамі *вялікі — малы: Вялікае Асанава — Малое Асанава — Асанава, Вялікае Восава — Малое Восава — Восава, Вялікае Запруддзе — Малое Запруддзе — Запруддзе* і інш. (на Міншчыне 18 н. п.); *Großaga — Kleinaga — Aga, Großbocka — Kleinbocka — Bocka, Großgrabe — Kleingrabe — Grabe* (у Цюрынгіі 14 н. п.).

б) з антанімічнымі прыметнікамі *стары — новы: Старое Гарадзішча — Новае Гарадзішча — Гарадзішча, Старое Чэрнева — Новае Чэрнева — Чэрнева, Старая Калюжыца — Новая Калюжыца — Калюжыца* (на Міншчыне 12, у Цюрынгіі 2 н. п.); *Altdaberstedt — Neudaberstedt — Daberstedt;* в) з лічэбнікамі *I, 1, першы — II, 2, другі; I, 1, eins — II, 2, zwei; Войтаўка I — Войтаўка II — Войтаўка, Вялешына I — Вялешына II — Вялешына, Казлы I — Казлы II — Казлы* (на Міншчыне — 12, у Цюрынгіі не зафіксавана).

На абедзвюх тэрыторыях сустракаюцца айконімы з дыферэнцыруючымі лічэбнікамі-азначэннямі *III (трэці), IV (чацвёрты)* і нават больш: *Бор I — Бор II — Бор III — Бор IV — Бор V; Großlohra I — Großlohra II — Großlohra III.*

Аналіз сведчыць, што найбольш прадуктыўныя ўтварэнні айконімаў у абедзвюх мовах з антанімічнымі прыметнікамі *вялікі — малы* — на Міншчыне 136, у Цюрынгіі — 96 н. п. Менш распаўсюджаны прыметнікі *стары — новы* — на Міншчыне 81, у Цюрынгіі — 37 н. п. Значна радзей дыферэнцыруючымі кампанентамі выступаюць лічэбнікі (на Міншчыне 51, у Цюрынгіі — 24 н. п.).

У адрозненне ад беларускіх прыметнікі і лічэбнікі ў нямецкіх айконімах ужываюцца ў нефлектываванай форме, пры гэтым прыметнікі знаходзяцца ў прэпазіцыі, лічэбнікі — у постпазіцыі; у беларускай айканіміі дапушчальныя абодва варыянты, аднак

перавага аддаецца прэпазітыўнаму ўжыванню ў дыферэнцыруючых кампанентаў.

Сустракаюцца таксама айконімы з дыферэнцыруючымі элементамі, якія ўказваюць на месцазнаходжанне населенага пункта.

У якасці атрыбутыўнага кампанента ў беларускіх назвах ужываюцца адносныя прыметнікі, якія выконваюць дыферэнцыруючую функцыю і ўтвараюць антанімічныя пары *верхні — ніжні, бліжні — дальні, горны — дольны, паўднёвы — паўночны, усходні — заходні*. На тэрыторыі Міншчыны зафіксавана 6 такіх прыкладаў, аднак назвы гэтага тыпу сустракаюцца на ўсёй тэрыторыі Беларусі: *Горнае Скорбава — Дольнае Скорбава, Верхні Церабяжоў — Ніжні Церабяжоў* (Брэсцкая вобл.), *Бліжняя Буда — Дальняя Буда, Верхнія Марозы — Ніжнія Марозы* (Віцебская вобл.), *Верхнія Пагараны — Ніжнія Пагараны* (Гродзенская вобл.) і інш.

У нямецкай мове азначальныя словы з'яўляюцца пераважна часткай складаных айконімаў, якія, падобна айконімам з антанімічнымі парамі тыпу *groß — klein, alt — neu*, адпавядаюць беларускім састаўным. Аднак на тэрыторыі Цюрынгіі зафіксавана антанімічная пара *Obere Grasmühle — Untere Grasmühle*, адпаведная па структуры беларускім састаўным айконімам.

Азначальнымі кампанентамі тут выступаюць антанімічныя пары:

а) *бліжні — дальні*, адп. ням. *nah — fern*, якія ўказваюць на адносную адлегласць да аб'екта: *Бліжнія Бондары — Дальнія Бондары, Fernbreitenbach — Breitenbach, Näherstille — Mittelstille* — на Міншчыне і ў Цюрынгіі па 2 н. п.;

б) *верхні — ніжні*, адп. ням. *ober — unter*, якія сведчаць пра становішча на мясцовасці, па цячэнню ракі: *Верхняе Сіняла — Ніжняе Сіняла, Obere Grasmühle — Untere Grasmühle* — у абодвух рэгіёнах зафіксавана па 1 прыкладу такога тыпу. Аднак у Цюрынгіі пашыраны складаныя айконімы з кампанентамі *ober — nieder*, адпаведныя беларускім састаўным: *Obergebra — Niedergebra, Oberroßla — Niederroßla, Oberspier — Niederspier* і інш. (усяго 11 антанімічных пар). Яшчэ часцей сустракаюцца назвы, дзе ў якасці азначальнага слова стала ўжывацца сінанімічнае *unter-*, якое ў асобных выпадках цалкам выцесніла ранейшае *nieder-*: *Oberalba — Unteralba, Obermaßfeld — Untermaßfeld, Oberrohn — Unterrohn* і інш. (усяго ў даследуемым рэгіёне 31 антанімічная пара).

Часам дыферэнцыруючую функцыю выконвае толькі адзін кампанент — часцей *ober* — верхні (*Oberilm — Ilm, Oberoppurg — Oppurg, Oberroth — Roth*, у Цюрынгіі 6 прыкладаў), ра-

дзей *unter/nieder* — ніжні: *Niederhengelbach — Hengelbach, Unterwildungen — Wildungen* (2 прыклады).

На Беларусі сустракаюцца толькі айконімы з азначальным словам *верхні — Верхняя Ліда — Ліда, Верхняя Свіслач — Свіслач* (Гродзенская вобл.).

У Цюрынгіі ўжываюцца толькі трайныя адпаведнікі: *Obergneus — Untergneus — Gneus, Obertrebra — Untertrebra — Trebra, Oberuder — Unteruder — Uder* і інш. (усяго 7 прыкладаў). Бываюць выпадкі, калі да зыходнага айконіма далучаецца азначальнае *mittel (сярэдняе): Oberpöllnitz — Mittelpöllnitz — Niederpöllnitz.*

У большасці аналізуемых прыкладаў апорным словам з'яўляецца айконім, аднак зрэдку яго функцыю можа выконваць адзін гідронім: *Верхняя Свіслач, Oberbösa — Niederbösa, Obernissa — Niedernissa, Oberilm* (на Беларусі 1 прыклад, у Цюрынгіі — 8).

в) *горны — дольны,* адп. ням. *Berg- — Thal-,* якія вызначаюць месцазнаходжанне населенага пункта адносна рэльефу: *Горны Сноў — Дольны Сноў, Дольная Гарадзея — Гарадзея* (на Міншчыне 2 прыклады), *Bergsulza — Sulza, Thalbürgel — Bürgel* (у Цюрынгіі 2 прыклады). У беларускіх айконімах дыферэнцыруючую функцыю выконваюць адносныя прыметнікі, у нямецкіх — назоўнікі.

Дарэчы, у нямецкай айканіміі нярэдкія выпадкі ўжывання назоўнікаў у якасці дыферэнцыруючага слова: *Dorfilm — Stadtilm; Dorf Kulm — Schloßkulm, Kirchhasel — Hasel, Kirchremda — Remda, Stadtroda — Roda* і інш.

г) *паўднёвы — паўночны / Süd- — Nord- усходні — заходні Ost- — West-,* якія вызначаюць месцазнаходжанне аб'екта адносна бакоў свету. На Міншчыне назваў гэтага тыпу няма, аднак яны сустракаюцца на тэрыторыі Беларусі: *Здзітава Усходняе — Здзітава Заходняе* (Брэсцкая вобласць), *Паўднёвае Гняздзілава — Паўночнае Гняздзілава* (Віцебская вобласць). Нешматлікія яны і ў Цюрынгіі: *Oesterbehringen — Behringen, Oesterkörner — Körner, Westerengel — Holzengel.* Тут у якасці азначальнага слова ўжываецца старажытная форма прыметніка: *oester (ahd ostar — östlich* — усходні), *wester (westlich).* Значна часцей дыферэнцыруючым кампанентам з'яўляецца назоўнік: *Osthausen — Westhausen, Ostheim — Westheim, Sundhausen — Nordhausen, Sundremda (mhd sund — паўднёвы) — Remda, Westgreußen — Greußen.*

Азначальнае слова ў прыведзеных прыкладах знаходзіцца ў прэпазіцыі. У айконімах, якія ўзніклі ў наш час, дамінуе постпазіцыя: *Sondershausen West — Sondershausen.* Аналагічная з'ява

назіраецца і ў беларускай мове: *Брэст Усходні — Брэст Заходні, Брэст Паўднёвы.*

Як бачым, у адрозненне ад беларускай айканіміі, дзе састаўныя назвы з дыферэнцыруючым элементам, які паказвае на месцазнаходжанне аб'екта адносна населенага пункта,— тып непрадуктыўны, у нямецкай яны даволі пашыраныя. Самыя прадуктыўныя тут айконімы з дыферэнцыруючым кампанентам *ober — unter/nieder, верхні — ніжні.*

Другой адметнай асаблівасцю нямецкіх айконімаў з'яўляецца ўжыванне ў якасці дыферэнцыруючага кампанента назоўнікаў замест адносных прыметнікаў.

У нямецкай айканіміі адзначаны дыферэнцыруючыя кампаненты, якія не маюць адпаведнікаў у беларускай. Сустракаюцца азначэнні, якія ўказваюць на форму населенага пункта з кампанентам *lang (доўгі): Langengrobsdorf — Grobsdorf, Langenwetzdorf — Wetzdorf.* Хоць на тэрыторыі Цюрынгіі зафіксаваны 2 такія прыклады, яны сустракаюцца і ў іншых рэгіёнах: *Langennaundorf — Naundorf, Langensalzwedel — Salzwedel.* Радзей сустракаюцца назвы з кампанентам *breit (шырокі): Breitenworbis — Worbis.*

Практыкуецца і дыферэнцыяцыя населеных пунктаў па этнічнай прыналежнасці: *Deutsch-Schwabhausen — Windisch-Schwabhausen.* У назвах пасяленняў, заснаваных германскімі плямёнамі, атрыбутыўным кампанентам з'яўляецца прыметнік *deutsch (нямецкі),* у славянскіх пасяленнях — *wendisch/windisch (славянскі).*

Часта ў назвах карэнных нямецкіх пасяленняў азначэнне *deutsch* апускаецца: *Windischbernsdorf — Bernsdorf, Windisch-Lutter — Lutter.*

Колькасныя суадносіны айконімаў з дыферэнцыруючымі кампанентамі ў дачыненні да ўсіх састаўных айконімаў, зафіксаваных на Міншчыне і ў Цюрынгіі, пададзены ў табл. 1.

### Айконімы з атрыбутыўным кампанентам «ад'ектываваны назоўнік»

У якасці азначальнага слова выкарыстоўваецца прыметнік, утвораны ад другога тапоніма: *Астрашыцкі Гарадок, Блужскі Бор, Дварэцкая Слабада* і інш. (на Міншчыне 25 назваў); *Behringer Schenke, Eigenröder Warte, Sulzer Siedlung* (у Цюрынгіі — 7).

Субстантыўным кампанентам тут з'яўляецца айконім. Атрыбутыўны кампанент матываваны другім айконімам і ўказвае на адносіны новай назвы да старой, ад якой утвораны прыметнік: *Астрашыцкі (Астрошыцы) Гарадок, Блужскі (Блужа) Бор* і

*Табліца 1*

| Дыферэнцыруючыя кампаненты | Колькасць назваў на Міншчыне | | Колькасць назваў у Цюрынгіі | |
|---|---|---|---|---|
| | у адзінках | у працэнтах | у адзінках | у працэнтах |
| Вялікі — малы/gros — klein | 136 | 29,63 | 96 | 27,12 |
| стары — новы/alt — neu | 81 | 17,65 | 25 | 7,06 |
| I, 1, першы — II, 2, другі/I, 1, eins— II, 2, zwei | 64 | 13,94 | 24 | 6,78 |
| бліжні — дальні/nah — fern | 2 | 0,44 | 2 | 0,56 |
| верхні — ніжні/ober — unter | 2 | 0,44 | 114 | 32,20 |
| горны — дольны/Berg-— Thal- | 3 | 0,65 | 2 | 0,56 |
| паўднёвы — паўночны/Süd-— Nord- | — | — | 10 | 2,82 |
| усходні — заходні/Ost-— West- | | | | |
| Іншыя кампаненты | — | — | 7 | 1,98 |
| Усяго | 288 | 62,75 | 280 | 79,10 |

т. п. Гэтак і ў нямецкіх назвах: *Behringer* (<*Behringen*) *Schenke*, *Sulzer* (<*Sulza*) *Siedlung* і г. д. У нямецкай айканіміі ў адрозненне ад беларускай атрыбут не скланяецца.

У якасці апорнага слова састаўных айконімаў могуць ужывацца антрапонімы. Айконімы гэтага тыпу адсутнічаюць на тэрыторыі Беларусі, нешматлікія яны і ў нямецкіх рэгіёнах. Апорнымі кампанентамі тут з'яўляюцца кананічныя імёны святых, якія даваліся царквам ці манастырам і ў асобных выпадках пераносіліся на размешчаныя побач населеныя пункты: *St. Bernhard, St. Gangloff, St. Jacob, St. Kilian* (у Цюрынгіі 4 айконімы).

Азначальным кампанентам з'яўляецца нескланяемы лацінскі прыметнік *sanct* (*святы*), які пішацца скарочана[8]. Дарэчы, такія назвы зафіксаваны не толькі на тэрыторыі Цюрынгіі: *St. Gallen, St. Georgen, St. Märgen, St. Johann, St. Peter* і інш.

## Айконімы ў форме генітыўных словазлучэнняў

Сінтаксічная сувязь паміж кампанентамі гэтага тыпу айконімаў — кіраванне, калі азначальныя словы ці словазлучэнне стаяць у родным склоне: *Пасёлак леспрамгаса, Пасёлак смолзавода.* Азначэнні ў такіх назвах могуць складацца з некалькіх слоў: *Пасёлак рыбгаса «Альба», Пасёлак раённага аб'яднання*

[8] Параўн. руск.: Санкт-Петербург.

*«Сельгастэхніка»*. Апорным кампанентам тут выступае айконім. Другі кампанент выконвае функцыю атрыбута і ўказвае на прыналежнасць аб'екта прадпрыемству, установе і т. п. Такія назвы нешматлікія, яны ўтвораны пераважна ў нашы дні. Новымі ў беларускай айканіміі з'яўляюцца і назвы-прысвячэнні, якія часта ўводзяцца словам «імя»: *Пасёлак Будзённага, Пасёлак імя Розы Люксембург* і інш. (на Міншчыне 6).

У нямецкай айканіміі атрыбутыўны кампанент выражаецца антрапонімам у родным склоне і ўказвае на прыналежнасць аб'екта ўладальніку: *Kühns Häuser, Friedrichs Anfang* (у Цюрынгіі 2).

У нямецкіх назвах-прысвячэннях азначэнні-назоўнікі не скланяюцца і пішуцца праз дэфіс: *Dr. Külz-Siedlung, Ernst-Thälmann-Siedlung, Rosa-Luxemburg-Siedlung* (у Цюрынгіі 3).

У беларускіх айконімах азначальны кампанент стаіць постпазітыўна, у нямецкіх прэпазітыўна. Выключэнне складаюць толькі айконімы *Gispersleben Kiliani, Gispersleben Viti*, дзе захавалася лацінская форма роднага склону антрапонімаў *Kiliani>Kilian; Viti>Vitus*.

### Айконімы ў форме прыназоўнікавых словазлучэнняў

Усе айконімы гэтага тыпу можна падзяліць на дзве структурныя групы:

1. «Прыназоўнік+назоўнік». Яны зафіксаваны як у славянскай айканіміі: *Межи Броди* (укр.), так і ў нямецкай: *Am See*. На Беларусі, у прыватнасці на Міншчыне, яны ўжываюцца на ўзроўні мікратапаніміі: *За Возерам, За Гаем, За Лугам* і інш. З цягам часу многія з іх у выніку зрашчэння прыназоўніка з назоўнікам перайшлі ў разрад прэфіксальных айконімаў: *Загай, Залуг, Завозеры* і інш.

Падобныя зрашчэнні ёсць у айканіміі Цюрынгіі *(Hinternah, Untermhaus, Zumroda)* і іншых нямецкіх рэгіёнаў: *Ambach, Amberg, Amsteg, Andermatt, Imhof* і інш.

Сюды ж далучаюцца айконімы, якія складаюцца з прыназоўніка і назоўніка з дапасаваным да яго азначэннем-прыметнікам: *Am Schwarzen Busch*.

2. «Назоўнік+прыназоўнік+назоўнік». На Беларусі айконімы такога тыпу таксама не адзначаны, аднак сустракаюцца ў славянскай айканіміі: *Ростов-на-Дону, Комсомольск-на-Амуре*. У якасці апорнага слова тут заўжды выступае айконім. Азначальным кампанентам служыць гідронім з прыназоўнікам. Ім адпаведны нямецкія: *Berga an der Elster, Ettenhausen an der Nesse, Ettenhausen an der Suhl* і інш. (у Цюрынгіі 6 прыкладаў).

У адрозненне ад славянскай у нямецкай айканіміі азначальны кампанент можа выражацца:

а) апелятывам з прыназоўнікам, які абазначае назвы прыродна-геаграфічных аб'ектаў: *Aue am Berg, Daasdorf am Berge, Lengefeld unterm Stein* і інш. (у Цюрынгіі 4 прыклады);

б) айконімам з прыназоўнікам: *Kleingeschwenda bei Arnsgereuth, Linda bei Neustadt, Milbitz bei Teichel* (у Цюрынгіі 10 прыкладаў);

в) аронімам з прыназоўнікам: *Neuhaus am Rennweg, Neustadt am Rennweg, Stedten am Ettersberg* (у Цюрынгіі 3 прыклады).

У нямецкіх айконімах гэтага тыпу ў якасці азначальнага кампанента ўжываецца часцей за ўсё таксама айконім.

Асаблівасцю нямецкай айканіміі з'яўляецца наяўнасць артыкля пры азначальным слове, які разам з граматычнай выконвае і дыферэнцыруючую функцыю, ён ужываецца перад гідронімам, аронімам і не ставіцца перад айконімамі.

Зараз у рускай і нямецкай айканіміях назіраецца тэндэнцыя да спрошчанага напісання трохкампанентных састаўных айконімаў: *Ростов (Дон), Berga (Elster)* з прычыны іх груваісткасці, што назіраецца і ў вуснай мове, дзе азначальны кампанент апускаецца: *Ростов, Berga, Ettenhausen* і г. д.

## Састаўныя айконімы ў форме недапасаваных словазлучэнняў

Абодва кампаненты такіх назваў выражаны назоўнікамі ў назоўным склоне. На Міншчыне айконімы гэтага тыпу не зафіксаваны, аднак яны сустракаюцца ў іншых рэгіёнах Беларусі: *Калонія Белін, Калонія Равіны* (Брэсцкая вобл.), *Пасека Гудзінішкі, Пасека Дварчаны* (Гродзенская вобл.) і інш.

У Цюрынгіі зафіксавана 20 назваў гэтага тыпу: *Bad Berka, Burg Hanstein, Vorwek Fraitsch* і інш. Яны ўтварыліся шляхам далучэння да айконіма агульнага назоўніка, які ўказвае на спецыфіку населенага пункта і выконвае свайго роду дыферэнцыруючую функцыю.

Супастаўляльны аналіз беларускіх і нямецкіх састаўных айконімаў дазволіў устанавіць агульныя і адметныя рысы ў даследаваных рэгіёнах. У абедзвюх айканімічных сістэмах гэты тып непрадуктыўны. На Міншчыне з агульнай колькасці (5000) вылучана 499 састаўных (9,2%), з 3500 айконімаў у Цюрынгіі — 364 (10,4%).

Прадуктыўнасць структурных разнавіднасцей састаўных айконімаў можна прасачыць у табл. 2.

*Табліца 2*

| Словаўтваральныя мадэлі | Колькасць назваў на Міншчыне | | Колькасць назваў у Цюрынгіі | |
|---|---|---|---|---|
| | у адзінках | у працэнтах | у адзінках | у працэнтах |
| Атрыбутыўныя словазлучэнні | 449 | 97,82 | 304 | 85,98 |
| Генітыўныя словазлучэнні | 10 | 2,18 | 8 | 2,26 |
| Прыназоўнікавыя словазлучэнні | — | — | 23 | 6,50 |
| Недапасаваныя словазлучэнні | — | — | 19 | 5,37 |
| Усяго | 459 | 100 | 354 | 100 |

Першапачаткова беларускія і нямецкія састаўныя айконімы ўзніклі ў выніку тапанімічнага пераасэнсавання назваў-словазлучэнняў часцей за ўсё па прынцыпу тапанімічнай метанімії. Пазней разгледжаныя айконімы сталі ўтварацца ад ужо існуючых тапонімаў шляхам далучэння дыферэнцыруючых кампанентаў. Яны з'яўляюцца тапанімічнымі універсаліямі айканімічных сістэм народнасных моў, аднак ёсць назвы з кампанентамі, уласцівымі пэўнаму рэгіёну.

Большасць айконімаў у форме генітыўных словазлучэнняў утварылася ў нашы дні.

Двухкампанентныя айконімы ў форме прыназоўнікавых словазлучэнняў утвараліся пераважна спантанна, стыхійна, у той час як трохкампанентныя характэрны афіцыйнай мове і служаць для ўдакладнення месцазнаходжання населенага пункта.

Больш познімі з'яўляюцца састаўныя айконімы ў форме недапасаваных словазлучэнняў «назоўнік + назоўнік».

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

н. п.— населены пункт

ahd — althochdeutsch — старажытнаверхненямецкі
mhd — mittelhochdeutsch — сярэдневерхненямецкі

*М. КАНДРАЦЮК*

# АЙКОНІМЫ PLURALIA TANTUM ЛІТОЎСКАГА ПАХОДЖАННЯ Ў БЕЛАСТОЦКІМ РЭГІЁНЕ

У паўночна-ўсходняй частцы Польшчы — на абшары ад Буга ў раёне Драгічына і Мельніка на поўдні да Аўгустоўскага канала на поўначы і ад рэк Нурэц, Мень, Сліна, Бебжа, Нетта на захадзе да дзяржаўнай граніцы з БССР — сярод славянскіх геаграфічных назваў сустракаюцца тапонімы балтыйскага паходжання — пераважна літоўскага.

Гістарычна акрэсленая тэрыторыя — гэта частка Падляшша і сумежных з ім на ўсходзе зямель Вялікага княства Літоўскага, якая была заселена галоўным чынам у XIV—XVIII стст. рознымі ў этнічных і сацыяльных адносінах групамі насельніцтва. Побач з дробнай шляхтай і мазавецкімі сялянамі аселі тут беларускія і ўкраінскія сяляне і баяры, а таксама асобныя групы і сем'і літоўскіх пасяленцаў, сярод якіх былі патомкі яцвяжскага насельніцтва [1]. Яцвяжскія плямёны амаль да канца XIII ст. займалі землі на поўнач і захад ад названай вышэй тэрыторыі [2]. У 1283 г. яны былі канчаткова разбіты крыжаносцамі (Wiśniewski Augustów 25—26). Зараз на тэрыторыі паміж Аўгустоўскім каналам і Бугам побач з польскімі гаворкамі адзначаюцца беларускія і ўкраінскія. Насельніцтва большасці вёсак, пераважна ўсходняй часткі, двухмоўнае. Тэрытарыяльная распаўсюджанасць усходнеславянскіх гаворак на Беласточчыне і важнейшыя фанетычныя прыметы гэтых гаворак прадстаўлены ў першым томе «Atlasu gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny», падрых-

---

[1] Wiśniewski J. Rozwój osadnictwa na pograniczu polsko-rusko-litewskim od końca XIY do połowy XYII wieku.— Acta Baltico-Slavica. Białystok, 1964, t. 1, s. 115—135; Яго ж. Osadnictwo wschodniej Białostocczyzny, geneza, rozwój oraz zróżnicowanie i przemiany etniczne.— Acta Baltico-Slavica.— Wrocław, 1977, t. 11, s. 7—80.

[2] Nalepa J. Jaćwięgowie. Nazwa i lokalizacja.— Białystok, 1964.— 60 s.

таваным калектывам Інстытута славяназнаўства Польскай Акадэміі навук у Варшаве [3].

На даследаванай намі тэрыторыі літоўскіх гаворак няма і невядомы вёскі з літоўскім насельніцтвам. Відаць, іх не было ўжо ў 1928—1933 гг., паколькі яны не адзначаны на «Mapie obszaru językowego litewskiego w Rzeczypospolitej Polskiej» Альгерда Хамінскага (Варшава, 1934). Невялікая колькасць літоўцаў была зарэгістравана на гэтай тэрыторыі ў перыяд першага ўсеагульнага перапісу, які праводзіўся ў Расійскай імперыі ў 1897 г. [4] Літоўцы пражывалі ва ўсіх трох тагачасных уездах Гродзенскай губерні (Сакольскім, Беластоцкім і Бельскім), якія зараз уваходзяць у склад Беластоцкага і Ломжынскага ваяводстваў. Найбольшая колькасць асоб, прызнаўшых літоўскую мову роднай, зарэгістравана ў Сакольскім уездзе — 74 жыхары. Можна меркаваць, што людзей, якія ведалі літоўскую мову і карысталіся ёю паўсядзённа, было ў гэтых уездах значна больш, але сярод іх былі і такія, якія валодалі дзвюма мовамі — польскай і літоўскай, а за родную мову прызналі польскую, атаясамліваючы сваю нацыянальную прыналежнасць з каталіцкім веравызнаннем. Частка літоўска-ўсходнеславянскіх білінгваў аказалася сярод насельніцтва, якое размаўляла на беларускай мове (найбольш распаўсюджанай у вёсках) або на рускай, якая вывучалася ў школах, была афіцыйнай мовай устаноў, а таму карысталася грамадскім аўтарытэтам. Інакш цяжка было б растлумачыць тыя дадзеныя перапісу, якія інфармуюць пра адзінкавых жыхароў некаторых мясцовасцей, што карысталіся літоўскай мовай, прызнаючы яе за родную. Па адной або дзве асобы, якія лічылі літоўскую мову роднай, адзначана ў наваколлі Янава, Дубровы Беластоцкай, Кнышына, Новага Двара, Бельска Падляшскага. Відавочна, гэта былі адзінокія старыя людзі або маладыя, нядаўна прыехаўшыя з аддаленых абласцей уласна Літвы.

Шматлікія літуанізмы ў анамастыцы Беласточчыны (тапонімы і антрапонімы) сведчаць аб тым, што насельніцтва вёсак гэтага раёна ў недалёкім мінулым ведала літоўскую мову і карысталася ёю незалежна ад таго, да якой нацыянальнасці яно сябе адносіла. На гэтай жа тэрыторыі нацыянальная свядомасць не заўсёды фарміравалася паводле моўнага крытэрыя. Нават сёння, піша С. Глінка, «...католікі ў ваколіцах Саколкі і Дубровы

[3] Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny. / Pod red. S. Glinki, A. Obrębskiej-Jabłońskiej i J. Siatkowskiego.— Wrocław—Warszawa, 1980, t. 1, s. 230.

[4] Першы ўсеагульны перапіс насельніцтва Расійскай імперыі 1897 г. Пад рэд. Н. А. Трайніцкага. XI. Гродзенская губерня.— М., 1904, с. 2—3.

Беластоцкай, якія штодзённа карыстаюцца беларускай гутарковай мовай, лічаць сябе палякамі, праваслаўныя з-пад Бельска Падляшскага ці Семятыч — пераважна беларусамі, нягледзячы на тое, што іх гаворка мае многа ўкраінскіх рыс» [5].

Як піша В. Ташыцкі [6] ў даследаванні, прысвечаным семантыка-словаўтваральнай класіфікацыі славянскіх тапонімаў, родавыя назвы абазначалі ў найбольш старажытны перыяд свайго развіцця жыхароў пэўнага паселішча на падставе назвы асобы, якой яны карысталіся сумесна як члены аднаго і таго ж роду або якой іх усіх іменавалі збоку. Тэрмін «родавая назва» ў адносінах да назваў пасёлкаў, датаваных помнікамі больш позняга перыяду, можна было б замяніць тэрмінам «сямейная назва», таму што, як сцвярджае Г. Гурновіч [7], гэтыя назвы «ўзніклі не ў выніку родавага пасялення, а галоўным чынам у выніку пазнейшага «сямейнага пасялення гаспадарчага характару». У нашым выпадку тэрмін «родавая назва» трактуецца ўмоўна, як тэрмін, агульнапрыняты ў польскай анамастыцы.

Асновы родавых назваў складаюць шырока вядомыя антрапонімы (імёны, мянушкі і прозвішчы). Звычайна родавыя назвы не маюць суфіксальнага паказчыка.

У дадзеным артыкуле аналізуюцца тапонімы літоўскага паходжання паўночнай часткі Беласточчыны, менавіта тэрыторыі паміж Аўгустоўскім каналам на поўначы, рэкамі Супрасль на поўдні і Бебжа на захадзе. Тапонімы з астатняй часткі тэрыторыі разгледжаны ў манаграфіі [8], прычым аналізуюцца толькі тыя назвы, якія функцыяніруюць да сённяшняга дня.

Матэрыял падаецца ў алфавітным парадку. У якасці загалоўнага слова выступае тапонім у той форме, у якой ён зафіксаваны ў афіцыйных крыніцах [9]. Указваецца характар аб'екта, яго месца

---

[5] Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny, s. 10.

[6] Taszycki W. Słowiańskie nazwy miejscowe (Ustalenie podziału).— Kraków, 1946. Перадрукоўка: Rozprawy i studia polonistyczne.—Wrocław —Warszawa, 1958, t. 1, s. 264.

[7] Górnowicz H. Studia nad rodowymi nazwami miejscowymi w języku polskim na tle innych języków słowiańskich (synteza).— Gdańsk, 1968, s. 20.

[8] Kondratiuk M. Nazwy miejscowe południowo-wschodniej Białostocczyzny.— Wrocław — Warszawa, 1974, s. 304. Да родавых назваў з літоўскай асновай ці фармантам належаць тапонімы: *Ancuty, Ciekuny, Dojlidy, Dojlidy Górne, Dydule, Gobiaty, Gredele, Kiewlaki, Kieturyki, Klesczele, Knorydy, Knorydy Górne, Knorydy Podleśne ,Knorydy Średnie, Kojły, Kojrany, Lubejki,Lubiejki, Lule, Matuszejki, Narejki (Norejki), Narojki, (Niemyje)—Składy, Olmonty, Romejki, Skierwiny, Skroblaki, Szernie, Szeszyły, Szewele, Tołcze, Tonkiele (Tunkiele), Torule, Trypucie, Wilginie (Wilkinie), Wojszki (≤ Woysnie, Wojszinie), Żegunie.*

[9] Skorowidz nazw miejscowości województwa białostockiego (Dodatek do Dziennika Urzędowego, N 6 WRN w Białymstoku).— Białystok, 1962; Spis miejscowości Polskiej Rzeczypospolitej Ludowej.— Warszawa, 1967.

размяшчэння, а таксама формы запісаў гэтай назвы, выяўленыя ў гістарычных крыніцах. Гістарычны матэрыял прыводзіцца ў храналагічнай паслядоўнасці, пачынаючы ад запісаў самых позніх да самых старажытных. Калі назвы з розных дакументаў пачаргова супадаюць, то змяшчаецца толькі першы запіс, а далей ідуць даты чарговых гістарычных засведчанняў, калі яны не ўказаны ў назвах крыніц або не супадаюць з годам іх выдання, і скарачэнні гэтых крыніц.

Пасля сучаснай афіцыйнай формы назвы і гістарычна засведчаных форм падаецца яе дыялектнае гучанне ў назоўным і родным склонах, а часам і дыялектная форма прыметніка (у спрошчанай фанетычнай транскрыпцыі). У канцы слоўнікавага артыкула тлумачыцца назва, падаецца яе семантычная класіфікацыя і этымалогія.

Падставай для аднясення дадзенай назвы да групы літоўскіх назваў служыць не толькі выразная балтыйская аснова, якую складаюць літоўскія імёны, прозвішчы і мянушкі (таму што яны нярэдка маглі быць агульнымі для славян і балтаў), але і фанетычнае гучанне назвы, спецыфічная літоўская марфема, а таксама гістарычныя даныя пра канкрэтную вёску, пра назвы яе жыхароў, засведчаныя ў крыніцах, і іншыя фактары.

BIERNIKI в. гм. Сідра Беласт. ваяв.: *Berniki* в. SG I 153; *Bierniki* — Рук. 1-6007, с. 133; *Berniki* Synodus 97; дыял. *b'erńiki*, Р. *z b'erńikaų*, прым. *b'erńicki*.— РН ад літ. АН *Bernikas, Bẽrnikis* КЛП, ŽinkLA 124; параўн. літ. *bérnas* 'парабак; хлопец, кавалер'.

BILMINY в. гм. Кузніца Беласт. ваяв.: *Bilwiny* ак. SG XY I 154; шл. ак. Рук. 1-6007, с. 121; *Bilminy* Synodus 95; дыял. *bilv'iny*, Р. *b'ilvin*.— РН ад літ. антрап. *Bilvinas, Bilminas* КЛП, якія з'яўляюцца ст.-літ. двухчленнымі імёнамі *Bil-min-as* Zinkevičius Baltistica XII 98 або *Bili-minas* Skardžius Bindevokale 502.

BILWINKI в. гм. Саколка Беласт. ваяв.: *Bilwiny* в. SG XY I 154; Karta gub. Sok.; Synodus 96; паны *Bilminowie* з Кабыленошкі (1708) з сянных моргаў у Сакольскай пушчы плацяць — Рук. ДА-11290 к. 74; дыял. *bilv'in'e* // *bilv'inki*, Р. *bilvin'ou* // *b'ilv'inek*, прым. *bilv'inski*.—РН, гл. вышэй. Памяншальная форма назвы: *Bilwinki*, новае афіцыйнае ўтварэнне, пра што сведчаць суіснуючыя адна пры адной дзве дыялектныя формы. У абодвух вышэйпададзеных назвах назіраецца чаргаванне губных зычных m : w.

BOMBLA в. гм. Карыцін Беласт. ваяв.: *Bąbla* SG I 121, SG XY I 95; *Bombla* в. Сп. 61; *Bombly* Mapa Sotz; дыял. *b'ombla*, Р. *b'ombli*, прым. *bombl'anski*.— РН ад літ. АН *Bamblỹs, Bam̃balas*

КЛП; параўн. літ. *bamblȳs* 'бурчанне, буркатанне; вузел, вузлаваты, гузаваты; калена, каленчаты, жылаваты'. Невядома дата заснавання вёскі і першапачатковае гучанне яе назвы, але самы ранні запіс назвы пасёлка засведчаны ў множным ліку.

CZEPIELE в. гм. Кузніца Беласт. ваяв.: *Czepiele* в. SG XY I 361; *Čepeli* в. Сп. 40; *Ciepiele* — Рук. 1-6007, с. 87; дыял. *čapal'é,* Р. *ćapal'óu̯,* прым. *čapel'óu̯ski.*— РН ад ст.-польск. АН *Czepiel* SSNO, літ. *Čepelis* КЛП, а апошняя ад Čepas (⩽Ščeponas: польск. Szczepan, Stefan); параўн.: Van MP II 74, 85; ZinkLA 67, 78.

DOWNARY в. гм. Гонюдз Ломж. ваяв.: *Downary* в.; прадмесце г. Ганюдза SG XV I 435; Рук. 1-6009, с. 31; Synodus 146; 1616 в. у акрузе г. Ганюдза LWP XVII; *Downary* — жыхары акругі г. Ганюдза, у якіх было $3\frac{1}{2}$ валокі, 1571 Podl I 177; дыял. *dovn'ary,* Р. *d'ovnar,* прым. *dovn'arski.*— РН узяла свой пачатак ад зборнай назвы членаў сям'і *(Downary),* якія былі адзначаны ў Інвентары Ганюдзкага староства з 1571 г. як прыгарадныя жыхары г. Ганюдза, на $3\frac{1}{2}$ валоках зямлі. Параўн. літ. прозв. *Daunorà, Daũnoras, Daũnorius* КЛП. Гэта і ёсць ст.-літ. двухчленныя імёны *Daũ-nor-as (⩽Daũg-nor-as),* у якіх 1-ы член *Daũg-* паходзіць ад *daũg* 'многа', 2-і — *-nor-* ад *nor-ė'ti, nóras* 'хацець; хаценне, ахвота, пажаданне, патрабаванне', параўн. ZinkLA 249.

DOWNARY PLAC пасёлак гм. Гонюдз Ломж. ваяв.: можа гэта ранейшы *Downary Kramkówka,* хутар Якубоўскіх SG XV I 435; *Downary Kramkowka* Сп. 84; дыял. *dovn'ary plac.*— РН, гл. вышэй.

DRAHLE в. гм. Саколка Беласт. ваяв.: *Drahle* в., маёнткі і ўроч. SG XVI 437; Karta gub. sok.; вёска — Рук. ДА-11290 к. 30; сяло, 20 валок—Рук. Ф-1882 к. 115 адв. дыял. *dra'hle,* Р. *dr'ahlau,* прым. *drah'elski.*—РН ад славянізаванай АН, **Drahel* (ад літ. *Dragẽlis*). Параўн. літ. прозв. *Dragẽlis, Draugẽlis, Drãgas* КЛП. Антрапонімы *Drãgas, Dragẽlis,* як лічыць З. Зінкевічус, паходзяць ад літ. *drãg-oti* 'рабіць што-н. абы-як, псаваць; шумець' ZinkLA 112, 136, магчыма таксама сувязь з *Dragẽlis⩽Draugẽlis* ад *draũgas* 'сябар, прыяцель, друг'. Мясцовая назва *Drahle* таксама магла ўтварыцца непасрэдна ад літ. тапоніма **Drageliai,* параўн. літ. *Dragẽliškės* LATSŽ II 65 і прым. *drah'elski,* утвораны ад назвы вёскі.

GINIE выс. вёскі Свежбені гм. Монькі Беласт. ваяв.: *Ginie* в SG XV I 500; засценак — Рук. 1-6009, с. 32; LWP XVII, 1576 LWP XVI 79; 1571; вёска на $1^1/_2$ валоцы, ганюдзкае ўладанне Podl I 178; вёска ўтварылася ў XV стагоддзі Wiśniewski Osadnictwo 20;

дыял. *g'iňe,* Р. *g'iňof.*— РН ад АН *Giń* (параўн. земляроб *Gin* у вёсцы Яцвеж (1565), *Giniewicz* у Навасёлках Podl III 234), а тыя ад літ. АН *Ginius, Ginȳs* КЛП; ZinkLA 143. Антрапонімы гэтыя маглі ўтварыцца ад літ. *gin-ti* 'бараніцца, упірацца' або ад ст.-літ. двухчленных імён тыпу *Gin-taut-as.*

JADESZKI в. гм. Ясьвілы Беласт. ваяв.: *Jedeszki* в. Сп. 79; *Jadeszki* каралеўская вёска — Рук. 1-6008, с. 13; Synodus 147; *Jodeszki* в. Рук. ДА-11290 к. 95, сяло — Рук. Ф-1882 к. 187; з *Jodeszek* 1639 СП 132; *Jodeski* 1561 вёску, 8 валок, Ян Вецковіч, пэрстуньскі ляснічы, «трымае як лясніцтва» Podl I 177, III 148; дыял. *iad'eski,* Р. *iad'esek,* прым. *iadesk'oski.*— РН ад літ. АН *Jodeškà, Juodeškà* (⩽*Júodis, Judȳs*) КЛП. У антрапанімії *Jodeškà*⩽*Juodeškà* корань *Juod-* ад *júod-as* 'чорны, брудны' і суфікс *-eška.*

JAGINTY в. гм. Новы Двор Беласт. ваяв.: *Jaginty* в. SG III 369; Рук. 1-6007, с. 111; Рук. ДА-11290 к. 68 адв. *Mularse* або *Jaginty* 1679 AGWB I, 36; *Jaginty* сяло мае 19 валок — Рук. Ф-1882 к. 155 адв. У час валочнага абмеру, каля 1560 г., вёска атрымала назву *Mularskie,* заселена яна русінамі і літоўцамі. Некалькі раней, у 1539 г., упамінаюцца сяляне *Jagintowicze* ў межах Новага Двара, гл. AGWB I 36; дыял. *iag'inty,* Р. *iag'intau,* прым. *iag'intauski.*— РН ад літ. двухчленнай АН *Jó-gint-as,* у якой 1-ы член *Jo-* ад літ. *jó-ti* 'ехаць конна', 2-і член — *-gint-as* ад *ginti* 'бараніць; не дазваляць'. Параўн. таксама антрапонімы *Jagintavičius, Uõgintas* КЛП; Zinkevičius Baltistica XII 100; ZinkLA 148. Замена галоснага *o* на *a* ў назве вёскі наступіла пад уплывам беларускага акання, на тэрыторыі якога размешчана гэта вёска (гл. AGWB I, к. 2).

JAŠWIŁKI в. гм. Ясьвілы Беласт. ваяв.: *Jašwiłki Siółko,* в. і маёнткі SG XV II 13; в.— Рук. 1-6009, с. 25; Synodus 147. *Jašwiłki* — гэта 8 даўнейшых вольных войтаўскіх валок з 8 сельскімі агароднікамі ў в. Язьвілы, што ў 1580 і 1576 гг. належалі Бартошу Влеўскаму, гл. Podl I 115; LWP XVI 76; дыял. *iaśv'iłki* // *ś'ołko,* Р. *iaśv'iłek* // *ś'ołka.*— РН або памяншальную гл. ніжэй.

JAŚWIŁY в. гм. Ясьвілы Беласт. ваяв.: *Jaświły,* в. SG XV II 13; *Jaswiły*—Рук. 1-6009, с. 25; сяло *Jaszwiło* 1602 LWP XVII; *Jaswiły* 1578 сяло, 52 валокі Podl I 176; сяло *Jaświły* 1576 на войтаўства 8 валок LWP XVI 76; у сяле *Jazwiłach* 1564 Podl III 105. Вёска закладзена па ініцыятыве бельскага старасты М. М. Радзівіла паміж 1509 і 1536 гг. Podl II 187; дыял. *iaśv'iły, Josvilas,* Р. *i'aśvił,* прым. *iaśvił'oski.*— РН ад антрапонімаў *Jãsvilas, Jãsvilis* КЛП. Гэта ёсць ст.-літ. двухчленныя імёны

*Jos-vil-as, Jãs-vil-as,* 1-ы член якіх *Jos-* праяўляецца таксама ў літ. імёнах *Jós-kant-as,* прус. *Jos-taute* Trautmann 140, *Jasbùt-is,* а 2-і член *-vil-* звязваецца з літ. *viltis* 'надзея', *viltis* 'мець надзею, падаваць надзею'.

JURASZE в. гм. Сідра Беласт. ваяв.; *Jurasze* в. SG III 628; Рук. 1-6007, с. 145; Рук. ДА-11 290 к. 67 адв.; 1650 сяло, 20 валок— Рук. Ф-1882 к. 159 адв. Перад 1526 г. была заснавана вёска *Bohdanowo,* цяпер *Jurasze,* назва якой магла ўзнікнуць ад члена роду асочнікаў (ахоўнікаў лясных і паляўнічых угоддзяў) *Jurasza Rusaka* Wiśniewski Osadnictwo 38, 41; дыял. *i̯uraš'ė,* Р. *i̯uraš'ȯu̯.*— РН ад польск. АН *Jurasz* (≤*Jerzy*) Bysim 219; KozN 9 або літ. прозв. *Jùrašas, Jurãšius* КЛП. На магчымасць сувязі паміж назвай вёскі і літоўскімі антрапонімамі ўказвае факт, што ў час заснавання гэтай і суседніх вёсак там жыло даволі многа літоўцаў (Wiśniewski Osadnictwo 38—41), акрамя таго, імя *Jerzy* на польскіх зямельных угоддзях па тым часе было вельмі рэдкім, а часцей яно сустракалася на літоўска-рускіх землях (гл. Bysim 218—219).

MASIE в. гм. Монькі Беласт. ваяв.: *Masie,* в. SG XV II 307; Рук. 1-6009, с. 60; Synodus 146; 1580 Podl I 118; 1571 в. належыць п. Сяклюцкаму Podl I 178; *Masie*, літ. в. была заснавана ў XV ст. Wiśniewski Osadnictwo 20; дыял. *m'aśe,* Р. *m'aśof,* прым. *maš'oski.*— РН ад АН *Maś* БірБАН 18, KozN 9, вядомай на Беларусі і ў Польшчы і распаўсюджанай у розных варыянтах па Літве *Mãsis, Masỹs* (≤*Maciej*) Van MP I 108; ZinkLA 79. Прозв. *Maś* зарэгістравана С. Казяроўскім у Польшчы ў 1918—1920 гг., няма дакладнай геаграфічнай лакалізацыі, можа быць пагранічным.

MEJŁY в. гм. Монькі Беласт. ваяв.: *Mejły,* в. SG XV II 315; Рук. 1-6009, с. 60; на *Meyłach* 1661—64 в. LWP XVII; *Meiły* (памылкова Meity) 1591 Podl I 155; *Maiły* 1571 в. п. Сяклюцкага Podl I 178; *Meiły* літ. в., заснавана ў XV ст. Wiśniewski Osadnictwo 20; дыял. *m'ei̯ły,* Р. *m'ei̯łof,* прым. *mei̯l'oski.*— РН ад літ. АН *M'eĩle, Meĩlus, Meĩlius, Máila* КЛП; ZinkLA 172, якая паходзіць ад *méilė, meilùs* 'любоў; мілы, каханы'.

MISZKIENIKI MAŁE выс. в. Zubrzyca Mała гм. Шудзялова Беласт. ваяв.: *Miszkieniki,* ак. і маёнткі SG XV II 340; *Mieszkiniki* Мара Sotz; 1784 пасяленне некалькіх паноў Егнатовічаў — Рук. 1-6007, с. 124; Synodus 95; дыял. *miškiń'iki,* Р. *mišk'ińik,* прым. *miškiń'icki.*— РН ад АН **Miszkinik* ≤ літ. *Miškìnis, Meškìnis* КЛП; ZinkLA 175. Параўн. літ. *miškínis* 'жыхар лесу, лясны дух', *mìškininkas* 'лесавік, лясны'.

MISZKIENIKI WIEŁKIE в. гм. Шудзялова Беласт. ваяв.: *Miszkieniki* в. SG XV II 340; *Kmity* Мара Sotz; *Mieszkiniki* або

*Brozkowszczyzna* паноў Кмітаў з вёсачкай і карчмой — Рук. 1-6007, с. 124; *Mieszkiniki* або *Zbroskowszczyzna* в. Synodus 95; дыял. *kmit'ė* // *miškiń'iki*, Р. *kmit'ou* // *mišk'ińik*, прым. *kmič'anski* // *miškiń'icki*.— РН, гл. вышэй. Паралельная назва: *Kmity*, гэта і ёсць РН ад прозв. *Kmita*, вядомага ў Польшчы, на Беларусі і Літве (Бір. 2, 209; KozN 49).

MOCIESZE в. гм. Ясьвілы Беласт. ваяв.: *Maciesze* в. SG XV II 298; *Mociesze* — Рук. 1-6009, с. 26; Synodus 147; 1661—64, 1616 LWP XVII; LWP XVI 76; у сяле *Macieszach* у 1565 г. жылі сяляне: *Szupiet, Pobrinkielis, Mielwid, Pieczkielis, Kyrwietis* і іншыя Podl III 234; дыял. *moć'esy*, Р. *m'oćes*, прым. *moćes'oski*.— РН ад АН *Maciesza* (≤*Maciej*), існуючай у Польшчы і на Беларусі (Bysim 259; Бір. 1, 118) або літ. АН *Maciẽšas, Macẽšas, Macẽšis, Matešiūnas, Motiešiūnas, Mõcis* Van MP I 100—109. Фанетыка мясцовай назвы *Mociesze* з галосным *o* замест польскага *a* сведчыць аб літоўскім паходжанні назвы, што на тэрыторыі гэтых гаворак з'яўляецца магчымым, таму што гэта можа быць прыклад звышправільнай формы, разлічанай на пазбяганне беларускага акання. Імёны былых жыхароў вёскі выступаюць на карысць літоўскага паходжання.

NOMIKI в. гм. Саколка Беласт. ваяв.: *Nomiki* в. Сп. 46 Мара Sotz; Рук. 1-6007, с. 124; Synodus 95; Рук. ДА-11290 к. 32. адв.; Рук. Ф-1882 к. 133; у 1578 г. тут пражывала мноства літоўцаў Wiśniewski Osadnictwo 41; дыял. *n'omiki*, род. *n'omikou*, прым. *n'omicki*.— РН ад літ. антрапонімаў *Namìkas, Nomeika (-ko)* КЛП, якія семантычна адпавядаюць польскім прозв. *Domorodski, Domarodzki*, ад літ. *nãmas* 'дом'.

RADZIE в. гм. Ясьвілы Беласт. ваяв.: *Radzie* в. SG XV II 536; *Radze* Мара Sotz; *Radzie* Synodus 147. Літоўская вёска *Radzie* была заснавана ў XV ст. Wiśniewski Osadnictwo 20; дыял. *r'aži*, Р. *r'aži*, М. *v r'ažax*, прым. *raž'ofski*.— РН ад літ. АН *Radỹs, Rãdžius* КЛП; ZinkLA 187, 229 або славянскіх АН тыпу *Radziech, Radziej, Radzisz* (:*Radosław* і г. д.) Taszim 117—118.

REKLE в. гм. Крыпно Беласт. ваяв.: *Rekle* в. SG IX 603; Рук. 1-6008, с. 40; Synodus 147; 1616 у гэтым сяле 5 валок, усе на чыншу, з іх на двух валоках Крыстаў *Reklo* LWP XVII; LWP XVI 74; у 1565 г. у *Reklach* жылі сяляне: *Reklis, Bieczenis, Giemza, Wach, Turos* і іншыя Podl III 234; дыял. *r'ekle*, Р. *r'ekli*, прым. *rekl'anski*.— РН ад назвы членаў сямейства першых пасяленцаў гэтай вёскі, што засведчана ў гістарычных крыніцах. Параўн. сучасныя прозв. на Літве: *Reklỹs, Reklỹs, Rẽklis, Rekláitis* КЛП,

а таксама літ. апелятывы *rèkla, rèklỹs, rėksnỹs* 'крыкун, плакса', *rėklùs* 'крыклівы', *rė̃kti* 'крычаць'.

ROMEJKI в. гм. Ясьвілы Беласт. ваяв.: *Romejki* в. SG IX 735; Mapa Sotz; *Rumieyki* — Рук. 1-6009, с. 33; сяло *Romieyki* 1661—64, 1602 LWP XVII; LWP XVI 76; у сяле *Romiejkach* у 1565 г. жылі сяляне: *Romiejko, Trybiło, Borsiło, Leńcza, Żubielis, Dziebus, Bołtrus, Narmunt, Mozul, Szumiejko* Podl III 234; «пасяліў ён быў трох чалавек: *Netha* і *Romeyka* і *Janka*» ў 1525 г. [10] сяло *Romejki* заснавана па ініцыятыве бельскага старасты М. М. Радзівіла паміж 1509 і 1536 гг. Podl II 187; дыял. *rom'eįḱi,* Р. *r'omeįk,* прым. *rom'eįśki.*— РН ад АН *Romejka* (1525) аднаго з заснавальнікаў вёскі, імя якога занатавана і ў пазнейшыя гады. Параўн. паўсямесна распаўсюджаныя ў цяперашні час на Літве прозвішчы *Romeĩka, Rameikà, Ramẽiko, Remẽikis, Ramẽikis* КЛП. Прозвішча гэта можна аргументаваць літ. *ramùs, romùs* 'спакойны, ціхі', *rẽm-ti* 'падпіраць, абапіраць, памагаць' або імёнамі *Romas* 'Roman' ці *Romuald* (Бір. 1, 141; ZinkLA 188—189).

STERPEJKI выс. вёскі Міленковцы гм. Кузніца Беласт. ваяв.: *Sterpejki* маёнткі SG XI 333; маёнткі В. Зіневіча Сп. 41; *Szerpeiki* Mapa Sotz; *Scierpeyki* 1784 фальварак і цагельня п. Боўфала — Рук. 1-6007, с. 88; дыял. *śćarṕ'eįḱi // sterp'eįḱi,* Р. *śćarṕeįek // sterp'eįek,* прым. *śćarṕ'eįśḱi.*— РН ад АН **Sterpejka,* параўн. літ. антрапонімы *Sterpis* ZinkLA 249, *Stripeikà, Stripeĩkis* КЛП, а таксама в. *Stirpẽikos* на Літве LATSZ II 291.

TOŁCZE в. гм. Кузніца Беласт. ваяв.: *Tołcze,* мясцовасць і пас. SG XV II 659; *Tołči* пас. Бараноўскага і Баброўскага, а таксама наваколле розных уладароў Сп. 47; *Tołcze* шл. ак. Рук. 1-6007, с. 127; Synodus 95; дыял. *tau̯č'ė,* Р. *tau̯č'ėu̯,* прым. *tau̯č'ou̯śki.*— РН ад першых пасяленцаў па прозвішчу *Tołcz,* якія да сённяшняга дня жывуць у гэтай вёсцы. Славянізаваны *Tołcz* бярэ пачатак ад літ. антрапоніма *Taũčaś, Taũčius* КЛП, дзе *-oł-*$\leqslant$літ. *-au-*. Параўн. прус. АН *Taucze* Trautmann 104 і мнагалікія мясцовыя назвы на Літве: *Taučiał, Taučẽliai, Taučiónys* LATSZ II 314.

TOŁKINIE (афіцыйна прынята Tołkacz) выс. вёскі Казловы Луг гм. Шудзялова Беласт. ваяв.: *Tołkacze* уроч., гм. Остраў SG XII 364; *Tołkači* уроч. у 51 дзесяціну, уладар *Onufrij Tołkin* Сп. 57; дыял. *tałkiń'e, P. at t'ołkińa.*— Размоўная (народная) назва вёскі *Tołkinie,* ёсць РН ад прозвішча *Tołkiń,* якое насіў былы ўладар урочышча *Tołkacze,* а цяпер адзін з двух гаспада-

[10] Halicka I. Nazwy miejscowe środkowej i zachodniej Białostocczyzny.— Warszawa, 1976, s. 148.

роў тут пражываючых. Параўн. літ. АН *Taukinis* ZinkLA 209, 232, а таксама *taukinis* 'замаслены'.

TREJGLE выс. вёскі Кундзічы гм. Крынкі Беласт. ваяв.: *Trejgle* маёнткі SG XII 459; каралеўская в. Рук. 1-6007, с. 70; *Trejgli, Trojgieli* фальварак Ind III 1375; *Treygi* Synodus 95; *Troygele* сяло, 10 валок — Рук. Ф-1882 к. 103; у 1578 г. жыло тут многа літоўцаў Wiśniewski Osadnictwo 41; дыял. *tr'eįgle*, Р. *tr'eįgli*.— РН ад АН **Treig-el-is*⩽*Treigũs*. Параўн. сучасныя літ. прозвішчы *Treigỹs, Treigis, Traigỹs* КЛП і *treigỹs* 'трохгадовы конь, жарабок', а таксама назвы вёсак на Літве: *Treigė̃liai, Treigiaĩ* LATSZ II 319. Славянізацыя назвы вёскі заключаецца ў страце суфіксальнага *e*(⩽*-el-*) і ў замене канчатка мн. ліку *-iai* славянскім канчаткам *-e*.

WIGZY выс. вёскі Асовы Груд гм. Аўгустаў Сув. ваяв.: *Wizgi* пас., 11 дамоў, 71 жыхар, пав. аўгустоўскі, гм. Кольніца, парафія Аўгустаў (аддалена на 5 вёрст) SG XIII 685. На карце Тэкстора-Соцмана з 1808 г. ёсць пасёлак *Moskale*, там, дзе ў больш позні час была вёсачка Wizgi Wiśniewski Augustów 281.— РН ад літ. АН *Vizgà, Vyzgà* КЛП, параўн. ніжэй з мясцовай назвай *Wyzgi*. Змена гучання назвы вынікае з гіпертэзы.

WOJNACHY в. гм. Саколка Беласт. ваяв.: *Wojnachy* в. SG XIII 751; *Woyniachi* Karta gub. sok.; *Woynachy* Synodus 96; в. *Woynachow* мае 5 валок. Рук. ДА-11290 к. 73; у вёсцы *Woyniakach* карчма—Рук. ДА-11556 к. 31 адв.; дыял. *vaįnax'ė*, Р. *vaįnax'ŏu*, прым. *vaįn'aśḱi*.— РН ад АН *Wojnach*, гл. *Fedor Woynach, Jasko* і *Danik Woynachowicz* 1639, стралкі ў бліжэйшай вёсцы *Molawica* (цяпер *Malawicze*) *Górna* ОР 125. Параўн. літ. АН *Vain-iokas, Vain-õkas*⩽*Vain-à, -ỹs* ZinkLA 213, 248; *Vaineĩkis* КЛП і ст.-прус. *Vayne, Vaynucke* Trautmann 113. Згодна з З. Зінкевічюсам, літ. антрапонім *Vainà* — гэта скарочаная форма ст.-літ. двухчленных імён тыпу *Vaĩni-butas, Bár-vainas, Dárg-vainas*, дзе член *vainà* мае значэнне 'недахоп, віна, прычына' Zinkevičius Baltistica XII 98. На Літве ёсць таксама тапонімы, утвораныя ад вышэй названых асабовых назваў, напр. *Vai-náičiai, Vainikai, Vainiskiai* LATSZ II 331. У гістарычных крыніцах самы ранні запіс (з 1700) захоўвае літ. *k*, якое затым пры далейшай славянізацыі стала заменена зычным *ch*.

WOJSZKI в. гм. Монькі Беласт. ваяв.: *Wojszki* маёнткі SG XIII 763; Сп. 84; двор пана Невяроўскага — Рук. 1-6009, с. 61; *Woyskie* Synodus 146; *Wojszki* 1571 в. п. Сяклюцкага Podl I 178; дыял. *voįšḱi*, Р. *v'oįškuf*.— РН ад славянскай АН **Wojszek, *Wojszko* (ад тыпу *Wojsław*) або ад літ. антрапоніма *Vaiskus* (:*vaiskus* 'празрысты, ясны' або *vaišùs* 'гасцінны') ZinkLA 213,

параўн. сучасныя літ. прозв. *Vaiskūnas, Vaiškūnas, Vaiškáitis* КЛП.

WYŁUDY в. гм. Карыцін Беласт. ваяв.: *Wyłudy* в. SG XIV 96; Рук. 1-6008, с. 49; Synodus 149; у вёсцы *Wyłudach* карчма — Рук. ДА-11556 к. 32; дыял. *v'ytudy,* P. *v'ytut//v'ytudaų,* прым. *vyłuž'anski.*—PH ад літ. AH *Výliaudas, Viliaudas* КЛП. У двухчленнай AH *Výliaud-as* 1-ы член *Vy-* (: *vý-ti* 'гнаць, праследаваць; віць, скручваць') і 2-і член *-liaud-* (: *liaud-is* 'народ, люд'), параўн. ZinkLA 140, 217.

WYZGI в. гм. Кузніца Беласт. ваяв.: *Wizgi* в. і *Wizgi* пасёлак Мазановічаў SG XIII 685; в., прысёлак, які належыць Івану Мазановічу Сп. 42; *Wizgi* Мара Sotz; дыял. *Vyzǵ'ė // Vyzkė,* P. *Vyzg'òų // V'yzhaų,* прым. *Vyzg'oųsḱi // vyzḱòųsḱi.*— PH ад літ. AH *Vizgá, Vyzgà* КЛП, тая ж ад *Vizgùs* 'лоўкі, рухавы', *vizgėti* 'круціцца, рухацца'.

ZYBURTY в. гм. Монькі Беласт. ваяв.: *Zyburty* прыгарад г. Ганюдза SG XIV 703; Сп. 85; в., прыгарад Ганюдза — Рук. 1-6009, с. 35; Synodus 146; в., размешчаная каля Ганюдза LWP XVII; *Zyburtowie,* жыхары ў ваколіцах маюць 2 валокі 1571 г. Podl I 177; літ. в. утварылася ў XV ст. Wiśniewski Osadnictwo 20; дыял. *zyb'urty,* P. *zyb'urtof.*— PH узяла свой пачатак ад агульнага азначэння членаў сям'і: *Zyburtowie,* навакольных жыхароў Ганюдза: параўн. літ. складаную AH *Žýbartas, Žibartas, Zýbartas, Žibartas* КЛП, ZinkLA 120, 249, а таксама назвы вёскі на Літве: *Žybartai, Žibartoniai, Žybartónys* LATSZ II 360. Замена *ž* ⩾ *z* пад уплывам мазурэння.

ŻODZIE в. гм. Монькі Беласт. ваяв.: *Żodzie* в. SG XIV 813; *Żodzi* в. Сп. 83; *Żodzie* в. Рук. 1-6009, с. 35; 1516 в. каля г. Ганюдза LWP XVII; *Żodzie* 1575 в. належала ганюдзкаму прыходу Podl II 124; літ. в. утварылася ў XV ст. Wiśniewski Osadnictwo 20; дыял. *z'oże,* P. *ž'ozi,* прым. *ẑož'ovsḱi.*— PH ад літ. AH *Žãdas, Žadéika, Žoidzis, Žoidžius* КЛП, тыя ж ад *žad-ėti, žãdas* 'абяцаць, дакляраваць; намервацца; абяцанне' (гл. ZinkLA 221). На Літве ёсць некалькі назваў вёсак, утвораных ад такіх антрапонімаў, напр. *Žadžiał, žadiškis, Žadeikiai, Zadeikėliai* LATSZ II 355.

Прааналізаваныя намі, а таксама ўзятыя з манаграфіі родавыя назвы (гл. заўвагу 8) складаюць найбольшую групу (каля 70) сапраўдных і магчымых літуанізмаў як сярод айконімаў адантрапанімічнага паходжання, так і ў агульным ліку балтыйскіх тапонімаў на даследаванай тэрыторыі.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

### Крыніцы

Бір. 1. — Бірыла М. В. Беларуская антрапанімія.— Мн., кн. 1, 1966.

Бір. 2 — Бірыла М. В. Беларуская антрапанімія.— Мн., кн. 2, 1969.

БірБАН — Бірыла М. В. Беларускія антрапанімічныя назвы ў іх адносінах да антрапанімічных назваў іншых славянскіх моў.— Мн., 1963.

КЛП — Картатэка літоўскіх прозвішчаў, якая знаходзіцца ў Інстытуце літоўскай мовы і літаратуры Акадэміі навук Літоўскай ССР у Вільнюсе.

Рук. 1-6007 — Opisanie parafii dekanatu grodzieńskiego z roku 1784.— Цэнтральная навуковая бібліятэка Акадэміі навук УССР у Кіеве. Аддзел рукапісаў (далей: ЦНБ АН УССР), 1-6007.

Рук. 1-6008 — Opisanie parafii dekanatu knyszyńskiego z roku 1784.— ЦНБ АН УССР, 1-6008.

Рук. 1-6009 — Opisanie parafii dekanatu augustowskiego z roku 1784.— ЦНБ АН УССР, 1-6009.

Рук. ДА-11290 — Inwentarz ekonomii grodzieńskiej z. r. 1708.— Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Літоўскай ССР у Вільнюсе (далей: ЦДГА Літ.ССР), ф. ДА, адз. зах. 11290.

Рук. ДА-11556 — Komisja królewska w leśnictwach białowieskim, sokólskim i nowodworskim w dniach 27 VIII—25 IX 1700 г.— ЦДГА ЛітССР, ДА № 11556.

Рук. Ф-1882 — Inwentarz ekonomii grodzieńskiej z roku 1650. Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў Беларускай ССР у Мінску, ф. 1882, воп. 1, адз. зах. 1.

СП — Стан каралеўскіх пушчаў у лясніцтвах былога Вялікага княства Літоўскага / Склад. па інструкцыі караля Уладыслава IV камісарамі... П. Д. Ісакоўскім, Х. Белазорам у 1641 г.— Вільня, 1871.

Сп.— Спіс землеўладанняў у Гродзенскай губерні / Склад. П. Дзікаў.— Гродна 1890. (Пералік змяшчае даныя, сабраныя ў 1878—1886 гг.)

AGAD — Archiwum Główne Akt Dawnych у Варшаве.

AGWB — Atlas gwar wschodniosłowiańskich Białostocczyzny, t. 1 / Pod red. S. Glinki. A. Obrębskiej-Jabłońskiej i J. Siatkowskiego.—Wrocław—Warszawa, 1980, s. 230.

Bysim — Bystroń J. St. Księga imion w Polsce używanych.— Warszawa, 1938.

Ind — Indeks alfabetyczny miejscowości dawnego Wielkiego Księstwa Litewskiego, ч. 1. A—K.— Вільня, 1929; ч. 2. Машынапіс, с. 1—802; ч. 3. Машынапіс, с. 803—1692. (Машынапіс знаходзіцца ў ЦДГА ЛітССР ў Вільнюсе.)

Karta gub. Sok.— Karta guberni Sokolskiej z 1781 г.— У кн.: Ekonomia grodzieńska, Atlas, ark. 1 (AGAD у Варшаве, Картаграфічныя зборнікі 66—3).

KozN — Kozierowski S. Nazwiska, przezwiska, przydomki, imiona polskie niektórych typów słowotwórczych: Księga rodzaju ludu polskiego.— Poznań, 1938.

LATSZ — Lietuvos TSR administracinio-teritorinio suskirstymo zinymas. / dalis Parenge Z. Norejka ir. V. Stravinskas.— Wilno, 1976.

LWP XVI — Lustracje województwa podlaskiego 1570 i 1576 / Wyd. J. Topolski i J. Wiśniewski.— Wrocław—Warszawa, 1959.

LWP XVII — Lustracje województwa podlaskiego z XVII wieku. / Oprac. J. Topolski i J. Wiśniewski. (Машынапіс падрыхтаваны да друку.)

Mapa Sotz — Topographisch-Militariche Karte von vormaligen Neu-Ostpreussen... redigiert von... V. Textor, herausgegeben von D. F. Sotzmann.— Berlin, 1808. (Падаецца стан з 1795 па 1800 г.)

Podl.— Jabłonowski A. Polska XVI wieku pod względem geograficzno-statystycznym, Podlasie.— Warszawa, 1908—1910, t. 6, część 1—3. (Гістарычныя крыніцы, т. XVII, ч. 1—3.)
SG — Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich / Wyd. Sulimierski, B. Chlebowski, W. Walewski.— Warszawa, 1880—1902, t. 1—15.
Skardžius — Skardžius P. Die Bindevokale in den litauischen zweistämmigen Personennamen.— Festschrift für Max Vasmer zum 70. Geburtstag. AM. 28 Februar 1956. Berlin, 1956, s. 502—509.
SSNO — Słownik staropolskich nazw osobowych / Pod red. W. Taszyckiego.— Wrocław, 1965—1978, t. 1—5.
Synodus — Synodus dioecesana Vilnensis ab... M. J. Zienkowicz... celebrata.— Wilno, 1744.
Taszim — Taszycki W. Najdawniejsze polskie imiona osobowe.— Kraków, 1926. Перадрук.: Rozprawy i studia polonistyczne.— Wrocław—Kraków, 1958, t. 1, s. 32—148.
Trautmann — Trautmann R. Die altpreussischen Personennamen.— Gottingen, 1925.
Van MP — Vanagas Mūsų, pavardės, 1. Pavardės is hebrajiškos kilmės vardų.— У кн.: Žodžiai ir žmonės. Vilnius, 1974, s. 86—152; Mūsų pavardės, 2. Pavardės iš graikiškos kilmės vardų.— У кн.: Žmonės ir kalba. Vilnius, 1977, с. 48—92; Mūsų pavardės, 3. Pavardės iš lotyniš kos kilmės verdų.— У кн.: Kalba ir mintis. Vilnius 1980, s. 52—95.
Wiśniewski Augustów — Wiśniewski J. Dzieje osadnictwa w powiecie augustowskim od XV do końca XVIII wieku.— У кн.: Studia i materiały do dziejów Pojezierza Augustowskiego / Pod red. J. Antoniewicza.— Białystok, 1967, с. 13—249.
Wiśniewski Osadnictwo — Wiśniewski J. Osadnictwo wschodniej Białostocczyzny, geneza, rozwój oraz zróżnicowanie i przemiany etniczne.— Acta Baltico-Slavica.— Wrocław, 1977, t. 2, s. 7—80.
Zinkevičius Baltistika — Zinkevičius Z. (рэцэнзія на кн.): Усціновіч Г. К. Антрапанімія Гродзеншчыны і Брэстчыны.— Мн., 1975.— Baltistika, Vilnius, 1976, XII (1), s. 95—102.
ZinkLA — Zinkevičiûs Z. Lietûvių antroponimika. Vilniaus lietuvių asmenvardžiai XVII a. pradžioje.— Vilnius, 1977.

## Іншыя скарачэнні

Адв.— на адвароце
ак.— аколіца
АН — асабовая назва
антрап.— антрапонім
беларус.— беларускае
Беласт.— Беластоцкае
ваяв.— ваяводства
выс.— выселак
гм — гміна
дыял.— дыялектнае
к.— карта
літ.— літоўскае
Ломж.— Ломжынскае
М.— месны склон
пас.— пасёлак
польск.— польскае
прозв.— прозвішча
прус.— прускае
прым.— прыметнік
Р.— родны склон
РН — родавая назва
рук.— рукапіс
ст.-бел.— старабеларускае
ст.-літ.— сталітоўскае
ст.-польск.— старапольскае
Сув.— Сувальскае
уроч.— урочышча
шл. ак.— шляхецкая аколіца

*Б. ЧОПЭК*

# АЙКОНІМЫ АДГІДРАНІМІЧНАГА ПАХОДЖАННЯ БАСЕЙНА БУГА НА ТЭРЫТОРЫІ ПЕРАХОДНЫХ ГАВОРАК (ПОЛЬСКА-УКРАІНСКІХ І ПОЛЬСКА-БЕЛАРУСКІХ)

Назвам адгідранімічнага паходжання ў анамастычнай літаратуры ўдзелена адносна мала ўвагі. Што датычыць прац Я. Рудніцкага [1] і С. Грабца [2], то прадмет іх даследавання складаюць назвы ўкраінскіх моўных рэгіёнаў. Польскім назвам гэтага тыпу прысвечана праца А. Вільконя «Польскія мясцовыя назвы ад водных назваў» [3]. Аўтар разглядае ў ёй узаемасувязі паміж воднымі і мясцовымі назвамі. Яго цікавіць пытанне ўтварэння айконімаў ад гідронімаў шляхам дэрывацыі і перанясення з аднаго аб'екта на другі (без фармальных змен). Адгідранімічныя назвы А. Вількونь адносіць да групы тапаграфічных назваў, паколькі яны ўказваюць на геаграфічнае палажэнне паселішча, а таксама на фізіяграфічны аб'ект, якім з'яўляецца вада. Утварэнне айконімаў ад гідронімаў адбывалася паўсюдна, назвы гэтага тыпу можна сустрэць ва ўсіх басейнах польскіх рэк.

Са з'явай перанясення назваў з аднаго аб'екта на другі сустракаемся ва ўсе гістарычныя перыяды. У такіх выпадках узнікае неабходнасць фармальнай дыферэнцыяцыі назваў, а таксама высвятлення, якая з дзвюх аднолькавых назваў для розных аб'ектаў з'яўляецца першаснай. А. Вількونь вылучае два віды айконімаў адгідранімічнага паходжання: 1) роўныя па структуры гідронімам; 2) утвораныя ад гідронімаў пры дапамозе адпаведных фармантаў.

Паводле аўтара, 70 працэнтаў аналізуемых назваў належыць да першай групы. Гэта так званыя перанесеныя назвы [4]. Адна-

[1] Rudnicki J. Nazwy geograficzne Bojkowszczyzny.— Lwów, 1939.

[2] Hrabec S. Nazwy geograficzne Huculszczyzny.— Prace Onomastyczne PAU nr. 2.— Kraków, 1950.

[3] Wilkoń A. Polskie nazwy miejscowe od nazw wodnych.— Onomastyka YIII, 1963, s. 87—124.

[4] Па пытаннях самой тэрміналогіі піша Е. Трэдэр (J. Treder) у артыкуле «Nazwy ponowione wśród nazw przeniesionych».—Onomastyca XXIV, 1979, s. 1943. Тэрмін «перанесеныя назвы» ён прапануе пакінуць для «імпартных назваў», назвы ж разглядаемага тыпу называюць «падноўленымі». Маюцца на ўвазе такія назвы, якія пашырылі аб'ём праз перанясенне з адной анамастычнай функцыі ў іншую.

часова А. Вільконь заўважае, што магчыма ўзаемаперанясенне назваў: Г→А, А→Г.

Напрамак перанясення назваў з'яўляецца надзвычай істотным момантам. Анамасты адносяцца да гэтай з'явы па-рознаму. Я. Рудніцкі лічыць гідронімы заўсёды першаснымі [5], С. Грабец, наадварот, да больш ранніх адносіць айконімы [6]. На думку Г. Гурновіча [7], сярод назваў на *-ica* першаснымі заўсёды з'яўляюцца гідронімы. Аднак, відаць, найбольш праўдзівымі трэба прызнаць меркаванні А. Вільконя [8] і Е. Жатэльскай-Фялешка [9], што першасным можа быць аднолькава як гідронім, так і айконім. На гэта ўказваюць як гістарычныя запісы, так і семантыка назвы. Калі дэрыватам з'яўляецца айконім, а асновай — гідронім, то назва воднага аб'екта — першасная. Калі дэрыват — гідронім, а аснова — айконім, то першасная назва паселішча. Асноўным матэрыялам для дадзенага даследавання паслужылі 42 айконімы, што функцыяніруюць у польскай частцы басейна Буга на тэрыторыі заходняй ускраіны старажытнай Чырвонай Русі і Падляшша. Паўночная граніца вызначаецца Бугам, а заходняя — Ліўцам і водападзелам паміж Віслай і Бугам. Крыніцамі матэрыялу паслужылі працы П. Зваліньскага «Гідранімія Віслы» [10], а таксама Адміністрацыйныя назвы мясцовасці і фізіяграфічных аб'ектаў (1967—1971). Тут прыводзяцца назвы, адпавядаючыя гідронімам. Падзел назваў мы праводзім паводле прынцыпу, прымененага А. Вільконем у цытаваным даследаванні, прымаючы пад увагу спецыфіку тэрыторыі іх бытавання.

I. Мясцовыя назвы, роўныя па структуры гідронімам.

Да гэтай групы належаць тыя айконімы, якія ідэнтычны гідронімам. Тут можа быць дваякая магчымасць паходжання назваў: або першасны гідронім, або айконім.

Да айконімаў, другасных у адносінах да гідронімаў, належаць усе тыя назвы, якія значэннем звязваюцца з вадой, г. зн. якія ўзніклі з водных азначэнняў, што апісваюць такія якасці вады, як колер, смак, від цячэння, форму і памеры рэчышча, акустыч-

---

[5] Rudnicki J. Nazwy geograficzne Bojkowszczyzny.

[6] Hrabec S. Nazwy geograficzne Huculszczyzny.

[7] Górnowicz H. Ze studiów nad toponomastyką Pomorza Gdańskiego. III. Nazwy miejscowe z sufiksem *-ica* i jego pochodnymi.— Prace Filologiczne, 24, 1973, s. 53—95.

[8] Wilkoń A. Polskie nazwy miejscowe od nazw wodnych.— Onomastyka YIII, 1963, s. 87—124.

[9] Rzetelska-Feleszko E. Polskie nazwy rzeczne derywowane od nazw miejscowych przez formant *-ica* i pochodne.— Slavia Occidentalis, 1979 (36), s. 91—100.

[10] Zwoliński P. Hydronimia Wisły.— Wrocław, 1965, p. 1.

ныя асаблівасці, а таксама з азначэнняў, якія ўжываюцца для хуткаплынных рэк і рэк, якія часта выходзяць з берагоў.

Да айконімаў, першасных у адносінах да гідронімаў, належаць назвы, утвораныя ад іншых аб'ектаў, расліннага покрыва, культурныя назвы, дэмінутыўныя, этнічныя, патранімічныя.

Асаблівай увагі заслугоўваюць назвы, у якіх адносіны паходжання няясныя, таму што мы не ведаем значэння асновы.

Айконімы і гідронімы, звязаныя паміж сабой паходжаннем, могуць утвараць цэлыя ланцугі: першасная назва воднага аб'екта была нададзена размешчанаму на ім пасёлку, а потым ад назвы пасёлка ўтварылася паўторна, ужо шляхам дэрывацыі, назва ракі, напр.: н. р. *Włodawa* — н. п. *Włodawa* — н. р. *Włodawka.*

Такім чынам, да асаблівых тыпаў належаць наступныя назвы:

1. Назва паселішча, другасная ў адносінах да воднай назвы.

*Czerwonka* в., Саколуў Падляскі пав.[11] — *Czerwonka* верхняе цячэнне Стругі, прытока Ліўца.

*Breczyca* в., Тамашуў Любельскі пав.— *Bzeczyca* (або *Ścisła,* або *Swynoryia,* або *Szlatynówka,* або *Szałynoki* (!), або *Tatra)* р., прыток Салокіі.

*Skorodnica* в., пав. Уладава — *Skorodnica* р., прыток Уладаўкі.

*Sterdyń* в., Саколуў Падляскі пав. — *Sterdyń* (або *Buczynka,* або *Sterdynka,* або *Chudzina,* śrb. *Czarna Struga)* р., прыток Буга.

*Uher* в., пав. Хэлм — *Uherka* (раней *Uher)* р., прыток Буга.

*Włodawa* г., пав. Уладава — *Włodawka* (раней *Włodawa)* р., прыток Буга[12].

*Wyryki,* цяпер *Wyryki — Wola, Wyryki — Adampol, Wyryki — Połód,* раней *Wyrzyki, Weryki* вв. у пав. Уладава — *Wyryki* ручай, там жа.

2. Назва паселішча, першасная ў адносінах да воднай назвы.

*Dziewięcierz* в., Любачуў пав.— *Dziewięcierz* р., прыток Раты.

*Hanna* в., пав. Уладава — *Hanna* (або *Hanka)* р., прыток Буга.

*Sosna,* цяпер 4 вёскі: *Sosna—Kicki, Sosna—Korabie, Sosna—Kozółki, Sosna — Trojaki* ў пав. Седльцэ — *Sosna* (або *Sosenka,* або *Grabarka)* р., прыток Ліўца.

*Treblinka* (раней *Treblina)* в., пав. Венгруў — *Treblina* (або *Treblinka)* р., прыток Буга.

---

[11] Размяшчэнне назваў пададзена паводле Urzędowych nazw miejscowości i obiektów fizjograficznych.

[12] Параўн. аналіз назвы і гістарычныя запісы ў працы С. Вархола (S. Warchoła) Nazwy miast Lubelszczyzny.— Lublin, 1964, s. 211.

3. Назвы, у якіх адносіны першаснасці невыразныя. *Gdola* в., пав. Хэлм — *Gdola* р., прыток Угэркі. *Lubowiż* в., пав. Уладава — *Ludowidz* воз., там жа.

Пераход *dz*>*z* з'яўляецца вынікам украінскага дыялектнага ўплыву.

II. Назвы паселішчаў, утвораныя ад водных назваў.

На паходжанне назваў гэтай групы ўказвае адпаведны фармант. Кожная назва ўтворана пры дапамозе іншага суфікса. Магчыма, такое ўяўленне складваецца з прычыны невялікай колькасці мясцовых назваў, утвораных ад водных у гэтым рэгіёне. Трэба адзначыць, што суфіксальная назва фактычна з'яўляецца другаснай не заўсёды. Суфікс можа сведчыць аб змене важнасці аб'екта. Аднак з прычыны недахопу гістарычных матэрыялаў гэтага з упэўненасцю сцвярджаць нельга.

Да гэтай групы належаць:

*Bużyska* в., пав. Ласіцэ — *Bużysko* воз., там жа. *Bużyska* — гэта форма множнага ліку ў адносінах да воднай назвы. Множналікавасць, згодна з даволі шырока распаўсюджаным прыёмам, можна вызначыць праз паказчык флексійнай дэрывацыі.

*Dobużek* і *Dobużek* — *Kolonia* вв. у Тамашуў Любельскім пав. — *Bug* р. Назва ўтворана ад назвы *Bug* пры дапамозе прэфікса *do-* і суфікса *-ek* у дэмінутыўным значэнні.

*Nadbużanka* в., пав. Уладава — *Bug* р. Назва ўтворана ад назвы *Bug* пры дапамозе прэфікса *nad-* і суфікса *-anka.*

*Rachanie* і *Rachanie* — *Kolonia* вв. у Тамашуў Любельскім пав.— *Rachanka* р., прыток Гучвы. Мясцовая назва ўтворана шляхам замены суфікса *-ka* на *-ije.*

*Ubrodowice* в., Хрубешуў пав.— *Ubrodownica* р., прыток Буга. У дадзеным выпадку маем справу з плюралізацыяй гідроніма пры адначасовым спрашчэнні фарманта *-nica* да *-ica.* Плюралізацыя *-ica*⩾*-ice* і ёсць найбольш часты спосаб утварэння айконімаў ад гідронімаў.

*Udalec* в., пав. Хэлм — *Udal* р., прыток Буга. Мясцовая назва ўтворана ад *Udal* пры дапамозе суфікса *-ec.*

*Uhrusk* (раней *Huhrusko, Huhrowsko, Uhrowsko)* в., пав. Уладава — *Uherka* (раней *Uher)* р., прыток Буга. Мясцовая назва дэрывавана ад *Uher* суфіксам *-sk(o).*

*Zabuże,* цяпер частка в. Дубенкі, раней в., Хрубешуў пав. — *Bug,* р. Мясцовая назва ўтворана ад назвы *Bug* пры дапамозе прэфікса *za-* і суфікса *-ije.*

Асаблівай увагі заслугоўваюць назвы паселішчаў, якія служаць асновамі для ўтварэння суфіксальных гідронімаў. Трэба агаварыцца, што паслядоўнасць вытворнасці гэтых назваў можа быць зусім іншай. У прыватнасці, магла змяніцца ступень важ-

насці дадзенага аб'екта, а ў сувязі з гэтым першапачаткова магла быць іншай паслядоўнасць паходжання назваў. Недахоп гістарычнага матэрыялу не дазваляе сцвярджаць гэта з упэўненасцю.

Да назваў паселішчаў, ад якіх могуць паходзіць водныя назвы, належаць:

*Dubeczno* в., пав. Уладава — *Dubeczyńskie Jezioro* (або *Żdżareckie*, або *Zdziareckie*, або *Hańskie*, або *Jezierskie*), там жа. Гідронім утвораны суфіксам *-ski.*

*Hańsk,* цяпер *Hańsk Pierwszy, Hańsk Drugi, Hańsk — Kolonia,* раней ***Hanisko, Hansko*** вв. у пав. Уладава — *Hańskie Jezioro* (або *Żdżareckie,* або *Zdziareckie*, або *Dubeczyńskie,* або *Jezierskie*) воз., там жа. Водная назва ўтворана суфіксам *-ski.*

*Lubycza Królewska,* раней *Lubycz, Lubica* і *Lubycza Kniaża* вв. у Тамашуў Любельскім пав.— *Lubyczka* р., прыток Салокіі. Водная назва **ўтворана суфіксам** *-ka.*

*Luta* в., пав. Уладава *Lutówka* р., прыток Уладаўкі. Водная назва ўтворана суфіксам *-ówka. Orzechów Nowy, Orzechów Stary, Orzechów-Kolonia* вв. у пав. Парчаў — *Orzechowski Kanał, Orzechowskie Jezioro* вв., там жа. Водныя назвы ўтвораны суфіксам *-ski.*

*Skordiów* (раней таксама *Skordeiow, Skurdeiow, Skordijow*) в., пав. Хэлм — *Škordiówka* р., прыток Удала. Водная назва ўтворана суфіксам *-ka.*

*Szlatyn* **в., Тамашуў** Любельскі пав.— *Szlatynówka* (або *Rzeczyca,* або *Ścisla,* або *Swynoryja,* або *Szalynoki* (!), або *Tatra*) р., прыток Салокіі. Водная назва ўтворана суфіксам *-ówka.*

*Wereszczyn* в., пав. Уладава — *Wereszczynskie Jezioro* воз., там жа. Водная назва ўтворана суфіксам *-ski.*

*Żdżarka* в., пав. Уладава — *Żdżareckie Jezioro* (або *Zdziareckie,* або *Hańskie,* або *Dubeczyńskie,* або *Jezierskie*) воз., там жа. Водная назва ўтворана суфіксам *-cki.*

Асаблівую ўвагу даследчыкаў, што займаюцца тапаніміяй Пабужжа, звяртае на сябе невялікая колькасць назваў, утвораных ад гідроніма Буг. Калі згадзіцца са сцвярджэннем, што ад назваў вялікіх рэк утвараюцца назвы населеных пунктаў, то іх павінна быць вельмі многа. Аднак вядомы толькі назвы *Dobużek* і *Nadbużanka,* **а таксама назва колішняй вёскі** (зараз частка в. Дубенкі) — *Zabuże.* Усе тры з'яўляюцца суфіксальна-прэфіксальнымі, дзве з якіх маюць дэмінутыўнае значэнне.

Сярод польскіх назваў, якія складаюць большасць, сваім гучаннем вылучаюцца *Uhrusk, Tarasiuki, Szlatyń* (як украінскія), *Sterdyń* (як беларускія). **Гэта заканамерна, таму што** тэрыторыя, на якой яны бытуюць, апраўдвае іх значэнне.

З гэтага агляду вынікае, што:

1. У басейне Буга назвы паселішчаў, па структуры роўныя водным назвам, і дэрываваныя назвы (айконімы ад гідронімаў і наадварот) прадстаўлены ў асноўным у роўнай ступені.

2. Няма прывілеяваных фармантаў, утвараючых дэрываты.

3. Характар узаемаадносін паміж гідронімамі і айконімамі ў працэсе іх утварэння не заўсёды вызначаецца проста, асабліва ў выпадках іх поўнай ідэнтычнасці. Нялёгка вырашаецца гэта пытанне і на дэрываваных назвах. З прычыны недахопу дакладных гістарычных звестак нельга з упэўненасцю сцвярджаць аб ступені важнасці аб'ектаў і, як вынік гэтага, пра першаснасць той ці іншай назвы. У пэўных выпадках могуць утварацца «ланцужкі», якія вызначаюць напрамак паходжання назваў: водная назва — назва населенага пункта (роўная па структуры) — водная назва (ужо дэрываваная).

*В. М. ЕМЕЛЬЯНОВІЧ*

# ГЕАГРАФІЧНАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ ЯК КРЫНІЦА МІКРАТАПАНІМІІ (НА МАТЭРЫЯЛЕ ПРУЖАНСКАГА І КАМЯНЕЦКАГА РАЁНАЎ БРЭСЦКАЙ ВОБЛАСЦІ)

Тапанімісты даўно звярнулі ўвагу на актыўны ўдзел мясцовых геаграфічных тэрмінаў ва ўтварэнні ўласных геаграфічных назваў розных тэрыторый. Прычым адзначаецца, што ступень удзелу прыродна-геаграфічнай тэрміналогіі ва ўтварэнні геаграфічных назваў усіх катэгорый не аднолькавая. Так, гідронімы, суадносныя з мясцовымі геаграфічнымі тэрмінамі, складаюць толькі 10%, айконімы — 60% [1]. Значная ўдзельная вага геаграфічных тэрмінаў у мікратапаніміі, якая ў параўнанні з гідраніміяй і айканіміяй больш цесна звязана з апелятыўнай лексікай. Таму геаграфічная (тапаграфічная, ландшафтная) наменклатура прадстаўлена ў мікратапаніміі вельмі шырока. У межах даследаванай тэрыторыі (Пружанскі і Камянецкі р-ны Брэсцкай вобласці) гэта адна з асноўных крыніц мікратапонімаў апелятыўнага паходжання.

Лексічнымі асновамі мясцовай мікратапаніміі паслужылі галоўным чынам тры катэгорыі прыродна-геаграфічных тэрмінаў: назвы мясцовага рэльефу, назвы расліннасці, назвы розных відаў вадаёмаў і іх частак.

І. Часцей за ўсё мікратапонімы ўтвараюцца ад назваў рэльефу. Так, многія мікратапонімы ўтвораны ад назваў узвышаных месц: *верх (вэрх), верацяя́, вулка́н, гара́ (гура́), го́рка, града́, груд, грудо́к, грэ́бень, згорак, курга́н, пуп.* З лексемай *верх* і яе дэрыватамі суадносяцца мікратапонімы *Верх* пш. (Магілёўцы), *Вэрх* л. (Зарэчча), *Вершо́к* с. (Якавічы), *Вырх* п. (Бялёва), *Вярхі́* б. (Залессе), л. (Варанілавічы), *Заве́рх* вул. (Поланск), *Пудвэ́рх* л. (Брады). Т. А. Марусенка ў «Материалах к словарю украинских географических апеллятивов (назвы рэльефаў)» прыводзіць два значэнні адзінкі *верх:* 'гара' і 'вяршыня гары'[2]. З такой жа семантыкай сустракаецца гэта слова і

[1] Падлікі В. А. Жучкевіча. Цыт. паводле артыкула: Мурзаева Э. М. Местные географические термины и их роль в топонимии.— У кн.: Местные географические термины. М., 1970, с. 16.

[2] Полесье: Лингвистика. Археология. Топонимика.— М., 1968, с. 219.

на тэрыторыі Беларусі. У гаворках Пружанскага і Камянецкага р-наў Брэсцкай вобласці слова *верх (вэрх)* неабавязкова мае значэнне 'гара'. *Верхам* тут называюць высокае месца безадносна да тыпу ўрочышча. Гэта можа быць і высокае поле, і паша, і лес на ўзвышшы.

Яшчэ больш назваў з асновамі *гор-* і *груд-*: *Гара́* п. (Ліберполь, Гарадняны), *Го́ры* п. (Хомна, Ліхачы), *Го́ркі* п. (Засімы, Паддубна), *Гу́рнэ* п. (Камянюкі), *Зылёна гора́, Па́нска гора́* п. (Брады), *Высока гура* п. (Хадосы); *Груд* б. (Перадзельск), п. (Шчарчова, С. Селішча), *Грудо́к* п. (Глыбокі Кут), ч. в. (Юндзілы), *Гру́дчык* лг. (Аляксандраўка), *Груды́* б. (Купічы, Юхнавічы), *Грудэ́* п. (Дашэвічы), *Грудці́* п. (Жабін), *Грудо́чкі* п. (Брады), *Загру́дде* б. (Хваянаўка), *Чо́ртов груд* б. (Замошша) і інш. Агульнае значэнне лексемы *груд* — 'узгорак, узвышша, сухі луг' (БРС). Лексема *града* — мікратапонімы *Града́* п. (Манцы, Купічы), *Заводна́я града́, Чо́ртова града́* п. (Вільянава) — у мясцовых гаворках ужываецца рэдка. Яна мае значэнне 'прадаўгаваты ўзгорак сярод балота або марэнны вал'. З такой жа семантыкай адзначана гэта слова і на другіх тэрыторыях Беларусі.

Менш назваў тыпу *Курга́н б.* (Поланск), п. (Шчарбы), *Курганы́* п. (Калядзічы).

У адзінкавых выпадках у якасці ўтваральных асноў мікратапонімаў гэтага рэгіёна выкарыстоўваюцца такія назвы рэльефу, як *грэбень* 'прадаўгаватае ўзвышша, грыўка' *(За Грэ́бнем* п. — Хвалявічы); *бубен* 'высокае, беднае травастоем месца' *(Бу́бен* п. — Смаляніца, *Бу́бны* п. — Шані); *горб* 'круглы ўзгорак у выглядзе гарба' *(Горб, Горба́ха* пп.— Каленкавічы); *пуп* 'выступ, выспа' (*Пуп* п.— Зарэчча) [3]; *наспа, пярэспа* 'насыпаны земляны вал' (Яшк.) *(На́спа* б. — Лыскава, *Пэрэ́спа* п. — Хомна) — ст.-рус. *переспа* 'плаціна, вал' (Сразн.); 'пясчаная каса, нанесеная ракой' [4]; *верацяя* бел. рэг. 'узвышша сярод балота' (Лемц.) — ст.-рус. *веретея* 'ўчастак зямлі' (Сразн.). Апошні тэрмін даўно выйшаў з актыўнага лексічнага запасу мясцовых жыхароў і ўжываецца толькі як уласная назва — мікратапонім: *Верацяя́* пш. (Лыскава).

Вялікая група мікратапонімаў утворана ад назваў нізкіх месц і балот: *амша́р, ба́гна, багні́стае ме́сца, бало́та (було́то), во́мха, гнылёц, драгва́ (дрыгва́), жо́лоб, жолобына́, зду́ха, зду́ховіна, імшо́к, кацёл (кутёл), калюга, канато́п, карыці́на, ку́піна, лагчы́на, лог, лаз, лечэя́, мачу́лішча, муля́стэе, не́тра, ніз, олёс, плёс,*

---

[3] Паводле Т. А. Марусенка *пуп* 'вяршыня гары, не парослая лесам'.— У кн.: Полесье. М., 1968, с. 246.

[4] Жучкевич В. А. Местные географические термины в топонимии Белоруссии.— У кн.: Местные географические термины. М., 1970, с. 144.

*плёсо, погóня, пóплаў (пóплав), пýцік, пýціска, смýга, стрýга, шчэ́рбіна, я́ма, я́звіна, я́звінка.*

Слова *амшар* у мясцовых гаворках мае значэнне 'махавое балота'. Ужываецца рэдка. Больш уласціва гаворкам Ружанскай зоны Пружанскага р-на. Мясцовае *багно* 'топкае, непраходнае балота'. Семантыка яго супадае з беларускім літаратурным *бáгна.* У гаворках другіх раёнаў Брэсцкай вобласці лексема *багно* абазначае топкае месца на балоце, парослае хмызам (Брэсц., Драгіч., Маларыц.). Мікратапонімы *Багнó* (Кацёлкі, Обеч, Засімавічы), *Багны́* (Смаляніца, Тарасы), *Багністае мéсца* (Падалессе) і г. д. называюць палі, сенажаці, пашы на былым балоце. Назвы лесу *Багóн* (М. Селішча, Хваянаўка), *Багны́* (Смаляніца) хутчэй за ўсё ўзніклі на аснове лексемы *багон,* што шырока ўжываецца на Брэстчыне і мае значэнне 'багун'. Мікратапонім *Багнюкí* (неафіцыйная назва вуліцы ў в. Каленкавічы Камянецкага р-на), верагодна, таксама звязаны з лексемай *багно,* але не непасрэдна, а праз антрапонім *Багнюк,* які на Брэстчыне сустракаецца ў якасці прозвішча.

Рад мікратапонімаў Брэсцкага, Камянецкага і Пружанскага р-наў суадносіцца з апелятывам *балота* і яго дэмінутыўнымі формамі *балотца, балоцечка: Болóто* с. (Концыкі), *Вэлíкэ болóто* с. (М. Селішча), *Гáлэ болóто* п. (Брады), *Смáчнэ болóто* (Шчарбы), *Падбалóцце* с. (Стараволя), *Подбулы́ццэ* лг. (Дзмітравічы, Любашкі), *Пабалóцечка* б. (Ліберполь) і г. д. Тэрмін *балота* азначае ў паўднёва-заходнім дыялекце не толькі нізкае месца, затопленае вадой, а і любое гразкае месца, гразь пасля дажджу на вуліцы, на двары. Такое значэнне гэтага слова дае «Тлумачальны слоўнік беларускай мовы» (Мн., 1977) з паметай разм. Мікратапонімы, утвораныя ад лексемы *балота,* у наш час не заўсёды даюць рэальную характарыстыку аб'екта (пераважная большасць балот асушана). У мікратапонімах *Вóмха* б. (Блізная), *Омх* л. (Шані), *Омхі* п. (Арабнікі) знайшлі адлюстраванне назвы махавых балот, а ў мікратапонімах *Гнылéц с.* (Каштанаўка), *Гнілíца* лг. (Хідры), *Гнылы́ца* б. (Хваянаўка) — назвы гнілых балот. У аснове мікратапонімаў *Здýха* б. (В. Якавічы), *Здýхі* п. (Жабін, Поланск), к. (Сарава), *Здýховіна* п. (Лазоўка) ляжыць апелятыў *здуха, здухавіна* 'непраходнае месца на балоце, дзе прабілася крыніца' (Пружан. — ДАБМ). І. Насовіч разглядае слова *здухавіна* як земляробчы тэрмін, 'месца на паласе, засеянай жытам, дзе вада не мае сцёку, у выніку чаго жыта вымярзае ці вымакае' (СБН). Мікратапонімы *Кожýх* с. (Хадосы), *Кужýх* б. (Галоўчыцы) утвораны ад геаграфічнага тэрміна *кажух* 'твань, дрыгва, зыбкае месца' (СГТ); *Пуддрагвá* п. (Лібія) — ад мясц. *драгва* — літ. *дрыгва*; *Ру-*

*дзёц* б. (Лыскава, Вільянава), *Рудавец лг.* (Галоўчыцы) — ад назваў іржавых балот. З назвамі балот суадносяцца і мікратапонімы тыпу *Нётра* п. (Вільянава), *Тросна* с. (Брады) — *трос* 'агульная назва забалочаных месц' (З. І. Жакава зафіксавала такое значэнне гэтай лексемы ў полацкіх гаворках) [5].

Назвы нізкага забалочанага лугу з'явіліся асновай для ўзнікнення мікратапонімаў *Лаз, Лазы* (Агароднікі, Жадзены) ад лакалізма *лаз* 'балоцісты луг'; *Макачоўшчына* б., лг. (Вашчынічы) — ад *макаць, намакаць; Мачулішча* лг. (Магілёўцы) — апелятыў *мачулішча* па семантыцы супадае з літаратурным *мачулішча* 'затока, копанка, у якой мочаць лён, каноплю, палатно' (БРС, ТСБМ); *Погоня* б. (Клетна), с. (Шані), к. (Шубічы) — ад мясц. *пагоня* 'нізкі заліўны луг' (з такім жа значэннем функцыяніруе даная лексема ў драгічынскіх гаворках) [6]; *Поплаў* б. (Ізбіцы, Ліхачы), *Поплавы* с. (Роўбіцк), *Шырокі поплаў* пш. (Абруб), *Чэрэз поплавы* с. (Смаляніца) — апелятыў *поплаў*, які паслужыў асновай для прыведзеных мікратапонімаў, у мясцовых гаворках азначае 'нізкі луг, не абавязкова заліўны, сенажаць або паша'; *Смуга* б. (Куплін, Дзедаўка), р. (Унучкі), лг. (Дзмітровічы), п. (Хадосы) — ад *смуга* 'вузкая забалочаная нізіна' або 'невялікае цячэнне на балоце'. Часцей ужываецца ў першым значэнні.

Вельмі распаўсюджаны ў даследаваным рэгіёне, асабліва на Пружаншчыне, назвы ўрочышчаў *Плёс, Плёсо, Плёсо: Плёс* с. (Сасноўка), б. (Навасёлкі, В. Зосін, Хіцяўшчына), *Плес* л. (Унучкі), лг. (Шышова), *Плысэшчэ* л. (Дашэвічы). Тэрмін *плёс, плесо* асэнсоўваецца ў мясцовых гаворках па-рознаму. У адных — гэта забалочаны прырэчны луг, у другіх — рачная завадзь, парослая аерам або чаротам. З. І. Жакава на Магілёўшчыне зафіксавала гэта слова ў якасці агульнай назвы забалочаных месц [7]. Э. і В. Мурзаевы адносяць яго да гідралагічных тэрмінаў са значэннямі: 'участак ракі паміж перакатамі, звычайна з роўным цячэннем'; 'усякае глыбокае месца на рацэ'; 'высокая водмель'; 'невялікі рачны заліў' [8]. Як гідралагічны тэрмін лексема *плёс* падаецца ў РБС-53 'шырокае роўнае і спакойнае месца на рацэ без паваротаў'.

Ва ўсходняй частцы Брэсцкай вобласці сустракаюцца мікра-

[5] Жакова З. И. Названия болот в белорусских говорах.— У кн.: XXI Герценовские чтения (Межвузовская конференция). Филологические науки. Программа и краткое содержание докладов. Л., 1968, с. 47.

[6] Климчук Ф. Д. Специфическая лексика Дрогичинского Полесья.— У кн.: Лексика Полесья.— М., 1968, с. 58.

[7] Жакова З. И. Названия болот в белорусских говорах, с. 47.

[8] Мурзаев Э. М., Мурзаева В. Г. Словарь местных географических терминов.— М., 1959, с. 178—179.

тапонімы, утвораныя ад апелятыва *марочна* 'нізкі забалочаны луг': *Маро́чня* б. (Юнішчы Столін.), п. (Лядзец Столін.), лг. (Дварэц Лунін.).

У аснове мікратапонімаў *Олёс* б. (Навасёлкі, Навіцкавічы), лг. (Шані), *Алесавы́я* б. (Непамацынаўка) ляжыць лексема *олёс,* што азначае балоцістую мясцовасць, парослую альховым лесам ці хмызам. З такім значэннем ужываецца гэта слова і ва ўсходніх раёнах Брэстчыны: *Олёс — то боло́цісты лес. Не́ўкоч не пуска́лі ў олёс това́р, цепэ́р оно́ обсушы́лоса* (Азярніца Лунін.).

Разнастайныя назвы, якія перадаюць няроўнасці рэльефу, адлюстраваліся ў мікратапонімах *Купіна́* пш. (Хвалявічы), *Ку́пына* лг. (Дашэвічы), б. (Дзедаўка, Труханавічы, Ражкоўка), с. (Тарасы), п. (М. Зосін), *Мала́я купіна́* б. (Поланск) — мясц. *купіна* 'балотныя пагоркі'; *Ке́нпы* б. (Навасёлкі) — ад польск. *kępka, kępina* (купіна); *Жолобына́* лг. (Брады), *Жулубы́* п. (Галасяціна) — ад *жолаб* 'вузкае паглыбленне ў зямлі, канаўка'; *Шчэрбіна́* п. (Шчарчова); *Кацёл* п., на якім ёсць вялікая круглая яма (Сухопаль), *Кутёл* с. (Шышова). *Катлом* называюць тут таксама глыбокія месцы ў рэчцы і віры: *кутёл, дэ вода́ кру́тыть* (Шышова). *Кары́ціна* — нізкае месца на дарозе, дзе амаль заўсёды стаіць вада (Мокрае) — ад апелятыва *карыціна* 'пакацістая ўпадзіна паміж двума ўзгоркамі' (Яшк.); *Бар'ячкі́* л. (Каленкавічы) — *бар'як* 'роў, балка'; *Роў* (Мокрае), *Ровы́* п. (Смаляны), б. (Заневічы), *Рово́к* (Непамацынаўка, Сарава), *Раўкі́* п. (Калазубы), *Ровы́шчэ* (Любашкі), *Рово́к пэ́ршы, Дру́гі рово́к* ч. р. (Піняны), *Цэнтра́льны роў* б. (Дзітаветчына), *Папяро́чны роў* (Заполле), *Заро́ўе* (Юндзілы), *Міжро́ўе* п. (Бярэзніца).

Лексема *роў* у гаворках мае некалькі значэнняў: 'канава, якая ўтварылася ў выніку змыву глебы дажджамі'; 'штучна выкапаная доўгая канава, запоўненая вадой ці сухая'. *Стру́га* п. (Варанілавічы, Хімічы), б. (Шані, Калазубы), *Подстру́га* п. (Заневічы) — *струга* ст.-бел. 'струя, ручай'; тое ж і польск. *struga,* бел. рэг. 'роў, выбіты ручаямі, што сцякаюць з высокага месца' (Лемц.); *Язвыны* п. (Харкі), *Я́звінка* п. (Камянюкі) — ст.-рус. *язвина* 'нара, логава, роў' (Сразн.), бел. рэг. *язвіна* 'балотца' (Лемц.), 'акно на незамярзаючым балоце' (Яшк.); *Во́ўчы я́мы* с. (Брады), *Я́мінка* п. (Бялёва), *Ямкі́* п. (Палінаўка), *Я́мнік* п. (Бакуны), пш. (Варанілавічы), п. (Шчытна).

Да мікратапонімаў, у аснову якіх пакладзены назвы нізкіх месц, адносяцца таксама *Далі́на* п. (Засімы), лг. (М. Хідры, Загор'е), *Сіва далі́на* п. (Роўбіцк), *Доле́нка* п. (Унучкі), *Дол* п. (Гарадняны), п. (Смаляны); *Ланчы́нкі* п. (Галены) — ад *лагчынкі; Ніз* л. (Скорцы).

Мікратапонімаў, утвораных ад апелятываў, што абазначаюць роўныя месцы, якія нічым не адрозніваюцца ад акаляючага асяроддзя, мала. У якасці іх лексічных асноў выступаюць апелятывы *гáлэ, галя́, глáдка, палóня, палóнька, роўніня́, рóвно: Гáлэ* лг. (Хвалава), *Галэ́чына* л. (Арабнікі), *Галя́* б. (Бакуны), *Прагáлак* пш. (Мурава), *Раўніня́* п. (Блізная), *Рóвно* б. (Шані), л. (Харкі).

Словы *гáлэ, галя́* на даследаванай тэрыторыі, як і ў другіх месцах Беларусі, абазначаюць 'голае месца, чыстае, не парослае лесам', параўн. беларускае *гáла* 'голая прастора' (РБС). Прыблізна такое ж значэнне мае і лексема *палóня* — 'чыстае адкрытае месца без лесу і хмызняку'.

II. Вялікую групу складаюць мікратапонімы, у аснове якіх ляжаць назвы расліннасці. У многіх з іх знайшлі адлюстраванне агульныя назвы лесу — *лес, бор, гай.* Гэта тлумачыцца тым, што ў Пружанскім і Камянецкім р-нах шмат лясоў. На гэтай тэрыторыі часткова знаходзіцца і Белавежская пушча. Большасць мікратапонімаў гэтай групы ўтворана ад агульнаславянскай лексемы *лес* і яе дэрыватаў: *Лес* пш. (Бортнавічы), *Лісóк* п. (Паддубна), *Лескí* п. (Куляны), *Залéссе* п. (Харкі), *Падлéссе* лг. (Пасталова), *Подлíссе* п. (Асіннікі), *Вóўчы лес* (Непамацынаўка), *Казённы лес* (Лыскава), *Красны лес* (Манцы), *Под лес* п. (Чапялі) і інш.

З лексемай *бор,* якая ў мясцовых гаворках, як і ў літаратурнай мове, мае значэнне 'сасновы лес', суадносяцца мікратапонімы, што называюць лясныя ўрочышчы або палі, размешчаныя каля лесу ці на месцы былога лесу: *Бор* л., с. (Кабылаўка, Дзітаветчына і інш.), *Бір* л. (Хіцяўшчына, Галасяціна), *Борэ́* п. (Козі Брод), *Барóк* б. (Галены, Шубічы, Глыбокі Кут), *Бóраўка*— дарога праз бор (Арабнікі), *Заборóк* п. (Кацёлкі), *Заборóччэ* п. (Шчарчова), *Падбóр'е* п. (Кавалі), *Дóўгі барóк* п. (Глыбокі Кут), *Соснóвые боры́* л. (Харкі).

Ад слова *гай,* якім на Брэстчыне называюць малады лес, як бярозавы, так і альховы, а таксама зараснікі вольхі і малінніку, часта ўтвараюцца назвы кустарнікаў і балоцістага лесу: *Гай* л., с. (Харава, Сарава), к. (Жабін, Перасадзічы), *Гаí* л. (Варотнае), *Гаé* ас. б. (Юхнавічы), *Гаёк* п. (Аляксандраўка), *Гáік* п. (Калазубы), *Гаíско* лг. (Загор'е), *Гаíшчэ* п. (Гарадзішча), *Гайкí* л. (Харава).

Усяго 4 мікратапонімы ўтвораны ад апелятыва *дуброва,* якія ў гаворках амаль не ўжываецца, хоць і з'яўляецца агульнавядомым: *Дубрóва* п. (Роўбіцк, Ялова), л. (Прыкалесь, Мурава), *Дубрóвы* л. (Дзмітравічы), *Дубрóўка* л. п. (Поланск, Задвораны), *Дубрóўкі* л. (В. Селішча), п. (Хвалявічы).

Некаторыя ўласныя назвы ўчасткаў маладога лесу ўзніклі ў выніку тапанімізацыі апелятываў *маладняк* і *пасадка: Маладня́к* л. (Непамацынаўка), *Молодня́к* л. (Макавішчы), *Пуса́дка* л. (Унучкі).

Для наймення лясных урочышчаў і балот, часам палёў, парослых хмызам, выкарыстоўваюцца агульныя назвы кустарнікаў і зараснікаў — *карчы́, кусты́, за́раслі, лаза́, лозы́на, по́росэль.* Больш за ўсё мікратапонімаў, утвораных ад апелятываў *лоза, лозына.* Яны пашыраны ўсюды. Астатнія сустракаюцца спарадычна: *Лаза́* к. (Вашчынічы, Баяры), *Ло́зы* лг., б. (Масявічы, Асятніца, Стаі), *Ло́зка* лг. (Сухопаль), *Лы́зка* п. (Казакі), *Ло́зкі* л. (Шубічы), *Зало́ззе* п., б. (Хімічы), *Чо́рные ло́зы* ас. б. (Магілёўцы), *Лозы́на* пш. (Калазубы), лг. (Галоўчыцы); *Карчы́* п. (Бушнякі), *Карчо́ўе* хв. л. (Парасляны), *За карчамі* п. (Хвалава), *Кустаўлё* п. (Ярашэвічы), *За́раслі* л., б. (Манцы), *Па́раслі* л. (Асятніца), *Парасліна́* б. (Байкі), *По́росэль* л. (Обеч, Бакуны).

Даволі шматлікую групу мікратапонімаў утвараюць назвы асобных парод дрэў і раслін. Часцей за ўсё ў якасці іх асноў выступаюць лексемы *бяроза* і *дуб.* Выкарыстоўваюцца таксама словы *асіна, вольха, вярба (вэрба), вяз, граб, каліна, ліпа, ракіта* і інш.: *Бэрозкі* л. (Любашкі), *Бэрэ́зіна* л. (Бакуны, Гарадняны), *Бырэ́зынка* л. (Сарава), *Бэрызыны́* л. (Любашкі), *Бырызынкі* п. (Старуны), *Барэ́знік* л. (Глубокі Кут), *Беро́зовэ* б. (Бельчыцы); *Дубы́* пш. (Ярашэвічы), *Дубо́вое* п. (Баравікі), *Дубо́вые* п. (Руднікі), *Дубіна́* п., б., с. (Блізная), л. (Хамуціны), *Дубыны́* п. (Краснае), *Ду́бнікі* п. (Калазубы, Кавалі); *Асі́на* б., к. (Стараволя), *Осі́ны* л. (Смаляны), *Подосі́на* б. (Абруб), *Осіння́к* п. (Хвалявічы), *Асо́ва* б., л. (Асятніца, Вільянава), *Осо́вэ* л. (Смаляніца), *Осо́вые* л. (Навасёлкі), *Осо́вык* п. (Чабахі), *Осо́віца* п. (Роўбіцк), *Альхо́вэ* с. (Касіншчына), *Ольхо́вы* л. (Асіннікі), *Ольшы́нка* л. (Навасёлкі); *Арэ́шнік* л. (Апалянавічы), *Орэ́шныкі* п. (Труханавічы), *Лашчы́ннік* л. — мясц. *лашчына, ляшчына* 'арэшнік' (Кацёлкі); *Вэрба́* л. (Хомна), *Вэ́рбы* л. (Непамацынаўка), *Вэ́рбочкі* б. (Абруб), *Вырбы́на* пш. (Вішня); *Вязо́к* л. (Хвалава); *Грабіна́* п. (Юндзілы), *Калі́ннік* с. (Задвораны); *Крушы́на* п., к., *Крушы́ннік* с. (Чабахі); *Лі́пы* п. (Поланск, Семянча), *Лі́пка* б. (Блізная), *Лі́пынкі* п. (Жабін), *Ліпо́вік* б. (Бельчыцы), *Ліпо́вэц* б. (Скорцы). Мікратапонімы на *-ік, -ец* могуць быць антрапанімічнага паходжання — ад прозвішчаў *Ліповік, Ліповец.*

На Брэстчыне шырока ўжываецца прыметнік *асовы (осовый)* у значэнні 'асінавы', утвораны ад «невядомага ўжо назоўніка *оса,* які з'яўляўся назвай дрэва» (Лемц.). У некаторых гаворках паўднёва-заходняга дыялекту і зараз бытуе слова *асова* са зна-

чэннем 'дрэва, у дупле якога жывуць пчолы' (Зэльв.) [9]. Як назвы абрываў словы *асова, осовец, осовок* (ад ст.-рус. *осовъ, осовокъ* 'частка зямлі, што асунулася па адхону') у даследаваным рэгіёне не ўжываюцца.

Мікратапонімы з каранямі *хвой-, сосн-, ел-(ял-)* называюць звычайна хвойныя лясы (у адзінкавых выпадках палі і балоты). Пераважаюць назвы з першым коранем, якія амаль без выключэння служаць назвамі маладых насаджэнняў хвойнага лесу: *Хвоіна́* (Бакуны, Юхнавічы), *Хво́йня* (Ражковічы), *Хваі́нка* (Янаўцы, Стараволя), *Высо́ка хвоі́на* (Абруб, Баравікі), *Хвоёвое* (Навасёлкі); *Сасэ́нкі* (Магілёўцы), *Со́сонкі* б. (Шубічы), *Пудсосна́* б. (Паддубна), *Сосно́ва* л. (Боркі), *Елі* (Купічы), *Ельнік* (Ліхачы), *Ёлы* (Бакуны), *Ёлочка* д. (Купічы), *Ялі́нкі* п. (Масявічы).

Крыніцай мікратапонімаў часам з'яўляюцца і назвы пладовых дрэў: *вішня, груша, яблыня.* Такія мікратапонімы называюць пераважна палі. Сярод іх часцей сустракаюцца назвы з коранем *груш-*, бо менавіта грушы растуць у полі: *Гру́шка* (Арабнікі), *Грушэ́* (Непамацынаўка), *Грушэ́ўшчына* (Грыневічы) — апошняя назва патэнцыяльна магла ўзнікнуць і ад прозвішча *Грушэўскі.* Два мікратапонімы ўтвораны ад слова *вішня: Вішанькі* (Юндзілы, Галены), *Вышынькі* (Хіцяўшына) [10] і адзін — ад слова *яблыня: Под'яблю́нне* (Лібія).

У аснову мікратапонімаў *Мохы́* л. (Падалессе), *Замо́х* л. (Бакуны), *Асака́* б. (Поланск), *Асо́кі* б. (Перадзельск), *Вадап'я́ніца* б. (Стараволя), *Вэрблю́дныкі* п. (Бузуны), *Верасо́к* п. і л. (Зельзін), *Вэросы́* п. (Скорцы, Жадзены), *Крапі́ўніца* б. (Стараволя, Бельчыцы), *Лапухі́* ч. в. (Варанілавічы), *Чэрэты́* с. (Камянюкі), *Сіве́ц* п. (В. Краснік), *Сівэ́ц* б. (Залессе), *Сітнік* п. (Бельчыцы), *Хвішка* с. (В. Зосін), *Хву́шка* лг. (Аляксандраўка) — мясц. *хвушка* 'хвошч' — пакладзены назвы мхоў, асобных раслін і траў.

Адзінкавыя мікратапонімы ўтвораны ад назваў ягад і ягаднікаў. Яны называюць пераважна лясныя ўрочышчы і балоты: *Ажы́ннікі* б. (Ялова), *Клюква* б. (Падалессе), *Лухінья гура́* л. (Хамуціны) — мясц. *лухіны* 'буякі', *Малінне* б. (Комлішча, Скорцы), *Малі́нкі* п. (Броды).

III. Значна меншую колькасць складаюць мікратапонімы, утвораныя ад назваў розных відаў вадаёмаў і іх частак або ад гідралагічных тэрмінаў. Іх асновамі паслужылі лексемы *рака́,*

---

[9] Арашонкава Г. У., Грынавецкене А. І., Мацкевіч Ю. Ф. і інш. Да характарыстыкі лексікі паўднёва-заходніх беларускіх гаворак.— Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. Мн., 1972, № 1, с. 83.

[10] У Пружанскім р-не ёсць вёска Вішня і рака Вішанька.

*рэ́чка, рэ́чышча, о́зеро (о́зіро), ставо́к, са́жалка (са́жувка), крыніца (крыны́ця), вода́, ко́панка, копа́ніца, коба́ня, люр, бу́хта (бу́кта), зато́ка, перато́к, то́ня, в'юр, брод.*

Большасць мікратапонімаў гэтай падгрупы ўтворана ад слова *рака* і яго дэрывата *рэчка*. Амаль усе яны называюць аб'екты, што знаходзяцца за ракой або каля ракі. Рака ў такіх выпадках з'яўляецца арыенцірам: *Зарэка́* б. (Бярэзніца), *За рако́ю* б. (Труханавічы), *Зарэ́чка* п. (Зельзін), б. (Ражковічы), *Зарэ́ччэ* ас. б. (Непамацынаўка), *Зарэча́нскае* б. (Ражковічы), *Міжрікі* с. (В. Селішча), *Міжырэ́чкі* б. (Блізная), *Падрэ́чча* б. (Баравікі), *Подріччэ* п. (М. Селішча), *Под річкою* п. (Баркі), *Ры́чка* б. (Хваянаўка), *Рычкі* б. (Палінаўка). Ад апелятыва *возера (озеро)* утвораны ўсяго два мікратапонімы, якія называюць пяць мікрааб'ектаў: *Азяры́шча* б. (Блізная, Ласасіна, Поланск), *Падо́зеро* лг. (Варанілавічы), б. (Шчытна). Трэба пагадзіцца з А. М. Прышчэпчык, што не заўсёды лексемы *рака, возера* непасрэдна трапляюць у мікратапанімію. Нярэдка напачатку яны ўтвараюць гідронімы, якія затым пераходзяць на іншыя аб'екты [11]. Відаць, менавіта так узніклі назва поля *Кра́сна рэчка* (Бакуны) і назвы лясных урочышчаў *До́ўгая рака́* (Баяры) і *Чо́рная рэчка* (Ліхачы).

Асновай для ўтварэння мікратапонімаў *Крыніца* л. (В. Краснік), п. (Агароднікі), *Крынэ́ця* пш. (Хамуціны) з'явілася слова *крыніца*. У Заходнім Палессі *крыніца* — гэта не толькі 'натуральны выхад падземных вод на паверхню зямлі', гэта таксама і 'невялікая прастора чыстай вады', і 'ўчастак вады на балоце' (параўн. СГТ), і 'сажалка' (*В нас одна крынэ́ця. Так і называецца Крынэ́ця — бэрогі высо́кі, бо вона́ ко́пана, дно пышча́нэ, вода́ чыста* — Хамуціны).

Ад назваў штучных вадаёмаў утвораны мікратапонімы *Ка́ла са́жалкі* п. (Купічы), *Подса́жувка* п. (Дзедаўка), *Во́ўча са́жалка* (Непамацынаўка) — распаўсюджаная ў Беларусі і на Украіне лексічная адзінка *са́жалка (са́жувка)* абазначае 'штучнае возера, рыбалоўны садок' (*Што ты мне сажолку забрудзіла, я хоцеў напусціць туды малькоў* — Концыкі); *Заста́в'е* п. (Хвалявічы, Агароднікі), *Ста́вы* б. (Брантоўцы) — ад *став, ставок* 'сажалка'; *Куба́ня* (Падбела), *Кубані* (М. Селішча) — рэг. *кубаня* 'невялічкае штучнае возера', 'яма, запоўненая вадой'. Часам так называюць глыбокія месцы ў рацэ. Гэта лексема лакалізавана ў Пабужжы, таму мікратапонімы тыпу *Куба́ня* сустракаюцца ў Камянецкім і Брэсцкім р-нах, у Пружанскім р-не яны не за-

---

[11] Прышчэпчык А. М. Тапаграфічная тэрміналогія ў мікратапаніміі Стаўбцоўшчыны.— У кн.: Беларуская анамастыка. Мн., 1977, с. 97.

фіксаваны. Тут сінонімамі да слова *кубаня* з'яўляюцца *копанка, капаніца: Жондарава капаніца* (Вашчынічы). *Копанкамі* называюць таксама ямы, дзе капалі торф, гліну.

З назвамі частак вадаёмаў суадносяцца мікратапонімы *Брод* б. (Ліберполь), *Брады* пш. (Лыскава), *Брадкі* л. (Мурава), *Забрід* л. (Цімахоўшчына), *Забродкі* п. (Бакуны), *Крывы брод, Обрывісты брод* (Навасёлкі). У заходнебеларускіх гаворках слова *брод (брід)* абазначае не толькі плыткую частку ракі, дзе яе пераязджаюць ці пераходзяць, але і лог, нізіну прадаўгаватай формы, што вясною запаўняецца вадой[12]. Ад назваў глыбокіх месцаў у рацэ ўтвораны мікратапонімы *В'юрок* лг. (Зарэчча) — мясц. *в'юр* 'вір, вадаварот'; *Затокі* л. (Камянюкі) — *затока* 'рачны заліў'; *Чорна бухта* (Баркі) — у гаворках слова *бухта (букта)* абазначае тую частку рэчкі, што ўдаецца ў сушу. Да мікратапонімаў, утвораных ад гідралагічных тэрмінаў, трэба аднесці і назвы *Вада* л. (В. Зосін), *Водыця* л. (Паддубна), *Путіска* б. (Труханавічы) — *пуцік* 'струя вады на крынічным месцы' (Яшк.).

Аналіз сабранага матэрыялу паказвае, што мясцовыя прыродна-геаграфічныя тэрміны складаюць значную групу апелятыўных утваральных асноў мікратапаніміі Брэсцкай вобласці. Большасць з іх адзначана і на іншых тэрыторыях Беларусі, аднак ёсць і вузкарэгіянальныя словы, як, напрыклад, *бубен, кацёл (куцёл), кобаня, лаз.* Прасочваецца вузкая лакалізацыя асобных лексем. Так, лексемы *копанка, олёс* часцей ужываюцца ў гаворках усходніх раёнаў вобласці, *кенпы* і *кобаня* — у Пабужжы.

Семантычную матывацыю кожнага тэрміна дакладна ўстанавіць іншы раз бывае цяжка, бо нярэдка матывавальнае слова бытуе ў некалькіх значэннях. Асабліва часта прыродна-геаграфічныя тэрміны маюць значэнне земляробчых: *гара* 'высокае поле з неўрадлівай глебай'; *востраў* 'сухое, прыгоднае для апрацоўкі месца на балоце' або 'поле сярод лесу'.

Ёсць словы, якія ўжо выйшлі з актыўнага ўжытку, яны існуюць толькі як уласныя назвы *(Верацяя, Марочна, Язвіна).*

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

### Крыніцы

БРС — Белорусско-русский словарь / Под ред. акад. АН БССР К. Крапивы.— М., 1962.

ДАБМ — Дыялекталагічны атлас беларускай мовы.— Мн., 1963.— 338 карт.

---

[12] Арашонкава Г. У., Грынавецкене А. І., Мацкевіч Ю. Ф. і інш. Да характарыстыкі лексікі паўднёва-заходніх гаворак, с. 78.

ДС — Янкоўскі Ф. Дыялектны слоўнік. Вып. 1.— Мн., 1959.— 232 с.; вып. 2, 1960.— 236 с.; вып. 3, 1970.— 172 с.

Лемц.— Лемцюгова В. П. Беларуская айканімія.— Мн., 1970.— 154 с.

РБС-53 — Русско-белорусский словарь / Под ред. действительных членов АН БССР Я. Коласа, К. Крапивы и члена-корреспондента АН БССР П. Глебки.— М., 1953.

СБН — Носович И. И. Словарь белорусского наречия.— СПб, 1870.

СГТ — Толстой Н. И. Славянская географическая терминология. Семасиологические этюды.— М., 1969.— 259 с.

Сразн.— Срезневский И. И. Материалы для словаря древнерусского языка по письменным памятникам, т. 1—3.— СПб, 1893, 1895, 1903.

ТСБМ — Тлумачальны слоўнік беларускай мовы: У 5-ці т.— Мн., 1977—1984.

Яшк.— Яшкін І. Я. Беларускія геаграфічныя назвы.— Мн., 1971.— 256 с.

## Раёны

Брэсц.— Брэсцкі
Бяроз.— Бярозаўскі
Драгіч.— Драгічынскі
Жабін.— Жабінкаўскі
Зэльв.— Зэльвенскі
Камян.— Камянецкі
Лунін.— Лунінецкі
Маларыц.— Маларыцкі
Пружан.— Пружанскі
Столін.— Столінскі

## Аб'екты

Ас. б.— асушанае балота
б.— балота
в.— вёска
вул.— вуліца
д.— дарога
к.— кусты
л.— лес
л. ур.— лясное ўрочышча
лг.— луг
п.— поле
пп.— палі
пш.— паша
р.— рака
с.— сенажаць
хв. л.— хвойны лес
ч. в.— частка вёскі
ч. р.— частка ракі

## Іншыя скарачэнні

Бел. рэг.— беларускае рэгіянальнае
літ.— літаратурнае
мясц.— мясцовае
польск.— польскае
разм.— размоўнае
ст.-бел.— старабеларускае
ст.-рус.— стараbooleanрускае

7. Зак. 1511

*Л. Ф. БАРАЎКОВА, Н. Я. КУЛАГА*

# ГІДРОНІМЫ ПАБУЖЖА

У артыкуле зроблена спроба разгледзець гідронімы і мікрагідронімы (назвы рэк, азёраў, равоў, сажалак) басейна Заходняга Буга на тэрыторыі Брэсцкага і Камянецкага р-наў Брэсцкай вобласці. Гэты матэрыял ніколі не быў прадметам спецыяльнага вывучэння.

Даследуюцца назвы гідрааб'ектаў, якія былі запісаны ад мясцовых жыхароў у 1980—1983 гг. у вёсках Вялічкавічы, Воўчын, Грамяча, Дубавое, Загародня, Катэра, Кастары, Крынкі, Мельнікі, Навасёлкі, Агароднікі, Орля, Паніквы, Рудавец, Сіўкі, Ставы, Вужыкі Воўчынскага сельсавета Камянецкага р-на; Камароўка, Орхава, Рыцец, Селяхі, Тамашоўка, Харсы Тамашоўскага; Клейнікі, Косцічы, Нэплі, Церабунь, Пяскі Клейнікаўскага; Гершоны, Заказанка, Прылукі, Кацельня Баярская, Пугачова, Страдзечы Гершонскага сельсаветаў Брэсцкага р-на.

У артыкул уключаны не толькі назвы існуючых рэк, але і ўжо знікшых, перасохлых. Многія рэкі на працягу свайго існавання мяняюць цячэнне. У наш час гэтыя змены ў значнай ступені абумоўлены працамі па асушэнню балот, па стварэнню каналаў і равоў, таму адзін і той жа аб'ект нярэдка называецца ў адным месцы ракой, а ў другім — ровам. Напрыклад, *Іспáнаўка* ў в. Заказанка — гэта рэчка, а ў в. Страдзечы, што за 4 км ад Заказанкі,— роў.

Гідронімы падаюцца ў артыкуле ў мясцовым вымаўленні. Гэтыя неафіцыйныя мясцовыя назвы часам супадаюць з афіцыйнымі, асабліва для больш значных гідрааб'ектаў, як, напрыклад, рр. *Буг, Мухавец, Пульва,* але ў пераважнай большасці адрозніваюцца ад афіцыйных фанетычна або марфалагічна. Мясцовым гаворкам не ўласціва аканне, яканне, дзеканне, цеканне, зычныя тут у асноўным цвёрдыя, адсутнічае *ў*. Гаворкам Пабужжа, як і другім палескім гаворкам, уласцівы многія ўкраінскія рысы. Усё гэта знайшло адлюстраванне ў фанетычным абліччы гідронімаў. Усяго зафіксавана 73 назвы. Некаторыя з іх бытуюць у некалькіх варыянтах. Так, у в. Камароўка сустрэліся лексічныя варыянты для называння адной і той жа рэчкі — *Колдубáнь* і *Кубáня*. Рака *Гнілáя* ў в. Нэплі называецца *Гнілóй,* а ў в. Дубавóе — *Гнілýхай* (марфалагічныя варыянты). Розныя

фанетычныя і марфалагічныя варыянты існуюць і для называння возера, што размешчана каля в. Селяхі Брэсцкага р-на: *Сэляхóвское* (Тамашоўка), *Сыляхінське озыро* (Камароўка), *Сыляхэ́* (там жа), *Сэляхóвэ* (Харсы), *Сыляхівськэ* (Селяхі).

Гідронімы даследуемай тэрыторыі пераважна славянскага паходжання. Яны маюць празрыстыя асновы і адносна лёгка этымалагізуюцца. Найбольшую па колькасці групу складаюць назвы апелятыўнага паходжання.

Так, даволі часта ў аснову назваў рэк і азёраў кладзецца колер вады: рр. *Чóрна* (Селяхі), *Бéлка* (Пугачова), *Крáсное óзеро* (Харсы), *Лучáнне óзыро* (светлае, «лучыстае»), *Сыня я́ма, Чóрна я́ма, Смýтна я́ма* («смутна» таму, што цёмная, чорная — Косцічы), *Чэ́рнянка* (Пугачова).

Ёсць назвы, дадзеныя гідрааб'ектам паводле іх памеру, глыбіні або формы: аз. *Дóвгэ, Крýглэ* (Навасёлкі), рр. *Ростя́жныця* (там жа), *Плэ́тяный рів* (роў, які пятляе), *Глубóкая* (Орхава), воз. *Одмут* (мясц. *одмут* — рус. *'омут'* — Нэплі).

Некаторыя назвы ўказваюць на забалочанасць водных аб'ектаў: рр. *Гнылáя,* або *Гнылýха, Болóнья* (Клейнікі), *Брудачóк* (Рыцец), *Рудáвка* (Воўчын), воз. *Купы́на* (Паніквы).

Назвы расліннасці знайшлі адлюстраванне ў гідронімах: рр. *Леснáя* (Клейнікі), *Осынéцка рэкá* (Камароўка), воз. *Ожы́ннік* (Пелішча), *Ольхóвка,* яно ж *Ольшáніца* (Вужыкі, Дубавое). Гэты від расліннасці, па словах Г. П. Смоліцкай, з'яўляецца найбольш актыўным ва ўтварэнні гідронімаў: «У басейне кожнай ракі можна сустрэць вялікую колькасць водных аб'ектаў з імем «альховы» [1].

Назвы жывёльнага свету ў мясцовай гідраніміі прадстаўлены бедна. Гэта аз. *Кýззе* (літ. *Кóззяе)* і *Павукí* (Катэра, Воўчын). Верагодна, паляванне і рыбалоўства ў жыцці людзей гэтага краю ў перыяд узнікнення гідронімаў не з'яўляліся асноўным сродкам жыцця.

Апелятыўнымі паводле паходжання з'яўляюцца назвы рэк *Лугóвая* (Харсы), *Хуторáнское óзеро* (Кацельня Баярская), *Панёнка* (Паніквы), *Пáсыка* (Камароўка), *Городóк* (Катэра).

У сувязі са змяненнем рэчышча часам з'яўляюцца карэлятыўныя назвы рэк: у в. Кацельня Баярская Брэсцкага р-на, напрыклад, старое рэчышча, якое ўжо перасыхае, называюць *Старóй рэ́чкай (Старáя рíчка),* новае, зmененае рэчышча называюць *Нóвай рэ́чкай.* Для большых рэчак, карэлятыўнасць якіх абумоўлена геаграфічным палажэннем, шырока бытуюць назвы *Прáвая* і *Лéвая: Прáвая* і *Лéвая Ляснáя* — два рукавы ракі

[1] Смолицкая Г. П. Речки-деревья.— Русская речь, 1969, № 1, с. 95.

*Лясно́й.* Усе тры назвы (*Лясна́я, Пра́вая Лясна́я* і *Ле́вая Лясна́я*) з'яўляюцца і афіцыйнымі, літаратурнымі.

Адны і тыя ж гідронімы часам маюць сінанімічныя назвы: *Стара́я рі́чка* і *Гныла́я рі́чка.* Адна назва звязана з часам узнікнення аб'екта, другая — з якаснай характарыстыкай яго. Сінанімічнымі з'яўляюцца і назвы возера *Зы́мнэ* (у возеры вельмі халодная вада) — *Сту́днэ* (студзёнае) — Навасёлкі. Своеасаблівая назва часткі гэтага возера: самае плыткае месца ў гэтым возеры называецца *Жо́ўтае во́зера* — атрымліваецца возера ў возеры (*Жо́ўтае* таму, што праз ваду можна бачыць жоўтае пясчанае дно).

Невялічкія гідрааб'екты (ручаі, сажалкі, равы) часта спецыяльных уласных назваў не маюць зусім. Мясцовыя жыхары звычайна называюць іх родавымі геаграфічнымі тэрмінамі: *озеро, річка, канава, ручэёк, ров, яма.* Гэтыя тэрміны ўжываюцца як уласныя назвы. Напрыклад, у аколіцах Тамашоўкі (Брэсц.) гавораць: *«Пошла́ на Рі́чку»,* у в. Дубавое (Камян.) — *«Ручэёк — і всё, без назвы».* Але пры гэтым заўсёды маецца на ўвазе пэўны аб'ект. Такім чынам, агульныя геаграфічныя назвы малых (а іншы раз і больш вялікіх, як, напрыклад, рака Лясная) водных аб'ектаў становяцца ўласнымі.*Озі́рцэ* — вельмі маленькае лясное возера (Крынкі): *«У нас Озі́рцэ, а там — Бе́ло о́зеро».* Назвы такога тыпу для рэчак — адзінкавыя, а для невялікіх азёраў, равоў, ручаёў — вельмі частыя. Прычым можна адзначыць розныя варыянты родавых назваў, выкліканыя асаблівасцямі мясцовых гаворак: *Брод, Бріd, Брыд, Бруд,* памянш. *Бродцэ́; Ров, Рів, Рыв, Рув,* памянш. *Рово́к.* Не маюць спецыяльных назваў і штучныя вадаёмы. Іх называюць *Ставо́к, Став, Са́жолка, (Са́жувка), Коба́ня.*

Параўнальна многа гідронімаў утворана ад антрапанімічных асноў. Гэта таксама пераважна назвы малых гідрааб'ектаў — равоў, канаў, ям, ручаёў. Яны звычайна называюцца па імені ці прозвішчы чалавека, які выкапаў гэту яму ці роў, або чалавека, які там тапіўся: *Быхов ров, Ле́вонова я́ма, Ко́стіна я́ма, Са́сув ров, Я́нув ров.* Гэтыя назвы недаўгавечныя: калі ў яму пападае другі чалавек, назва мяняецца. Антрапанімічную аснову маюць і назвы некаторых азёраў: *Ду́нькіно о́зеро* (Гершоны), *Мачуко́во о́зеро* (Церабунь), *Карасёво* (ёсць і *Карасёв луг), Ка́рліково о́зеро,* р. *Ле́шкова* (Камароўка).

Ёсць гідронімы, утвораныя ад айконімаў у асноўным ад назваў суседніх вёсак: *Берна́довское о́зеро* (Бернады), *Ры́тэцкэ о́зыро* (Рынец), *Сэляхі́вське (Сэляхі́нскэ) о́зыро* (Селяхі), р. *Катэ́рка* (Катэра).

Па структуры гідронімы Пабужжа падзяляюцца на простыя

і састаўныя. Простыя назвы могуць мець форму назоўніка або форму прыметніка.

Сярод назоўнікаў яскрава выдзяляецца вялікая група гідронімаў з суфіксам *-к* і яго варыянтамі *-овка, -ёвка, -ок, -ік, -ц, -іц:* рр. *Бе́лка, Іспа́новка, Катэ́рка, Копаёвка, Пане́нка, Руда́вка, Ольхо́вка,Брудачо́к, Конопе́льніца, Ольша́ніца, Ростя́жныця, Чэрня́нка,* штучны вадаём *Са́жалка,* невялікая яма *Боло́тцэ;* дзве назвы на *-ына:* аз. *Купы́на* і *Рада́тына* (Паніквы).

З суфіксам *-jэ,* які мае значэнне зборнасці, зафіксаваны наступныя назвы: руч. *Ку́ззе* (Ставы), воз. *Луча́нне* (Вялічкавічы), руч. *Вэрболо́тте* (Навасёлкі).

З іншымі суфіксамі сустрэліся адзінкавыя назвы: рр. *Вэ́рцэга* (Камароўка), *Мартёха* (Тамашоўка), *Шэлэ́ха* (Орхава).

Ёсць у гідраніміі Пабужжа і назвы бязафіксныя: рр. *Буг* (паўсюдна), *Брод, Шна* (Кацельня Баярская), аз. *О́дмут, Адэ́та* (Нэплі). Некаторыя гідронімы-назоўнікі маюць форму множнага ліку: *Вэ́лы* (мясц. *вэлы* 'вілы'), *Павукі́* (Катэра).

Гідронімы — субстантываваныя прыметнікі — маюць як поўную, так і сцягнутую форму (такая форма прыметнікаў вельмі ўласціва мясцовым гаворкам): рр. *Глубо́кая, Гніла́я, Лесна́я* і *Лугова́, Осынэцька;* аз. *Берна́довское, Кра́сное* і *Божэ́ско, До́вгэ, Ку́ззе, Сту́днэ.* Форма роду гідронімаў-прыметнікаў звычайна супадае з граматычным родам наменклатурнай назвы аб'екта. Так, назвы рэчак і ям маюць форму жаночага роду, назвы азёраў — ніякага, ручаёў, равоў — мужчынскага. Выключэннем з'яўляюцца назва р. *Городо́к* і назва рова *Гычо́ва* (Пугачова).

Гідронімы ў форме прыметніка паходзяць з састаўных назваў прыметнік + назоўнік — родавая назва. На гэта ўказвае тое, што ў многіх гаворках састаўныя і простыя назвы ўжываюцца паралельна: *Божэ́ско о́зеро* і *Божэ́ско* (Харсы), *Ле́шкова рэка́* і *Ле́шкова* (Камароўка), *Трэ́нево о́зеро* і *Трэ́нево* (Селяхі).

Толькі адзінкавыя назвы цяжкія для вытлумачэння, як, напрыклад, *Вэ́рцэга, Пу́льва.* Фарманты *-га* і *-ва* лічацца балтыйскімі паводле паходжання, аднак В. А. Жучкевіч звязвае этымалогію назвы р. *Пу́льва* (прыток Буга) са славянскім словам *палявая;* галосны *у,* лічыць даследчык, з'явіўся ў выніку польскай трансфармацыі з *о*[2].

Аналіз гідронімаў Пабужжа паказвае, што тут прадстаўлены тыя ж семантычныя і структурныя іх тыпы, што і на іншых тэрыторыях Беларусі, у прыватнасці ў басейне Заходняй Дзвіны[3].

---

[2] Жучкевич В. А. Краткий топонимический словарь Белоруссии.— Мн., 1974, с. 312.

[3] Катонава А. М. Праблемы інтэрпрэтацыі заходнедзвінскай гідраніміі.— У кн.: Беларуская анамастыка. Мн., 1977, с. 15—20.

## АЛФАВІТНЫ ЎКАЗАЛЬНІК ГІДРОНІМАЎ*

Адэ́та р.
Бе́лка р.
Берна́довское о́зеро
Божэ́ско о́зыро (Божэско)
Боло́нья р.
Брод р.
Брудачо́к р.
Буг р.
Бы́хов ров
Вэ́лы воз.
Вэрболо́тте руч.
Вэ́рцэга р.
Глубо́кая (Глубокая, Глубока) р.
Гныла́я (Гнылуха) р.
Городо́к р.
Гычо́во роў
До́вгэ о́зеро (Довгэ)
Ду́нькіно о́зеро
Іспа́новка р.
Карасёво о́зеро (Карасёво)
Ка́рліково о́зеро
Катэ́рка р.
Колдуба́нь (Кубаня) р.
Конопе́льніца р.
Копаёвка р.
Ко́стіна яма
Кра́сное о́зеро (Круглэ)
Ку́ззе воз.
Купы́на воз.
Ле́вая Лесна́я
Ле́вонова яма
Лесна́я р.
Ле́шкова рэка (Лешкова)
Лугова́я (Лугова) р.
Луча́нне воз.
Мартёха р.
Мачуко́во о́зеро
Му́хавец (Муховыць) р.
Но́ва рі́чка
О́дмут воз.
Ожы́ннік воз.
Ольхо́вка (Ольшаніца) р.
Осыне́цка (Осынэцька) р.
Павукі́ воз.
Пане́нка р.
Па́ньское о́зеро (Паньске)
Па́сыка р.
Плэ́тяный рів
Пра́вая Лесна́я
Пу́льва р.
Рада́тына воз.
Рэ́чка р.
Ростя́жныця р.
Руда́вка р.
Ручэёк р.
Ры́тэцкэ о́зеро
Са́сув ров
Сму́тна яма
Солда́цкое о́зыро (Солдацьке)
Су́мное о́зеро (Сумнэ)
Стара́я рі́чка (сін. Гнылая)
Сту́днэ (сін. Зымнэ) воз.
Сы́ня я́ма
Сэляхо́вское о́зеро (Сыляхінське о́зыро, Сыляхэ́, Сэляхо́вэ, Сыляхівське)
Трэ́нево о́зеро (Трэнево)
Хутора́нское о́зеро
Чо́рна р.
Чо́рна я́ма
Чэрня́нка р.
Шна
Шэлэ́ха р.
Янув ров

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

Брэсц.— Брэсцкі
Камян.— Камянецкі
аз.— азёры
воз.— возера
в.— вёска
р.— рака
рр.— рэкі
руч.— ручай
літ.— літаратурнае
мясц.— мясцовае
рус.— рускае
сін.— сінонім

* У дужках даюцца варыянты назваў і сінанімічныя назвы.

Н. І. ВАСІЛЮК

# ЛЕКСІКА-СЕМАНТЫЧНЫЯ ТЫПЫ МІКРАТАПАНІМІІ ПАЎДНЁВА-ЗАХОДНЯЙ ЧАСТКІ БРЭСТЧЫНЫ

Дадзены артыкул прысвечаны пытанню лексіка-семантычнай матывацыі мікратапонімаў трох суседніх з Польшчай і Украінай раёнаў — Брэсцкага, Камянецкага і Маларыцкага.

Паводле характару і семантыкі ўтваральных асноў, выяўленыя мікратапонімы падзяляюцца на дзве групы: адапелятыўныя і аданамастычныя.

Адапелятыўныя мікратапонімы супадаюць з агульнымі назвамі або ўтвораны на іх базе шляхам дабаўлення тапанімічных словаўтваральных сродкаў. У іх лексічным складзе знайшлі адлюстраванне шматлікія класы лексікі, якія ў сваю чаргу падраздзяляюцца на апелятывы прыродна-геаграфічныя і культурныя (па тэрміналогіі В. Ташыцкага), звязаныя з практычнай дзейнасцю чалавека.

Апелятыўныя асновы першай групы звычайна фіксуюць наступныя прыкметы рэалій:

І. Асаблівасці рэльефу: а) простына, плытка ’роўнае месца’: *Простына́* снж. (Харсы Брэсц.), *Плы́тка* ніз. (Орля Брэсц.); б) гара, груд ’узвышанае месца сярод балота’, града ’ўзвышша прадаўгаватай формы’, курган ’узвышша’, верх, строма ’высокае месца’: *Го́ёва гора́* п. на ўзвышаным месцы (Вялікія Матыкалы Брэсц.), *Го́рка* п. на ўзвышаным месцы (Вулька Застаўская Брэсц.), *Загора́* п. за гарою (Каменка Брэсц.), *Загуре́ччэ* снж. за гарою (Харсы Брэсц.), *Копэ́цка гора́* ўзв. (Чэрск Брэсц.), *Лыса гора́* г. без раслiннасці (Каменка Брэсц.), *Ма́цькува гора́* ўз-к (Вялікія Матыкалы Брэсц.), *Мэжыгора́* лес паміж гарамі (Мельнікі Маларыц.), *Нэ́хрёва гора́* ўз-к (Ставы Брэсц.), *Попо́ва гора́* ўз-к (Ставы Брэсц.), *Пудго́рыця* луг (Казловічы Брэсц.), *Рома́нова гора́* ўз-к (Казловічы Брэсц.), *Во́вчый груд* в-аў сярод балота (Старое Сяло Брэсц.), *Груд* паша на высокім месцы (Чарнаўчыцы Брэсц.), *Грудэ́* луг (Каменка Брэсц.), *Сырэ́дній груд* паша на ўзвышшы сярод балота (Цюхінічы Брэсц.),

*Міжгрэ́де* д-на паміж узвышшамі (Каменка Брэсц.), *Сухі́й груд* снж. на ўзвышшы сярод балота (Пяскі Брэсц.), *Кірга́н* уз-к (Катэра Камян.), *Кі́рган* лес на ўзвышшы (Чэрск Брэсц.), *Курга́н* уз-к, п. на ўзгорку (Вялікія Матыкалы Брэсц.), *Вэрх* снж. на высокім месцы (Брадзяцін Маларыц.); в) балота, багна, балонне 'нізкае заліўное месца', полавець, даліна, калынка 'гразкае месца': *Бі́лэ було́то* б. (Каменка Брэсц.), *Боло́то* снж. (Чарнаўчыцы Брэсц.), *Боло́тычко* паша балоцістая (Вулька Брэсц.), *Булы́тцэ* балотная снж. (Чэрск Брэсц.), *Вэлэ́кэ було́то* б. (Каменка Брэсц), *Го́лэ боло́то* бязлеснае б. (Цюхінічы Брэсц.), *Жыді́вськэ боло́то* б. (Цюхінічы Брэсц.), *За́болотте* п. на балоцістым месцы (Катэра Брэсц.), *Москалёвэ було́то* б. (Каменка Брэсц.), *Озі́ры́цькэ було́то* б. каля возера (Каменка Брэсц.), *Паву́цькы болота́* балоцістая снж. (Катэра Камян.), *Полоно́вэ було́то* б. (Каменка Брэсц.), *Савчуко́вэ було́то* паша, якая належала Саўчуку (Смуга Брэсц.), *Торфя́нэ було́то* б. (Каменка Брэсц.), *Ба́гна* б., уроч. (Каменка Брэсц.), *Багнэ́ п.* на месцы топкага балота (Харсы Брэсц.), *Боло́нне* паша (Старое Сяло Брэсц.), *Було́нне* паша на нізкім месцы (Скокі Брэсц.), *Оболонэ́ча* д-на (Каменка Брэсц.), *Оболо́нье* п. на нізкім месцы (Орхава Брэсц.), *Половэ́ць* луг, які заліваецца вадой (Цюхінічы Брэсц.), *За долы́ною* п. за нізінай (Цюхінічы Брэсц.), *Гря́зкая долы́на* снж. на нізкім месцы (Шумакі Брэсц.), *Калы́нка* снж. на нізкім гразкім месцы (Орхава Брэсц.), *Калыта́* нізкае гразкае п. (Мельнікі Маларыц.), *Калы́тка* п. на гразкім месцы (Селяхі Брэсц.).

II. Прыродныя гідрааб'екты: а) возера, рака, рэчка, струга, лука 'паварот ракі, рачное калена': *За́озыро* п. за возерам (Селяхі Брэсц.), *У о́зэра* п. і лес каля возера (Каменка Брэсц.), *Зарі́чка* п. за ракой (Селяхі Брэсц., Мельнікі Маларыц.), *Зарі́ччэ* снж. за ракой (Цюхінічы, Дружба Брэсц.), *На рі́чцы* п. і снж. за ракой (Смуга Брэсц.), *Рэ́ку* п. каля рэчкі (Харсы Брэсц.), *Рычкы́* п. каля рэчкі (Брадзяцін Маларыц.), *Застру́га* струга, лес (Мельнікі Маларыц.), *На прылу́ці* паша каля рачной лукі (Орхава Брэсц.); б) роў (равец): *Быхов рув* роў (Ставы Брэсц.), *За́дній рів* хмыз., *Пырэ́дній рів* хмыз. (Смуга Брэсц.), *Зарі́в'е* луг за ровам (Цюхінічы, Вялікія Матыкалы, Дружба Брэсц.), *Рувэ́ць* кан. (Казловічы Брэсц.), *Са́сув рув* кан. (Загарадняя Камян.), *Янув рув* роў (Ставы Брэсц.).

III. Лясныя масівы, зараснікі, хмызнякі; групы асобных парод дрэў або раслін: лес, бор, гай, дуброва, дубіна 'дубовы лес', ліпнік 'ліпавы лес', бярэзіна 'бярозавы лес', ляшчына 'зараслі алешніку', альшына, алёс 'зараснікі альхі', асіна 'асінавы лес' і інш.: *Быро́зовый ліс* лес (Цю-

хінічы Брэсц.), *Казённый ліс* лес (Каменка і Селяхі Брэсц.), *Кру́глый ліс* лес (Каменка Брэсц.), *Лісо́к* хмыз. (Кавярдзякі Брэсц.), *Лысо́к* б. (Ставы Брэсц.); *Бур* сасновы лес (Цюхінічы Брэсц.), *Буро́к* п. на месцы бору (Прыбарава Брэсц.); *Гаёк* снж. на месцы невялікага гаю (Вялікія Матыкалы Брэсц.), *Гай* п. на месцы гаю (Скокі Брэсц.), *Гайкы́* п. на месцы невялікага гаю (Вулька Брэсц.); *Дубро́ва* лес і п. сярод змешанага лесу (Каменка Брэсц.), *Дубро́ва* лес, пераважна дубовы (Мельнікі Маларыц.), *Дубро́ва* п. (Прыбарава Брэсц.); *Дубы́на* лес і п. сярод дубовага лесу (Каменка Брэсц.), *Дубы́нка* паша (Чарнаўчыцы Брэсц.); *Лы́пнык* п. па суседству з ліпамі (Цюхінічы Брэсц.), *Лы́пчэ* снж. (Цюхінічы Брэсц.); *Осы́на* п. і луг сярод асінавага лесу (Каменка Брэсц.); *Ольшы́на* ніз., дзе расце альха (Старое Сяло Брэсц.), *Ольшэна* лес на месцы альховага зарасніку (Харсы Брэсц.), *Ольшы́нка* снж. на месцы альховага зарасніку (Казловічы, Пяскі Брэсц.), *Ольшы́ны* п. і луг побач з альховым лесам (Орхава Брэсц.), *Олёс,* альховыя зараслі (Чарнаўчыцы Брэсц.); *Бэрэзына* п. і снж., дзе некалі раслі бярозы (Скокі, Казловічы Брэсц.), *По́дбырызы́нне* снж. каля бярэзніку (Вялікія Матыкалы Брэсц.); *Лышчы́ны* зараслі арэшніку (Селяхі Брэсц.); *На вульшы́ны* п. на месцы зарасніку альхі (Цюхінічы Брэсц.), *Лышчы́нка* снж. на вышэйшым месцы з зараслямі арэшніку (Чылеева Брэсц.); *Грабу́вка* п. на месцы грабавага лесу (Мельнікі Маларыц.); *По́длы́ззе* луг побач з лазой (Харсы Брэсц.); *Вышэнькы́* лес, дзе раслі вішні (Мельнікі Маларыц.); *Багу́н* папараць, чарот, явар, ясакор, *Баго́н* п., дзе некалі рос багун і хмызняк (Скокі, Чылеева Брэсц.), *Забаго́нне* п. за балотам, парослым багуном (Брадзяцін Маларыц.); *Па́порòть* лес і луг на месцы лесу, дзе расла папараць (Мельнікі Маларыц.); *Чырэ́т* снж., дзе расце чарот (Скокі Брэсц.); *Явурычо́к* лес, дзе расце явар (Орхава Брэсц.), *Сукурэ́на* луг, дзе раслі асакоры (Харсы Брэсц.).

IV. Уласцівасці глебы: *Камыну́ха* камяністае п. (Харсы, Прыбарава, Раманоўскія хутары Брэсц.); *Крамынці́* п., на якім многа крамянёў (Вулька Брэсц.); *За́пысок* п. за пясчанай мясцовасцю (Харсы Брэсц.), *Пыскы́* п. (Казловічы Брэсц.); *Глынкы́* п. і д-га (Казловічы Брэсц.), *Глы́нышча* паша (Чарнаўчыцы Брэсц.), *Лубя́нэ* п. з неўрадлівай, цвёрдай зямлёй (Харсы Брэсц.).

V. Канфігурацыя геаграфічнага аб'екта (клін, рог, крывуля 'што-небудзь няроўнае, крывое', папярэчка, востраў): *Клын* лес і п. у выглядзе кліна (Цюхінічы, Чылеева Брэсц.); *Козіный руг* снж. у выглядзе рога (Скокі Брэсц.); *Крывулі́* п. няправільнай формы (Смуга, Казловічы Брэсц.), *Попэрэ́чкі* п., раздзеленае на папярэчныя палоскі (Вулька Брэсц.); *Острово* п. за ракой

(Скокі Брэсц.), *Островóк* уроч. сярод балота (Каменка Брэсц.), *Гóструв* п. сярод балота (Харсы Брэсц.).

Як паказваюцьназіранні, у мікратапаніміі Пабужжа знайшлі адлюстраванне разнастайныя лексічныя групы, якія выкарыстоўваліся або выкарыстоўваюцца і зараз для абазначэння прыродна-геаграфічных паняццяў. Мясцовае насельніцтва адбірала тыя семантычныя класы са складу апелятыўнай лексікі, якія найбольш адпавядалі патрэбам тапанімічнай практыкі, у адпаведнасці са стадыямі грамадскага развіцця і жыццёвымі ўмовамі. Дзякуючы праламленню ў свядомасці людзей яны набывалі характаралагічны, або ацэначны, аспект. Гэта значыць, што адбор тапонімаўтваральных асноў з ліку прыродна-геаграфічнай тэрміналогіі адбываўся пад уплывам экстралінгвістычных фактараў. Мікратапонімамі станавіліся толькі тыя апелятывы, рэаліі якіх па тых ці іншых прычынах траплялі ў поле зроку чалавека. Умовы адбору лексікі часцей за ўсё дыктавала гаспадарчая спецыфіка таго ці іншага рэгіёна.

Для тэрыторыі даследуемай часткі Брэстчыны характэрнай адзнакай з'яўляецца шырокае выкарыстанне ў якасці мікратапанімічных асноў назваў мясцовай флоры. Мікратапонімы фіксуюць у сваім лексічным складзе разнастайныя назвы лясных масіваў, зарасляў дрэў і раслін, хмызнякоў, а таксама назвы асобных парод дрэў. І гэта не выпадкова. Для жыхара лясной мясцовасці лес меў першаступеннае гаспадарчае значэнне. Тут людзі адваёўвалі кавалак ворнай зямлі, церабілі хмызняк для сенажаці. Нарэшце, лясныя масівы на ўсіх этапах чалавечага грамадства былі добрым арыенцірам на мясцовасці. Таму сувязь паміж мікратапанімічнымі асновамі і матывуючымі іх назвамі мясцовай флоры зусім заканамерная і абумоўлена гаспадарчай практыкай чалавека.

Жыццё прымушала людзей не проста фіксаваць прыродныя з'явы як факт рэчаіснасці, а пільна прыглядацца, дэталёва вывучаць іх прыкметы і якасці. У выніку адны з іх былі асвоены і набылі гаспадарчае значэнне, другія трапілі ў разрад нейтральных ці другарадных. У залежнасці ад спосабу жыцця ў розных народаў вызначаўся індывідуальны падыход да якасцей тых ці іншых прыродна-геаграфічных аб'ектаў. Так, у вандроўных цюрка-манголаў адзначаецца багацце тэрмінаў, звязаных з рознымі відамі пашаў і элементамі мікрарэльефу, якія служаць арыенцірам на раўнінах у час вандровак. У старажытных аазісах Сярэдняй Азіі пераважаюць тэрміны, звязаныя з паліўной гаспадаркай і г. д. У беларусаў, як і ў іншых славян, вельмі добра распрацавана балотная тэрміналогія. Якіх толькі відаў балот тут не сустрэнеш: голае і парослае расліннасцю, ржавае

і бруднае, праточнае і застойнае ці гнілое, зыбучае і вязкае, бярозавае і альховае, асаковае і махавое. У народзе ўсе яны добра распазнаюцца і маюць адпаведныя сваёй сутнасці назвы. Гэту разнастайнасць балотнай тэрміналогіі мы назіраем і на тэрыторыі Пабужжа. Бязлеснае балота тут мае назву *голэ,* дрыгвяністае — *багна, дрыгва,* гнілое — *гнілуха.* У залежнасці ад віду расліннасці адрозніваюцца: *алёс* (альховае балота), *амшарына* (махавое балота), *асакар* (балота, парослае асакой). Балота, якое гарэла, мае назвы *выжар, пагар* і г. д. Але ў якасці лексічнай асновы мікратапонімаў гэтага рэгіёна часцей за ўсё адзначаецца тэрмін «балота», які абазначае «нізкае забалочанае месца». Відаць па ўсяму, у гаспадарчых мэтах дрыгвяністыя, празмерна топкія балоты выкарыстоўваюцца вельмі рэдка.

Мікратапанімія Пабужжа фіксуе нямала лексем, што абазначаюць нізінныя ўчасткі зямной паверхні, упадзіны, равы. Мікратапонімы, матываваныя гэтымі лексемамі, звычайна замацоўваюцца за сенажацямі, пашамі і ляснымі ўрочышчамі, размешчанымі на нізкіх месцах. Палі з назвамі *Роў, Бало́та, Долы́на* і г. д. складаюць выключэнне. Прычым у радзе выпадкаў гэтыя назвы адлюстроўваюць прыродныя ўласцівасці не называемага аб'екта, а суседняга з ім (*За долы́ною* п., *За́болотте* п., *Ко́ло ро́ва* п.).

Нягледзячы на тое што рэльеф Пабужжа ўвогуле носіць нізінны характар, у складзе мікратапаніміі гэтай зоны досыць шырока адлюстроўваліся назвы ўзвышаных месц (*гара, горка, груд, града, курган*). Мікратапонімы з гэтымі лексічнымі асновамі ў пераважнай большасці з'яўляюцца назвамі сенажацяў, узвышшаў сярод балота і зрэдку палёў.

Такім чынам, мікратапонімы, матываваныя апелятывамі, што абазначаюць прыродна-геаграфічныя паняцці, найбольш шырока фіксуюць у сваім складзе назвы, звязаныя з тапаграфічнымі асаблівасцямі мясцовасці. Прычым лексіка-семантычныя асаблівасці матываванай асновы звычайна абумоўліваюць замацаванасць мікратапоніма за тым ці іншым відам геаграфічнага аб'екта. Так, мікратапонімы, у якіх адлюстроўваліся назвы ўзвышшаў, балот і нізін, у асноўным называюць сенажаці, пашы і ўрочышчы. Мікратапонімы ж, якія суадносяцца з назвамі расліннага свету, лясных масіваў і хмызнякоў, часцей за ўсё з'яўляюцца назвамі палёў. Такое пераразмеркаванне, відаць, не з'яўляецца выпадковасцю. Магчыма, яно адлюстроўвае сабой той факт, што ўчасткі пад ворыва распрацоўваліся звычайна ў лесе і часцей за ўсё на калектыўных пачатках, а пад сенажаць і пашу — сярод хмызнякоў і зарасляў. Балотныя прасторы, несумненна, пачалі асвойвацца некалькі пазней, калі больш

прыдатных у гаспадарчых адносінах месц ужо не існавала. У адрозненне ад балот узвышанае месца атрымлівала назву *гара*. Падобна, што мікратапонімы, матываваныя назвамі балотных і ўзвышаных месц, з'явіліся адначасова як антонімы. Аб гэтым у пэўнай ступені сведчыць і аднатыпнасць іх структурнага афармлення: і тэрмін «балота», і тэрмін «гара», як правіла, выступаюць у спалучэнні з прыналежнымі і адноснымі прыметнікамі. Параўн.: *Москалёвэ Булóто, Жыдівськэ Болóто, Мáцькува Горá, Ромáнова Горá.*

У працэсе намінацыі мікрааб'ектаў досыць часта выкарыстоўваецца ўказанне на месцаразмяшчэнне аб'екта. Гэта могуць быць як агульныя звесткі аб месцазнаходжанні аб'екта, так і арыентацыя на мясцовасці адносна якіх-небудзь іншых аб'ектаў.

Пры вызначэнні прызнакаў, пакладзеных у аснову састаўных мікратапонімаў, у радзе выпадкаў даводзіцца сустракацца з цяжкасцямі. Так, напрыклад, назва *Вэлэ́кэ булóто* заключае адначасова дзве істотныя дэталі: характар рэльефу (балота) і працягласць у прасторы (вялікае).

Апелятыўныя асновы другой групы мікратапонімаў суадносяцца з назвамі, якія абазначаюць вынікі чалавечай дзейнасці.

1. Назвы тыпаў паселішчаў і месц іх ранейшага знаходжання: *Калóнія* л. (Барысы Брэсц.), *Усáдьба* п. на месцы панскай сядзібы (Цюхінічы Брэсц.), *Двóрыска* п. на месцы панскага двара (Пяскі Брэсц.), *Сэ́лішчэ* п. (Багданы Брэсц.), *Сэ́лышча* п. на месцы ранейшага паселішча (Чарнаўчыцы Брэсц.), *Сэ́лыскі* п., на якім знаходзяць рэшткі паселішча (Вялічкавічы Камян.), *Калынюків хýтор* хмыз. (Чэрск Брэсц.), *Кóсцікув хýтор* п. (Навасады Брэсц.), *Мáмычэў хýтор* хмыз. (Чэрск Брэсц.), *Мáркув хýтор* п. (Навасады Брэсц.), *Юзыфов хýтор* хмыз. (Чэрск Брэсц.), *Якімов хýтор* п. (Навасады Брэсц.).

2. Назвы пабудоў жыллёвага і гаспадарчага прызначэння: *Івáньковэ хáтныско* п. на месцы хутара (Забалацце Брэсц.), *Пóгреб* пясчаны вал (Старое Сяло Брэсц.), *Хлывэ́шча* п. за хлявамі (Прыбарава Брэсц.), *Звыры́нэць* снж. (Волчын Камян.), *Лендэ́рня* п. (Прыбарава, Шумакі Брэсц.) — параўн. польск. гіст. *olendarnia* 'хлеў, кароўнік, пераважна ў маёнтку' (SJP II). Паводле Г. У. Арашонкавай [1], такога ж паходжання *Аляндарня* — назва лесу ў Навагрудскім раёне Гродзенскай вобласці.

3. Назвы штучна створаных вадаёмаў: *Стáвышчэ* прыазёрная нізіна, дзе затрымліваецца вада (Селяхі Брэсц.), *Застáв'е*

---

[1] Арашонкава Г. У. Польскія элементы ў беларускай мікратапаніміі.— У кн.: Беларуская анамастыка. Мн., 1981, с. 119.

снж. за ставамі (Казловічы Брэсц.), *Пуд ста́вамы* лес каля возера (Камароўка Брэсц.), *Пуста́в'е* п. за ставамі (Прыбарава Брэсц.), *За ставо́к* п. за стаўком (Селяхі Брэсц.), *Са́жувка* роў (Вялікія Матыкалы Брэсц.), *Ко́паньк* роў (Дружба Брэсц.), *Жу́кова ко́панка* роў (Рыцец Брэсц.), *Пэ́ршый ко́паный рів, Дру́гый ко́паный рів* равы (Чэрск Брэсц.)

4. Назвы мясцовых прадпрыемстваў вытворчасці і рамёстваў, промыслаў і інш.: *Бу́дышчэ* п. (Селяхі Брэсц.), снж. (Гута Брэсц.), *Гу́тныска* паша (Чэрск Брэсц.), *Подсмоля́рны* лес (Гута Брэсц.), *Смоля́рскэ* лес (Чэрск Брэсц.), *Цыге́льня* ч. в., дзе раней быў цагельны завод (Брадзяцін Маларыц.), п. на тэрыторыі былога цагельнага завода (Цюхінічы, Шумакі Брэсц.), *Млынцы́* п. па суседству з млыном (Рыцец Брэсц.), *Замлы́нне* п. за млыном (Шумакі Брэсц.).

5. Назвы месц, якія прызначаліся для выканання якога-н. дзеяння: *Пра́льня* снж. на месцы высахлага возера, у якім мылі бялізну (Малыя Матыкалы Брэсц.), *Больша́я Пра́льня, Мала́я Пра́льня* пераправа праз р. Лясную, дзе раней мылі бялізну (Скокі Брэсц.), *Купэ́ля* месца купання (Мельнікі, Орля Брэсц.).

6. Назвы месц пасьбы і часовага адпачынку жывёлы: *Пасэвэ́ско* паша (Орхава Брэсц.), *Пастувэ́нь* паша (Харсы Брэсц.), *Пастовны́к* снж., дзе раней была паша і месца адпачынку жывёлы (Вялікія Матыкалы Брэсц.), *Ко́зье сты́йло* п., лес (Навасады Брэсц.).

7. Назвы шляхоў зносін, мастоў, пераправаў і інш.: *Но́ва доро́га* д-га на в. Заполле (Смуга Брэсц.), *За ко́сой доро́гою* п., ад якога іншыя дарогі разыходзяцца ўкасую (Цюхінічы Брэсц.), *Гу́рный міст* мост праз балота па грудках (Цюхінічы Брэсц.), *Лі́совый міст* мост каля лесу (Цюхінічы Брэсц.), *Но́вый міст* месца, дзе быў мост (Цюхінічы Брэсц.), *Гать* п. паблізу былой гаці (Орхава Брэсц.), *Гаткі́* б., праз якое пракладзена гаць (Старое Сяло Брэсц.), *Загрэбэ́ля* снж. (Мельнікі Брэсц.), *Бро́ды* паша на балоце (Прыбарава Брэсц.), *Брудо́к* п. на нізкім месцы (Рыцец Брэсц.), *Брудкі́* хмыз. сярод вады (Старое Сяло Брэсц.), *Под брудцём* п. на нізкім месцы, дзе быў брод (Вялікія Матыкалы Брэсц.), *Пэрыві́з* луг, які прымыкае да перавозу (Харсы Брэсц.).

8. Назвы зямельных участкаў: а) па працэсу або способу распрацоўкі: *Ва́лішчэ* п., распрацаванае ў лесе (Багданы Брэсц.), *Вырубка* ўчастак лесу (Кастары Брэсц.), *Лядо́к* п., *Ля́ды* лес (Кабёлка Брэсц.), *Протэрэ́б* снж. на месцы хмызняку (Церабунь Брэсц.); б) па способу набыцця: *Вы́мэнок* луг, які выменялі ў другой вёсцы (Вялічкавічы Камян.), *Нада́ткы* п. (Мухавец, Казловічы Брэсц.), *Прыда́ткі* п. (Ужыкі Камян., Сму-

га Брэсц.), *Дзялянка* лес (Навасады Брэсц.), *Рез* п. (Барысы Брэсц.), *Рыз* п., лес (Гута Брэсц.), *Рыскі* п. (Вялічкавічы Камян., Казловічы Брэсц.), *Ўзкі рiскы* п. (Цюхінічы Брэсц.), *Парцэлі* паша (Смуга Брэсц.) — польск. *parcela* 'ўчастак зямлі лесу, які прадаецца' (Karł), 'невялікі ўчастак, выдзелены з большага' (SJP IV); в) па мэце гаспадарчага выкарыстання: *Выгон* п. на месцы выгану, дзе пасвілі жывёлу (Вулька Застаўская Брэсц.), *Выгун* п. (Курніца Малая Брэсц.), *Пасовыско* паша (Волчын Камян.), *Полевóе пасовыско* паша (Ужыкі Камян.), *Заухóжа* п. (Кабёлкі Брэсц.), *Ухóж'е* лес (Дубіца Брэсц.) — ухожа 'ўчастак лесу, вылучаны для палявання; месца звярыных ловаў, оступ'; г) па адзінках вымярэння: *Волóкэ* п. (Кабёлкі Брэсц.), *Волóка* п. (Церабунь, Шумакі Брэсц.), *Попóвая волóка* лес (Кабёлкі Брэсц.), *Моргы* п. (Забалоцце Брэсц.), *Моргэ́* п. (Барысы Брэсц.), *Чэтвэртына* п. у 1/4 га (Каменіца Жыравецкая Брэсц.), *Чытвертына* п. (Барысы Брэсц.).

Як відаць з прыведзеных прыкладаў, другой важнай крыніцай мікратапаніміі паўднёва-заходняй часткі Брэстчыны з'яўляюцца культуральныя тэрміны. Семантыка іх досыць разнастайная, аднак яўна пераважаюць лексемы, якія служаць назвамі зямельных участкаў па пэўнай гаспадарчай прыкмеце.

Як паказваюць назіранні, класіфікацыя асноў мікратапонімаў па рубрыках прыродна-геаграфічныя і культуральныя ў пэўнай ступені з'яўляецца ўмоўнай. Зафіксавана нямала прыкладаў, калі яшчэ на апелятыўным узроўні зямельны ўчастак называецца *балота* (поле на месцы распрацаванага балота), *гара* (поле на высокім месцы), *паляна* (поле сярод лесу), *востраў* (поле або сенажаць сярод балота). Іменна як сельскагаспадарчыя аб'екты ўпамінаюцца *астраўкі* і *палянкі* ў старабеларускіх пісьмовых помніках: *на томъ кгрунте его на островку бороновали* (АВАК, XXXII, 96); *зоставивши намъ кольъко полянокъ, мало дей не всю землю нашу, которую з давныхъ часов у певных границахъ маючы пашни пашучы спокойне ужываемъ* (АВАК, XXIII, 312)[2].

У якасці назваў зямельных участкаў сустракаюцца ў помніках і *вуглы, кліны, куты.*

Не заўсёды дакладна можна вызначыць і класіфікацыйныя рубрыкі некаторых культуральных тэрмінаў. З аднаго боку, лексемы *дворышча, ізбішча, печышча, селішча* — гэта назвы ўчасткаў па ранейшаму тыпу пасялення ці тыпу пабудовы, з другога — назвы зямель-пасёлкаў[3].

---

[2] Лемцюгова В. П. Беларуская айканімія.— Мн., 1970, с. 39.
[3] Там жа, с. 43—44.

Лексічнай асновай для мікратапонімаў аданамастычнага паходжання паслужылі ўласныя імёны, імёны-мянушкі і прозвішчы (антрапонімы), а таксама розныя класы тапонімаў — айконімы, гідронімы, мікратапонімы.

Антрапанімічныя асновы адлюстроўваюць у сваім складзе ўласныя асабовыя імёны (у першую чаргу хрысціянскія): *Клымíвка* лес (Клім < Кліменцій. Цюхінічы Брэсц.), *Кузьмы́ныўка* ч. в. на месцы нівы Кузьмы (Брадзяцін Маларыц.), *Луканёва ны́вка* лес (Лукань < Лука < Лукіян. Селяхі Брэсц.), *Пана́сова ны́вка* п. (Панас < Афанасій. Рыцец Брэсц.).

Значна радзей ва ўтварэнні мікратапонімаў прымаюць удзел каталіцкія імёны або імёны хрысціянскія ў польскай агаласоўцы: *Га́нтыкова кар'ера* к-р (Гантык < Антон < Антоній. Селяхі Брэсц.), *Галэ́нка* п-на (Галэнка, памянш. ад Галэна. Камароўка Брэсц.), *Ськавічы* п. (Яська, памянш. ад Ясь < Ян. Брадзяцін Маларыц.).

Найбольшая колькасць мікратапонімаў утворана на базе імён-мянушак і прозвішчаў, якія ад іх паходзяць: *Брылёў* лес (Брыль — мянушка былога ўладальніка лесу. Мельнікі Маларыц.), *Бэ́йла* п. (Бэйла — мянушка ўладальніка поля. Прыбарава Брэсц.), *Вылíново поле* п. (па прозвішчу Вылінаў. Мельнікі Маларыц.), *Гала́йково полэ* п. (па мянушцы Галайка. Орхава Брэсц.), *Голубо́чковэ ўхужы́* хмыз. (па мянушцы Галубок. Рыцец Брэсц.), *Каплю́к* снж. (па прозвішчу Каплюк. Камароўка Брэсц.), *Карачуно́во по́лэ* п. (па прозвішчу Карачун. Брадзяцін Маларыц.), *Ко́рково по́лэ* п. (па мянушцы Корок. Мельнікі Маларыц.), *Ковалёва стэ́жка* д-га (па мянушцы Каваль. Вялічкавічы Камян.), *Кунтуно́ва сіно́жать* снж. (па прозвішчу Кунтун. Мельнікі Маларыц.), *На Азбэ́рына* п. (па прозвішчу Азбэрын. Кавярдзякі Брэсц.), *На Га́рчыка* п. (па прозвішчу Гарчык. Кавярдзякі Брэсц.), *На Шу́товым* снж. (па прозвішчу Шут. Селяхі Брэсц.), *На Курковя́ка* п. (па прозвішчу Курковяк. Кавярдзякі Брэсц.), *На Колісíнского* п. (па прозвішчу Калісінскі. Кавярдзякі Брэсц.), *На Груша́цкого* п. (па прозвішчу Грушацкі. Кавярдзякі Брэсц.), *На Послу́шного* п. (па мянушцы Паслушны. Кавярдзякі Брэсц.), *Шур* п. (па прозвішчу Шур. Рыцец Брэсц.), *Пэпляко́ва зымля́* лес і п. (па мянушцы Пэпляк. Пяскі Брэсц.), *Сахарчуку́в ліс* лес (па прозвішчу Сахарчук. Пяскі Брэсц.).

У якасці лексічных асноў некалькіх мікратапонімаў выступаюць мянушкі жонак па імені, прозвішчу або занятку ці прафесіі мужа: *Яку́бынкі* луг (Яку́бынка — жонка Якуба. Рыцец Брэсц.), *Ковале́нчыхы ўхужы́* хмыз. (Кавале́нчыха — жонка каваля. Рыцец Брэсц.).

Для рада аданамастычных мікратапонімаў асновай паслу-

жылі ўласныя назвы паселішчаў (айконімы), гідронімы, мікратапонімы: *Влодáва* п. каля станцыі Уладава (Орхава Брэсц.), *За Вýлькію* п. за в. Вулька (Смуга Брэсц.), *Зары́цька* п. каля в. Рыцец (Селяхі Брэсц.), *Комары́ськэ* луг каля в. Камароўка (Прыбарава Брэсц.), *Кумары́вскі* луг каля в. Камароўка (Рыцец Брэсц.), *Лэ́пынська* снж. каля в. Ліпенкі (Харсы Брэсц.), *Олэ́шковська* снж. каля в. Алешкавічы (Чарнаўчыцы Брэсц.), *Óрховськіе* п. каля в. Орхава (Орхава Брэсц.), *Óрховскі* луг каля в. Орхава (Рыцец Брэсц.), *Подтурэ́нне* п. каля в. Турна (Чарнаўчыцы Брэсц.), *Ры́тэцькі* лес каля в. Рыцец (Орхава Брэсц.), *Рэ́ціцы* п. і снж. каля в. Рыцец (Рыцец Брэсц.), *Закалэ́нуво* снж. уздоўж ракі Каленуво (Харсы Брэсц.), *За Кублы́цію* п. за сенажаццю Кублыця (Вялікія Матыкалы Брэсц.), *Здэ́шынськэ булóто* б. каля п. Здэшына (Камароўка Брэсц.), *Путýчнэ* п. за Тучнáй ніўкай (Рыцец Брэсц.), *Колодэ́нськэ болóто* б. каля в. Коладна (Катэра Камян.).

Пабужская мікратапанімія выяўляе цесныя ўзаемаадносіны з рознымі класамі анамастычнай лексікі — антрапаніміяй, айканіміяй (радзей гідраніміяй). На базе антрапонімаў пераважна ўтвараюцца назвы мікрáаб'ектаў па прызнаку прыналежнасці асобе, ад айконімаў — па прынцыпу прыналежнасці пэўнаму населенаму пункту.

Нават далёка не поўны пералік лексіка-семантычных тыпаў мікратапонімаў паўднёва-заходняй часткі Брэстчыны паказвае, якое шырокае кола лексікі ахоплівае працэс намінацыі дробных геаграфічных аб'ектаў. Асноўная роля ў гэтым працэсе належыць апелятывам, у першую чаргу тым, якія абазначаюць прыродна-геаграфічныя паняцці. Выдзяляюцца родавыя тэрміны, абагульняючыя геаграфічныя з'явы і аб'екты тыпу *гара, балóта, рака, возера,* і відавыя, якія характарызуюць больш абмежаваныя элементы прыроды, указваюць на вузкалакальныя асаблівасці аб'екта (*града, груд, плытка, простына*).

Мікратапанімія Пабужжа — гэта ў асноўных сваіх рысах устойлівая сукупнасць назваў, якая склалася на працягу рада стагоддзяў. Замена старых назваў новымі, як правіла, практыкуецца досыць рэдка. Мікратапанімічная сістэма Пабужжа арганічна ўпісваецца ў лексічную сістэму мясцовага дыялекту і, як правіла, адлюстроўвае ўсе яе важнейшыя асаблівасці як у галіне апелятываў, так і анамастыкі. Лексічныя запазычанні з польскай і ўкраінскай моў складаюць адносна невялікі працэнт, прычым яны часцей за ўсё нясуць на сабе адбітак фанетычнай і марфалагічнай адаптацыі, якая можа быць поўнай і частковай. У чыстым выглядзе запазычаныя лексемы сустракаюцца рэдка. Пераважная большасць назваў характарызуецца на сучасным

этапе яснасцю семантычнай структуры. Значная колькасць іх выяўляе цесную сувязь з умовамі мясцовага ўкладу жыцця, знаходзіцца ў сэнсавай адпаведнасці з рэальнымі прыкметамі акаляючых прыродна-геаграфічных аб'ектаў.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

SJP — Słownik języka polskiego.— Warszawa, 1958—1968, t. 1—11.

Karl.— Karłowicz J., Kryński A., Niedzwiedzki W. Słownik języka polskiego.— Warszawa, 1900—1927, t. 1—8.

Б.— балота
Брэсц.— Брэсцкі р-н
в.— вёска
в-аў — востраў
г.— гара
д-га — дарога
д-на — даліна
Камян.— Камянецкі р-н
кан.— канава
к-р — кар'ер
Маларыц.— Маларыцкі р-н
ніз.— нізіна
п.— поле
п-на — паляна
снж.— сенажаць
уз.— узвышша
уз-к — узгорак
уроч.— урочышча
хмыз.— хмызняк

*Г. В. МЕСЬКО*

# З ЗААНІМІІ БРЭСТЧЫНЫ
## (КЛІЧКІ КАРОЎ)

Вывучэнне заанімii па сутнасці толькі пачынаецца. Беларускім заонімам прысвечаны толькі адзін артыкул С. Г. Лобач [1]. У ім аналізуецца 28 клічак кароў, выяўленых на тэрыторыі Брэстчыны. З іх 11 запісаны ў Бярозаўскім р-не, 4 — у Кобрынскім, 10 — у Драгічынскім, 3 — у Брэсцкім.

Намі сабрана 424 заонімы ў 56 населеных пунктах: у Брэсцкім р-не — 138; Жабінкаўскім — 53; Камянецкім — 130; Маларыцкім — 103.

Мэта артыкула — даць лексіка-семантычную характарыстыку ўтваральных асноў і словаўтваральных сродкаў зафіксаваных заонімаў.

За аснову лексіка-семантычнай класіфікацыі бярэцца прынцып, прапанаваны ў артыкуле В. І. Макіенка, В. І. Фаняковай [2]. У адпаведнасці з гэтым прынцыпам размяжоўваюцца тры розныя матывіроўкі ў заонімаў па характару намінацыі, па сувязі і клічкі жывёлы з апелятыўнай і анамастычнай лексікай, якая адлюстроўвае рух матывіроўкі ад канкрэтнай да абстрактнай прыметы.

Паводле гэтага прынцыпу адзначаныя на Брэстчыне заонімы па тыпу матывіроўкі можна падзяліць на 3 групы: клічкі кароў з першаснай матывіроўкай, клічкі кароў з другаснай матывіроўкай, клічкі кароў з няяснай матывіроўкай.

Першая група заонімаў — гэта ў асноўным апелятывы. У залежнасці ад семантычных прызнакаў намінацыі з іх складу выдзяляюцца чатыры падгрупы.

Самую шматлікую падгрупу складаюць клічкі кароў чырвонай, бурай, белай, чорнай, рабой масці, кароў з плямай на мордзе: *Красная, Чырвона, Перыста, Квітоха, Квытоха, Квятоха,*

---

[1] Лобач С. Г. Заонімы. Уласныя назвы — мянушкі кароў.— Беларуская анамастыка. Мн., 1977, с. 176—180.

[2] Мокиенко В. И., Фонякова О. И. Способы называния в зоонимии.— Ономастика Поволжья, 1976, № 4, с. 322.

*Квемеха, Чорна, Чырнушка, Бела, Белянка* і інш. Затым ідуць клічкі па характару і паводзінах жывёл (*Вясёла, Вясёлка, Гарнушка, Бойка, Быструха*), паводле знешніх фізічных прыкмет (*Рогата, Рогуля* — каровы з вялікімі прыгожымі рагамі, *Лобейка* — карова без рагоў, *Сухая* — худая карова), па спосабу набыцця (*Ждана, Явоська*).

Да другой групы належаць заонімы з другаснай матывіроўкай. Функцыя клічкі для іх не першасная, паўторная, і таму яны рэдка ўжываюцца. Паводле ўтварэння такія заонімы з'яўляюцца пераноснымі і ў дыялектнай мове заўсёды маюць ярка выражаную экспрэсію. Яны падзяляюцца на некалькі лексіка-семантычных падгруп.

Першую з іх складаюць клічкі кароў па масці (*Ночка, Цыганка, Жука, Жучка, Галка, Галочка* — каровы чорнай масці, *Светёлка, Метель, Чаромуха* — белай масці, *Каліна, Рабіна* — рабой масці).

Наступныя па колькасці падгрупы ўтвараюць клічкі, якія суадносяцца з назвамі расліннага свету (*Астра, Фіялка, Роза, Пралеска; Маліна, Каліна, Сірэнь; Вішня, Бяроза, Быроза, Бірозка, Бярозка, Сосенка*), з назвамі жывёльнага свету, птушак, насякомых (*Баран, Ланька, Львіца; Зозуля, Зязюля, Кукушка, Галка, Галочка, Ворона, Ласточка, Ластаўка; Муха, Мурашка, Пчолка*).

У радзе клічак адлюстроўваюцца знешнія фізічныя прыметы (*Малышка, Крошка, Кнопка, Малютка* — каровы маленькага росту; *Красотка, Лялька, Красуля* — прыгожыя каровы), характар і паводзіны жывёл (*Царевна, Краля, Пава, Паненка, Маёрка* — гордыя, важныя каровы; *Самалёт, Ракета* — хуткія, рухомыя, *Ударніца* — дае многа малака, *Песня* — жывая, вясёлая, *Дурочка* — бесталковая).

Ёсць клічкі, якія паказваюць на час нараджэння: *Мая, Майка, Весна*. Клічкі з індывідуальнай няяснай матывіроўкай: *Буба, Мызя, Мізя, Стрелка, Шчуча*.

Да трэцяй групы адносяцца заонімы з няяснай матывіроўкай. Гэта аданамастычныя заонімы, якія ў залежнасці ад характару ўтваральных асноў можна падзяліць на: адантрапанімічныя (*Зінка, Мотя, Вера, Маруся, Макарыца* — па імені ці мянушцы гаспадынь, *Громікава* — па прозвішчу і інш.); адтапанімічныя: *Варшава, Уралка;* адкасманімічныя: *Венера, Луна, Аўрора*. Найбольш шматлікія адантрапанімічныя заонімы.

Прапанаваная вышэй семантычная класіфікацыя заонімаў размяжоўвае 3 розныя тыпы матывіроўкі. Сярод гэтых тыпаў выдзяляюцца групы заонімаў па дыферэнцыяльных семантычных прызнаках.

Асноўнымі спосабамі ўтварэння заонімаў з'яўляюцца суфіксальны і семантычны.

Семантычным спосабам утворана 136 заонімаў: *Аўрора, Баран, Варона, Вера, Вішня, Вярба, Вясна, Зоя, Звязда, Маня, Каліна, Пава, Песня, Рабіна, Роза, Сірэнь, Сліва, Спутнік, Чаромуха* і інш.

Суфіксальным спосабам утворана 38 заонімаў. Найбольш прадуктыўнымі з'яўляюцца суфіксы:

*-ка* — *Белка, Бурка, Вясёлка, Жучка, Лыска, Рабка;*

*-оха, -еха, -уха* — *Квытоха, Квітеха, Быструха, Лысуха;*

*-уля* — *Квэтуля, Красуля, Рабуля, Рагуля, Пыруля;*

*-анка, -онка, -янка (-янька)* — *Белянка, Зарянка, Лысанька, Буронка;*

*-ушка* — *Гарнушка, Чарнушка.*

Менш прадуктыўныя суфіксы — *-ата* — *Рогата; -ык* — *Рыжык; -ыста* — *Перыста; -ына* — *Пірына.*

Большасць разгледжаных заонімаў маюць фанетычныя і формаўтваральныя варыянты. Наяўнасць фанетычных варыянтаў тлумачыцца оканнем, аканнем, яканнем, ёканнем, цвёрдым ці мяккім вымаўленнем зычных і іншымі асаблівасцямі гаворак Брэстчыны: *Бероза, Берёза, Бярозка, Бырозка, Бірозка; Варона, Ворона; Голубка, Гулубка, Зазуля, Зезюля, Зозуля; Звезда, Звёзда, Звізда, Лыса, Лэса; Кветоха, Квітоха, Квытоха; Перыста, Пырыста, Пэрыста, Пэрэста.*

Варыянтныя формы *Біла* — *Білая, Лыса* — *Лысая, Раба* — *Рабая* можна растлумачыць суіснаваннем у гаворках сцягнутых і поўных форм прыметніка.

Варыянты *Белка* — *Белачка, Звёзда* — *Звёздочка, Зорка* — *Зорачка, Каліна* — *Калінка, Заря* — *Зарянка, Малка* — *Малышка* звязаны з выкарыстаннем розных эмацыянальна-ацэначных суфіксаў.

## АЛФАВІТНЫ ЎКАЗАЛЬНІК ЗАОНІМАЎ

Астра — Ар. Жабін.
Аўрора — Зв. Маларыц.
Баран — Г. Маларыц.
Белачка — Кл. Брэсц.
Белая — Кл. Брэсц.
Белка — Пуг., Хар. Брэсц.; Ар., Шч. Жабін.; Г., Печ., Хам. Маларыц.; Дзм., Заг. Камян.
Белянка — Шум. Брэсц.
Берёза — Шум. Брэсц.
Бероза — Хам. Маларыц.
Біла — Прыб. Брэсц.; Заг., Кот., Кр., Пад. Камян.
Бірозка — Шыш. Маларыц.
Бойка — Кост. Брэсц.
Бонда — Нав. Камян.
Буба — Г. Маларыц.
Букет — Нав. Камян.
Бурка — Нав. Камян.
Буронка — Рыц., Цер. Брэсц.; Шч. Жабін.
Варона — Цер. Брэсц.
Венера — Прыб. Брэсц.; Падб. Маларыц.
Верба — Ар. Жабін.
Весёлка — Ар. Жабін.
Весёла — Кост. Брэсц.
Весна — Ар. Жабін.

Вішня — Кл. Брэсц.; Ар. Жабін.; Рож., Ст. Камян.
Ворона — Хам. Камян.; Ар. Жабін.
Галка — Орля Брэсц.; Кот., Пад., Ст. Камян.; Г., Зам., Хам. Маларыц.
Галочка — Цер. Брэсц.
Гарнушка — К.-Б. Брэсц.
Гныдая — Шыш. Маларыц.
Голубка — Орля Брэсц.
Громікава — Вял. Камян.
Груша — Рож. Камян.
Гулубка — Шыш. Маларыц.
Гуска — Кост. Брэсц.
Дзіна — Прыб. Брэсц.
Дурочка — Пуг. Брэсц.
Ждана — Кл. Брэсц.
Жоўта — Даш. Камян.
Жука — Орля Брэсц.; Шч. Жабін.; Даш., Тэр. Камян.; Падб., Хам. Маларыц.
Жучка — Кам., Кост., Прыб., Пуг. Брэсц.; Гр., Заг. Камян.; Мел. Маларыц.
Зазуля — Зв. Маларыц.
Зарянка — Сів. Камян.
Звёзда — Г. Маларыц.
Звёздочка — Прыб., Пуг., Цер. Брэсц.; Еж. Жабін.; Ян Камян.
Звізда — Сел. Брэсц.
Зезюля — Рож. Камян.
Зінка — Тэр. Камян.
Зозуля — Пуг. Брэсц.
Зойка — Ар. Жабін.
Зорачка — Мел. Маларыц.
Зорка — Кам., Н., Орх., Прыб., Пуг., Пяс., Рыц., Сел., Хар., Цер. Брэсц.; Ар., Шч. Жабін.; Кот., Кр., Кос., Дзм., Заг., Волч., Гр., Пан., Рож., Сін., Ст., Тэр., Уж. Камян.; Зам., Кар., Падб., Паж., Шыш. Маларыц.
Зорька — Кост., Шум. Брэсц.; Вял., Нав. Камян.
Зоя — Кос. Камян.
Каліна — Вял. Камян.
Калінка — Кост., Пуг. Брэсц.; Ар. Жабін.
Карасаўка — К.-Б. Брэсц.
Каштанка — Кл. Брэсц.
Кветеха — Ар. Жабін.
Кветка — Ар. Жабін.; Зам. Маларыц.
Квітка — Нав. Камян.
Квітоха — Пад. Камян.; Шыш. Маларыц.
Квытоха — Кл. Брэсц.
Квэтоха — Падб., Хам. Маларыц.
Квятоха — Кл. Брэсц.
Кнопка — Цер. Брэсц.
Краля — Орля Брэсц.; Г. Маларыц.
Краска — Сін. Камян.
Красотка — Нав. Камян.
Красуля — Н., Орх., Рыц. Брэсц.; Ар. Жабін.; Ст., Уж. Камян.; Г., Гус., Падб. Маларыц.
Красуха — Дзм. Камян.
Крэска — Сін. Камян.
Кросуля — Рыц. Брэсц.
Крошка — Цер. Брэсц.
Коза — Пуг. Брэсц.
Козулька — Гр. Камян.
Кошка — Кл. Брэсц.
Кукушка — Кост. Брэсц.
Кукла — Цер. Брэсц.; Шэп. Жабін.
Ланька — Орля Брэсц.; Дам., Падб. Камян.
Ланя — Н., Орля Брэсц.
Ласточка — Вял., Рож., Хв. Камян.
Ласунья — Мел. Маларыц.
Лася — Паж. Маларыц.
Ластаўка — К.-Б. Брэсц.; Нав. Камян.
Лесная — Орля Брэсц.
Лоська — Мел. Маларыц.
Лося — Орля Брэсц.; Нав. Камян.; Шыш. Маларыц.
Луна — Орля, Прыб., Сел. Брэсц.
Лыса — Н., Рыц., Хар., Сел., Цер. Брэсц.; Ар., Шэп. Жабін.; Дзм., Кос., Ст., Даш., Кот. Камян.; Зам., Кар., Падб., Паж., Дуб., Шыш. Маларыц.
Лысешка — Мел. Маларыц.
Лыска — Н., Цер. Брэсц.; Дзм., Кос., Сін. Камян.; Дуб. Маларыц.
Лысонька — Кар. Маларыц.
Лысая — Дзм. Камян.; Г., Кар. Маларыц.
Лысуха — Кам., Шум. Брэсц.; Вял. Камян.; Мел., Падб. Маларыц.
Львіца — Прыб. Брэсц.
Лэса — Хар. Брэсц.; Даш. Камян.; Падб., Шыш. Маларыц.
Люся — Хар. Брэсц.
Лялька — Кост., Орля Брэсц.; Гр., Уж. Камян.
Маёрка — Шыш. Маларыц.
Мазурка — Шыш. Маларыц.
Макаўка — Г. Маларыц.
Макарыха — Сел. Брэсц.
Маліна — Ар., Шч. Жабін.; Волч.,

Кот., Нав. Камян.; Г., Печ. Маларыц.
Малінка — Рыц. Брэсц.
Малютка — Шыш. Маларыц.
Мальва — Г. Маларыц.
Мальвіна — Вял. Камян.
Малка — Ар. Жабін.
Малышка — Пуг., Пяс., Сел. Брэсц.; Ар. Жабін.; Г. Маларыц.
Майка — Сел. Брэсц.; Сів., Ст., Уж. Камян.; Зам., Мел., Шыш. Маларыц.
Маня — Мел. Маларыц.
Манька — Кам., Пяс. Брэсц.; Заг. Камян.
Маруся — Пуг. Брэсц.; Падб. Маларыц.
Маша — Кл., Прыб., Рыц., Цер. Сел. Брэсц.; Гр., Сів., Ст. Камян.; Г., Шыш. Маларыц.
Мая—Кост., Кам. Брэсц.; Нав. Камян.
Мізя — Паж. Маларыц.
Метель — Ар. Жабін.
Міла — Ар. Жабін.
Мілка — Ар., Шч. Жабін.; Волч., Кот., Нав. Камян.; Г., Печ. Маларыц.
Мотя — К.-Б. Брэсц.
Мурашка — Зв. Маларыц.
Мурза — Пуг. Брэсц.; Кос. Камян.; Падб. Маларыц.
Муха — Кл., Цер. Брэсц.; Волч., Кот. Камян.
Мызя — Вял., Гр., Нав. Камян.; Зв. Маларыц.
Мыгулька — Дуб. Маларыц.
Мынька — Пяс. Брэсц.
Мышка — Нав. Камян.
Незабудка — Кост. Брэсц.; Сін. Камян.
Ночка — Прыб., Хар., Цер., Брэсц.; Ар. Жабін.
Пава — Цер. Брэсц.; Уж. Камян.
Пальма — Ар. Жабін.
Паненка — Уж. Камян.
Періста — Ар. Жабін.; Паж. Маларыц.
Піруля — Падб. Камян.
Пірыня — Г. Маларыц.
Пірэста — Хар. Брэсц.; Рож. Камян.; Падб. Маларыц.
Подласка — Даш. Камян.; Орля Брэсц.
Пралеска — Кл. Брэсц.; Вял. Камян.
Птічка — Падб. Маларыц.
Пчелка — Кост. Брэсц.
Пчолка — Падб. Маларыц.
Пырыста — Кам. Брэсц.; Дзм. Камян.; Хам., Шыш. Маларыц.
Пырэста — Хар. Брэсц.; Ром. Камянец.; Падб. Маларыц.
Пырынька — Мел. Маларыц.
Пырына — Еж. Жабін.; Паж. Маларыц.
Пэрыня — Лях. Маларыц.
Пэрэста — Хв. Камян.; Зам. Маларыц.
Пястранка — Волч. Камян.
Раба — Сел. Брэсц.
Рабач — Лях. Маларыц.
Рабая — Кост., Н., Прыб., Пуг. Брэсц.; Падб., Хам. Маларыц.
Рабіна — Кост. Брэсц.; Рож., Хв. Камян.; Г., Дуб., Падб. Маларыц.
Рабінка — Пуг. Брэсц.
Рабка — Печ. Маларыц.
Рабуля — Пуг. Брэсц.
Рагуля — Цер. Брэсц.
Раска — Ар. Жабін.
Рогуля — Пуг. Брэсц.; Ар. Жабін.
Роза — Кост., Цер. Брэсц.; Нав. Камян.; Зам. Маларыц.
Ромашка — Кост., Прыб. Брэсц.
Рыжуха — Нав. Камян.
Рыжык — Нав. Камян.
Ряба — Кам. Брэсц.; Гр. Камян.; Вял. Маларыц.
Самолёт — Шыш. Маларыц.
Саула — Прыб. Брэсц.
Светелка — Зам. Маларыц.
Сліва — Волч. Камян.
Сорока — Пуг., Сел. Брэсц.; Шэп. Жабін.
Спiвачка — Кост. Брэсц.
Спутнік — Прыб., Пуг. Брэсц.; Зв. Маларыц.
Стрелка — Пуг. Брэсц.; Нав. Камян.
Сухая — Цер. Брэсц.
Сэва — Шыш. Маларыц.
Тіхая — Кост. Брэсц.
Ударніца — Нав. Камян.
Уралка — Ар. Жабін.
Фіалка — Г. Маларыц.
Фізя — Зв. Маларыц.
Фроська — Кам. Брэсц.
Хроня — Мел. Маларыц.
Царевна — Цер. Брэсц.
Цацка — Гр. Камян.
Цыганка — Кост., Шум. Брэсц.; Падб. Маларыц.

## ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

### Вёскі

Ар.— Арэпічы
В-та — Велікарыта
Вял.— Вялічкавічы
Волч.— Волчын
Гр.— Грамяча
Гус.— Гусак
Г.— Горы
Даш.— Дашэвічы
Дзм.— Дзмітравічы
Дуб.— Дубічна
Ёж.— Ёжыкі
Заг.— Загародня
Зам.— Замшаны
Зв.— Зводы
Кам.— Камароўка
Кар.— Картэк
К.-Б.— Кацельня Баярская
Кл.— Клейнікі
Кас.— Кастары
Кат.— Катэра
Кост.— Костычы
Кр.— Крынкі
Лях.— Ляхаўцы
Мак.— Макавішчы
Мел.— Мельнікі
Нав.— Навасёлкі
Н.— Нэплі
Орх.— Орхава
Пад.— Падолішча
Падб.— Падбіла
Пан.— Паніквы
Печ.— Печкі
Прыб.— Прыбарава
Пуг.— Пугачова
Пяс.— Пяскі
Рож.— Рожкаўка
Рыц.— Рыцец
Сел.— Селяхі
Сіў.— Сіўкі
Сін.— Сінітычы
Ст.— Ставы
Тэр.— Тэрэсіны
Уж.— Ужыкі
Хам.— Хамуціны
Хар.— Харсы
Хв.— Хваянаўка
Шэп.— Шэпшаль
Шч.— Шчэглікі
Шум.— Шумакі
Шыш.— Шышова
Цер.— Церабунь
Ян.— Янушы

### Раёны

Брэсц.— Брэсцкі
Жабін.— Жабінкаўскі
Камян.— Камянецкі
Маларыц.— Маларыцкі

*Ф. Д. КЛІМЧУК*

# З МІКРАТАПАНІМІІ БРЭСТЧЫНЫ

У працы прыводзяцца мікратапонімы з наступных вёсак Брэсцкай вобласці (у дужках даюцца скарочаныя абазначэнні): Барадзічы (Бар.) Кобрынскага, Відзібар (Відз.) Столінскага, Дружылавічы (Друж.) Іванаўскага, Камянюкі (Кам.) Камянецкага, Ласіцк (Лас.), Сошна (Сош.) і Сушыцк (Суш.) Пінскага, Прылукі (Прыл.) Брэсцкага раёнаў, часткова — Агароднікі Падбельскія (Агар.) Камянецкага, Гарадзішча (Гар.) Пінскага, Ківачына (Ків.) Пружанскага, Вулька Сіманаўская (Вул.), Радастава (Рад.) і Сіманавічы (Сім.) Драгічынскага, Спорава (Спор.) Бярозаўскага раёнаў і некаторых інш. Запісы зроблены аўтарам пераважна ў 1974—1975 гг. Мікратапонімы з вёскі Барадзічы запісаў у 1981 г. У. Л. Лупіш (г. Белаазёрск).

БАБНІ′ *мн.* Сенажаць. Прыл.

БАГО′Н *м.* Сенажаць. Кам.

БА′ЙКУЎ ГРУДО′К *м.* Сенажаць. Ків.

БАЛАВІ′ЗЬКА ДОРО′ГА *ж.* Дарога. Кам.; *гл.* В Балаві́ж Доро́га.

БА′ПКА *ж.* Поле і сенажаць. Рад.

БАРАДЫ′НСЬКЭ *н.* Сенажаць. Прыл.

БА′РЫНЯ *ж.* Луг і лес. Друж.

БАР'Я′К *м.* Лес і поле. Лас.

БА′ТЮШЧЫНЭ *н.* Поле ва ўсходняй частцы вёскі, паміж вёскай і ўрочышчам *Двір,* даўней належала царкве. Бар.; *гл.* Попі́вськэ.

БЕ′ЛЫ ЛЕСО′К *м.* Лясніцтва, дамы. Ків.

БІР *м.* Лес, курганы. *Там закопаны швэды.* Лас.; сенажаць і поле. Прыл.

БЛІ′ШНІЙ РЫЗ *м.* Поле. Кам.; *гл.* Рызы́.

БЛІ′ШНЯ РІ′СКА *ж.* Сенажаць. Кам.; *гл.* Ріска.

БЛІ′ШЧЫЙ РЫЗ *м.* Поле. Кам.; *гл.* Рызы́.

БЛУДНО′Е *н.* Рукаў Ясельды, злучае Ясельду з Прыпяццю. Суш.

БОБРІ'ЮВСКА *ж.* Поле. Суш.

БОЛО'НЕ *н.* Поле. Прыл.

БОЛУ'ТЦЭ ТАТА'РСЬКЭ *н.* Нізіна. *Война була с татарамы, его коны выбылы.* Відз.

БОРОВА'Я *ж.* Лес. *Там е горы* [курганы] *по пáрах, одна вылiка* [каля 1,5 м вышыні] *і коло йійі маленька* [каля 0,5 м вышыні]. Пярэспа Драгічынскага р-на.

БОРОВЫ'СЬКА ГОРА' *ж.* Невялікае пясчанае ўзвышэнне, засаджанае лесам, знаходзіцца ў паўночнай частцы вёскі поруч з урочышчам *Надáцькій Луг.* Бар.

БОРО'ВЫШЧА *мн.* Былыя хутары. Вул.

БРОДЫ' *мн.* Балота, брод. Прыл.

БРЫ'ШЧАНКА *ж.* Поле. Суш.

БУ'ДА *ж.* Былыя хутары. Вул.

БУ'ДІСКО *н.* Сенажаць. Ків.

БУДКЫ' *мн.* Лес, сенажаць. Відз.

БУР *м.* Сенажаць. Відз.

БЫЛЯ'НСЬКА ДОРО'ГА *ж.* Дарога; *гл.* На Білу Дорóга.

БЫРЭ'ЗЫНКЫ *мн.* Сенажаць. *Там е булото.* Прыл.

БЭ'РВЫ *мн.* Паша, лес. Лас.

БЭРО'ЗНЭ *н.* Поле. Лас.

В БАЛАВІ'Ж ДОРО'ГА *ж.* Дарога. Кам.; *гл.* Балавíзька Дорóга.

В ДІ'ДА *м.* Кустарнік і паша. Сім.

ВІ'СТРОВО *н.* Сенажаць. Прыл.

ВІТЭРІ' *мн.* Сенажаць. Рад.

В ЛЯЦЬКЫ'І ДОРО'ГА *ж.* Дарога. Кам.; *гл.* Ля́цька Дорóга.

ВО'ЛЯНСЬКА ВУ'ЛЫЦЯ *ж.* Частка вёскі. Рад.; *гл.* Пóчапэ.

ВОНЯ'ТЫЦКА *ж.* Поле. Сош.

В ПСЯРНЕ'Х *мн.* Балота. Рад.; *гл.* Пся́рні.

В РОЗЫ *м.* Поле. Сош.; *гл.* Руг.

ВУЛЬХО'ВЭ *н.* Сенажаць. Рад.

В ЧВІ'РТЯХ *мн.* Поле. Кам.; *гл.* Чвíрті.

ВЫ'ГОН *м.* Паша. Друж., Кам.

ВЫДМЭ'ЖЭ *н.* Сенажаць. Відз.

ВЫЖАРІ' *мн.* Сенажаць. Кам.

ВЫРБЫНА' *ж.* Лес і сенажаць. Друж.

ВЫРБЫ'НКА *ж.* Паша з сажалкай. Кам.

ВЫРБЫ'ШЧА *мн.* Луг, часткова сухадол, на якім захаваліся рэшткі загонаў; прымыкае да вёскі з захаду. Бар.

ВЫРКЫ' *мн.* Поле. Друж.

ВЫСЁЛА У'ЛЫЦА *ж.* Частка вёскі. Друж.

ВЫ'ШНЫЧА *мн.* Сенажаць. Прыл.

ВЭЛЬІ'КЫ ВУ'ГОЛ *м.* Частка вёскі. Рад.; *гл.* Цэрко́вна Ву́лыця, Шкільна́ Ву́лыця.

ВЭЛЫ'КЫЙ О'СТРОВ *м.* *Нывa* [поле на ўзвышэнні сярод балота]. Спор.

ВЭ'ПРЫК *м.* Возера. Лас.

ВЭ'РБЫ *мн.* Сенажаць, поле. Прыл.

ГАЙ ЗАМО'СЬКЫЙ *м.* Лес. Друж.

ГАЙ ШЧОКІ'ЮЦЬКЫЙ *м.* Змешаны лес. *Ліс всякый.* Друж.

ГАРАБ'І'ВКА *ж.* Сенажаць. Лас.

ГА'ЧЫ *мн.* Поле. Суш.

ГЛУБО'КЫЙ У'ГОЛ *м.* Лес, балота, дамы, поле. Агар.

ГЛЫБО'КЭ *н.* Поле. Гар.

ГЛЫ'НЫШЧА *мн.* Луг у паўночнай частцы вёскі; захаваліся рэшткі ям, дзе капалі гліну. Бар.; частка вёскі. Сош.

ГНАСЁВО *н.* Поле, кустарнік, лясок; поруч з урочышчам *Осы́нкы.* Бар.

ГНЫЛА'Я ПРЫ'П'ЯТЬ *ж.* Прыток ракі Стыр. Лас.

ГНЫЛЭ'Е *н.* Возера. Лас.

ГОВІ'НОВКА *ж.* Балота ў паўднёвай частцы вёскі, поруч з Дняпроўска-Бугскім каналам. Бар.

ГОЛОВЫ'ШЧА *мн.* Да 30-х гадоў XX ст.— поле, сярод яго пясчаны ўзгорак. З узгорка пясок разносіла на прылягаючыя палі і пашы. Каля 1930 г. на ўзгорку пасадзілі сасновы лес. У 1950 г. лесам засадзілі і поле. Зараз усё ўрочышча занята лесам. З усходу — урочышча *Гові́новка,* з поўдня — Дняпроўска-Бугскі канал, з захаду — урочышча *Попырычнякы́.* Бар.

ГОЛУБО'К *м.* Сенажаць і поле. Прыл.

ГОРОВА'ХА *ж.* Балота каля р. Стыр. Суш.

ГОРОДЫ'СКЭ О'ЗЭРО *н.* Возера. Гар.

ГОРО'ХОВЫШЧА *мн.* Поле на ўзвышэнні сярод балота. Спор.

ГОРЫ'ЦЫ *мн.* Поле. Лас.

ГО'СТРА *ж.* Возера. Лас.

ГРА'НІ *мн.* Балота. Агар.

ГРА'НЫ *мн.* Сенажаць. Рад.

ГРУДО'К *м.* Частка вёскі. Прыл.

ГРЫШКЫ' *мн.* Дамы, лес, поле. Агар.

ГРЭ'ЦЮВА КУМО'РА *ж.* Сенажаць. Рад.

ГРЯ'ДОЧКА *ж.* Хутар. Кам.

ГРЯ'ДЫ *мн.* Поле. Суш.

ГУВЭ'ННЭ *н.* Востраў на Ясельдзе; поле. Суш.

ГУ'МНЮВ *м.* Поле на ўзвышэнні сярод балота. Спор.

ГУ'МЭНСЬКА *ж.* Лес. Лас.

ГУМЭ'НЬЦА *мн.* Поле на ўзвышэнні сярод балота. Спор.

ГУСАКЫ′ *мн.* Дамы, поле, лес, паша. Агар.
ГУ′СКЫ *мн.* Поле. *Там шнуркы́* [палосы]. Друж.
ДАЛІ′ША РІ′СКА *ж.* Сенажаць. Кам.; *гл.* Ріска.
ДАЛІ′ШНІЙ РЫЗ *м.* Поле. Кам.; *гл.* Рызы́.
ДВІР *м.* Частка вёскі па дарозе на Хамічыцы; даўней быў маёнтак; захаваўся стары мураваны дом, у якім жыве тры сям'і. Бар.
ДВО′РЫШЧА *мн.* Поле. Сош.
ДВО′РЫШЧЭ *н.* Поле ў паўднёвай частцы вёскі, з захаду прымыкае да Каралеўскага канала, на поўдні мяжуе з урочышчамі *Попырычнякы́* і *Чо́рный Бродо́к;* ад урочышча *Прысёла* аддзелена дарогай, якая вядзе ў в. Выгоды. Цяпер у *Дворышчы* брыгадны двор. Бар.
ДЁРНЫК *м.* Лес. Сош.
ДЗВОНО′ *н.* Сенажаць. Кам.
ДМЫ′ТРУВ *м.* Поле на ўзвышэнні сярод балота. Спор.
ДОВГУНЫ′ *мн.* Сенажаць, поле. Прыл.
ДО′ВГЫНЬКЫЙ *м.* Луг, які мае прадаўгаватую форму. Друж.
ДО′ВГЭ *н.* Сенажаць. Рад.; поле, сенажаць; знаходкі старажытнай керамікі. Суш.
ДОВЖ *ж.* Поле на ўзвышэнні сярод балота. Спор.
ДОКУ′ДОВО *н.* Сенажаць. Кам.
ДОЛЫ′НА *ж.* Поле. Лас., Суш.
ДОМАЧЭ′ВО *н.* Лес. Сош.
ДУБОВО′Е *н.* Лес. Агар.
ДУБО′К *м.* Поле. Сош; востраў на Ясельдзе; поле і сенажаць. Суш.
ДУБЫ′НА *ж.* Сенажаць. Прыл.
ДУПЛЫ′ШЧА *мн.* Лес і сенажаць. Друж.
ДЫ′КЭ БОЛО′ТО *н.* Сенажаць. Відз.
ДЫМНЕ′НУВ ХУ′ТОР *м.* Поле, раней быў хутар. Бар.
ДЭЛЯ′НКЫ *мн.* Лес. Сош.
Е′ВЫНЫ *мн.* Поле. Лас.
ЕЖЫ′НА *ж.* Поле. Сош.
ЕЛЫ′НА *ж.* Лес. Сош.
ЕСЭНО′К *м.* Лес, паляна. Агар.
ЖОЛЫ′НЬ *ж.* Балота каля р. Стыр. Суш.
ЖУКІ′ВШЧЫНА *ж.* Поле. Друж.
ЖЫ′ДУВ ЛУГ *м.* Поле. Друж.
ЗАБОЛО′ТЦЭ *н.* Поле. Суш.
ЗАБЭ′РЭЖА *мн.* Сенажаць. Прыл.
ЗАВ'ЁВЭ *н.* Поле. Рад.
ЗАВЫ′ГОННЕ *н.* Частка вёскі. Вул.

ЗАВЫ'Р'Е *н.* Балота, сенажаць. Сош.

ЗАГА'ТЬ *ж.* Частка вёскі. Рад.

ЗАГІ'Р'Е *н.* Частка вёскі. Рад.

ЗА'ГОРОДЫШЧА *мн.* Поле на ўзвышэнні сярод балота. Спор.

ЗА'ДНЯ *ж.* Сенажаць. Кам.; *гл.* На За́дніх.

ЗАДУБРІ'В'Е *н.* Поле. Лас.

ЗАКЛЁВКА *ж.* Возера. Лас.

ЗАКЛУ'ННЕ *н.* Частка вёскі. Сош.

ЗАКОСЫ'ШЧА *мн.* Сенажаць, поле. Прыл.

ЗАКРУ'ГЛЭ *н.* Лес. Прыл.

ЗАКУ'ПНЭ *н.* Сенажаць. Прыл.

ЗА ЛОЗО'Ю *ж.* Паша. Друж.

ЗАЛУЖКЫ' *мн.* Поле. Суш.

ЗАЛЫСО'ЧЧЭ *н.* Поле. Суш.

ЗАМО'ШЧЭ *н.* Поле. Відз.

ЗАРУ'В'Е *н.* Поле. Гар.

ЗАРЭ'ЛЫЧЧЭ *н.* Сенажаць. Лас.

ЗАСТІ'НОК *м.* Частка вёскі. Сош.

ЗАСЫЛЭ'ЧЧЭ *н.* Поле, сенажаць, лес. Лас.

ЗАХА'ТТЕ *н.* Сенажаць. Кам.

ЗВА'НЭЦЬ *м.* Лес і поле. Рад.

ЗГО'ШЧА *мн.* Сенажаць. Лас.

ЗМО'РОЧЧЭ *н.* Поле. Відз.

ЗЫЛЁНЫЙ ЛУГ *м.* Луг у лесе *на Головы́шчах.* Бар.; *гл.* Головы́шча.

ЗЫЛЯ'ТЫНА *мн.* Хутары. Відз.

ЗЫ'МНЫК *м.* Прыток р. Стыр. Лас.

ЗЭЛЭ'НА ДУБРО'ВА *ж.* Поле. Рад.

ЗЭЛЮ'НКА *ж.* Поле, лес. Сош.

КАЛЫ'НОВЫКЫ *мн.* Лес. Сош.

КА'МЫНЭЦЬ *м.* Поле. Сім.

КА'МЭННЕ *н.* Поле. Сош.

КАРАЛЫ'Н *м.* Частка вёскі. Лас.

КАРПЫ'ЛОВКА *ж.* Частка вёскі. Лас.

КІ^ю^ВШ *м.* Поле. Друж.

КІ'НСЬКА *ж.* Сенажаць. Лас.

КЛУБ *м.* Палянка ў лесе, узгорак, дзе стаяў дом паляўнічага. Агар.

КЛЫНА'Ч *м.* Частка вёскі. Прыл.

КОЗА'ЦЬКЫ *мн.* Сенажаць. Кам.; *гл.* На Коза́цькых.

КОЗАЧКІ'В ХУ'ТОР *м.* Поле, раней быў хутар. Бар.

КОЛЫСЦЭ' *н.* Нізіна. *Мэтрув сто в діамэтры, тут война була с татарамы, коны вытопталы.* Відз.

КОЛЫ′ШНЫЙ ЗАГОРО′ДСЬКЫЙ ШЛЯХ *м.* Старадаўні шлях (дарога) Кобрын—Пінск праз Гарадзец, Таракань, Сімананавічы, Хомск, Бездзеж, Моталь. Драгічын.

КОМА′РНЭ *н.* Поле. Сош.

КО′МАРОВА ГУРА′ *ж.* Сенажаць і поле. Прыл.

КОНОЛОВСЬКЫ′Й БРУД *м.* Брод. Відз.

КОНЦОВЫ′І *мн.* Частка вёскі. Сош.

КО′НЫК *м.* Востраў на Ясельдзе. Суш.; *гл.* На Ко́ныку.

КОРОЛЁВСЬКЫЙ МІ[ю]СТ *м.* Мост праз р. Лясную. Кам.

КОРЧА′ГОВЫ *мн.* Балота. Спор.

КОСТЯНЫ′ЦА *ж.* Поле. Лас.

КРА′СНЫКЬ *м.* Сенажаць. Рад.

КРА′СНЫЦА *ж.* Поле. Друж.

КРОВА′ТКЫ *мн.* Лес і паша. Сош.

КРУ′ГОЛЭЦ *м.* Паша і поле. Лас.

КРЫВУ′ХА *ж.* Поле. Друж.

КРЫНДІ′ЛЬ *м.* Поле, лес. Лас.

КРЫНЫ′ЦА *ж.* Поле. *Там була крыныца.* Сош.

КУБЭ′ЛКА *ж.* Сенажаць. Рад.

КУЗАІ′Д *м.* Паша. Кам.

КУЛЯ′ ВО′ЗЭРА *н.* Сенажаць. Рад.

КУПЛЁВА′ТЫЙ *м.* Луг. Друж.

КУПЫНА′ *ж.* Паша. Друж.

КУПЫНЫ′СТЫЙ ЛУГ *м.* Луг па дарозе на Антопаль, пасярэдзіне яго балотца, поруч урочышча *Хырмы́стый Луг.* Бар.

КУРГА′Н *м.* Поле. Відз.

КУРЭНІ′ *мн.* Поле. Рад.

КЫРЭ′ЛУВКА *ж.* Поле. Рад.

КЫ′СЛОВА *ж.* Поле на ўзвышэнні сярод балота. Спор.

КЫСЛЯКІ′[ю]ВКА *ж.* Сенажаць. Кам.; *гл.* Кыслякі[ю]вшчына.

КЫСЛЯКІ′[ю]ВШЧЫНА *ж.* Сенажаць. Кам.; *гл.* Кыслякі[ю]вка.

ЛА′ВНЭ *н.* Сенажаць. Сош., Суш.

ЛА′ВЫ *мн.* Дамы, поле, лес, паша. Агар.

ЛАЗКЫ′ *мн.* Сенажаць. Друж.

ЛІШЧЫ′НЬКЫ *мн.* Лес. Агар.

ЛОЗА′ *ж.* Паша. Друж.

ЛОЗНІ′СКА *мн.* Сенажаць у лесе. Ків.

ЛОЗЫ′ЦЫ *мн.* Поле і луг у заходняй частцы вёскі. Бар.

ЛО′КНА *мн.* Возера і сенажаць. Лас.

ЛО′ША *ж.* Балота каля р. Стыр. Суш.

ЛУ′ЖНЭ *н.* Поле. Лас.

ЛУ′ЗНЫК *м.* Ямы, дзе капалі гліну. Сош.

ЛЫНКЫ′ *мн.* Урочышча. Суш.

ЛЫ'СА ГОРА' *ж.* Востраў на Ясельдзе. Суш.
ЛЫ'САЯ ГОРА' *ж.* Узгорак па дарозе ў Столін. Відз.
ЛЫ'СЫ НО'РЫ *мн.* Лес. Прыл.
ЛЭ'БЭДЬ *ж.* Лес. Сош.
ЛЭ'П'Е *н.* Поле. Рад.
ЛЮДЯ'ТЫНО *н.* Поле. Суш.
ЛЯ'ЦЬКА ДОРО'ГА *ж.* Дарога. Кам.; *гл.* В Ляцькы́і Доро́га.
МАЙНЯКО'ВА *ж.* Сенажаць. Лас.
МАКА'РУВ РІВ *м.* Пратока р. Стыр. Лас.
МА'КОВЫЦА *ж.* Поле. Суш.
МА'КОВЫШЧА *мн.* Сенажаць і лес. Друж.; узгоркі. Суш.; *гл.* На Ма́ковышчах.
МАНДРО'ХА *ж.* Сенажаць. Кам.
МАРКІ'ВСЬКЫЙ ХУ'ТОР *м.* Поле, раней быў хутар. Бар.
МАТВІ'ЁВШЧЫНА *ж.* Паша. Друж.
МІ'ЛЧЭ *н.* Пратока р. Стыр. Лас.
МІ'НКА *ж.* Поле на ўзвышэнні сярод балота. Спор.
МІ'СЬКА ДОРО'ГА *ж.* Дарога ад в. Бародзічы на Антопаль, якая праходзіць праз урочышча *Поды́шча* і в. Падлессе. Бар.
МНЯСНЫКО'ВЭ *н.* Поле. Суш.
МОЛОЖІ' *мн.* Сенажаць. Лас.
МОРО'ЧНЯ *ж.* Сенажаць. Відз.
МУЛЯНЫ'І *мн.* Лес і луг. Друж.
МЫЖЫВІ'ЗЗЯ *мн.* Сенажаць, поле. Прыл.
МЭЗ ЛІ'СКАМЫ *мн.* Сенажаць. Лас.
МЭЗЛІ'СКЫ *мн.* Возера. Лас.
НА БІ'ЛУ ДОРО'ГА *ж.* Дарога. Кам.; *гл.* Быля́нська Доро́га.
НАВІ'З *м.* Поле, з 1920 г. частка вёскі, раней там была школа, цяпер знаходзіцца клуб. Бар.
НА ГРУДА'Х *мн.* Узгоркі на выгане. Кам.
НАДА'ТКЫ *мн.* Поле. Друж.
НАДА'ЦЬКЫЙ ЛУГ *м.* Луг, глеба цвёрдая, летам стаіць вада; знаходзіцца ў паўночнай частцы вёскі, поруч чыгунка і ўрочышча *Боровы́ська Гора́,* з усходу і поўначы прымыкае малады пасаджаны лес. Бар.
НАДВІ'ЮРНА МА'КОВЫЦА *ж.* Поле. Суш.
НА ЗА'ДНІХ *мн.* Сенажаць. Кам.; *гл.* За́дня.
НА КОЗА'ЦЬКЫХ *мн.* Сенажаць. Кам.; *гл.* Коза́цькы.
НА КО'НЫКУ *м.* Востраў на Ясельдзе. Суш.; *гл.* Ко́нык.
НА МА'КОВЫШЧАХ *мн.* Узгоркі. Суш.; *гл.* Ма́ковышча.
НАНДА'ТКЫ *мн.* Поле. Сош.
НА ОРЛІ' *м.* Поле. Суш.; *гл.* Оро́л.
НА ПЭРЭ'ВОЛОЦЫ *ж.* Сенажаць. Кам.; *гл.* Пэрэ́волока.
НА'РОГ *ж.* Поле. Відз.

НА′РУБ *м.* Сенажаць. Гар.

НА РЫЗА′Х *мн.* Поле. Кам.; *гл.* Рызы́.

НА ХМЭ′ЛІШЧЫ *н.* Сенажаць. Кам.; *гл.* Хмэ́лішчэ.

НА ЧЫРЫТА′Х *мн.* Сенажаць. Кам.; *гл.* Чырыты́.

НА ШУХАЛІ′ ДОРО′ГА *ж.* Дарога. Кам.; *гл.* Шуха́льська Доро́га.

НІ′ГЛЯ *мн.* Балота ў паўднёва-ўсходняй частцы вёскі; тут знаходзяцца ўзвышэнні: *Соснівка, Ны́вка, Це́калув О́стров, Півныкы.* Бар.

НІ′КОР *м.* Сенажаць. Кам.

НОВЫНКЫ′ *мн.* Поле. Лас.

НОВЫНЫ′ *мн.* Сенажаць. Прыл.

НУВО′Е СЫЛО′ *н.* Частка вёскі. Прыл.

НЫ′ВКА *ж.* Астравок на балоце, паша, раней поле. Бар.; *гл.* Нігля.

НЫЗЫ′ *мн.* Поле. Кам.

НЭХТОРЫ′ЮВ РІВ *м.* Пратока р. Стыр. Лас.

ОВДІ′ЁВСЬКА *ж.* Сенажаць. Лас.

ОД БОРО′ДЫЦЬКОГО ЧВІРТЬ *ж.* Поле. Кам.; *гл.* Чві́рті.

ОДРУВА′ХА *ж.* Поле, кусты, частка вёскі. Відз.

ОД СЭЛІШЧА′НСЬКОГО ЧВІРТЬ *ж.* Поле. Кам.; *гл.* Чві́рті.

ОЗЛАВЭ′ННЕ *н.* Поле. Суш.

ОЗЫРЦЭ′ *н.* Невялікі вадаём, раней балота, у 50-я гады XX ст. тут капалі торф. Бар.

ОЗЫРЭ′ДЫШЧА *мн.* Сенажаць. Відз.

ОКОЛО′ТА *мн.* Лес. Сош.

ОКО′ЛЬНІКІ *мн.* Хутары.Ків.

ОЛЁС *м.* Сенажаць, паша. *Грудок коло болота, дубы булы.* Відз.

ОНЫ′СЫН ХУ′ТОР *м.* Поле, раней быў хутар. Бар.

ОРО′Л *м.* Поле і сенажаць. Суш.; *гл.* На Орлі́.

ОСОВНЫ′ЦЬКА ДОРО′ГА *ж.* Дарога на Моталь. Друж.

ОСО′ВЫЙ *м.* Невялікі луг і лес. Друж.

ОСТРОВА′ *мн.* Поле. Суш.

ОСЫ′НКЫ *мн.* Лес у паўночна-ўсходняй частцы вёскі; пераважае хвоя, ёсць бярозы; у 1939—1940 гг. стары лес вырубалі, цяпер малады лес. Бар.

ОСЫ′НЬСКІЙ ЛУГ *м.* Паша, расце дробная асіна; поруч урочышча *Хырмы́стый Луг.* Бар.

ПА′ВЛОВА СЦІ′НКА *ж.* Палявая дарога. Бар.

ПАЛА′ТНІЙ ДУБ *м.* Сенажаць. Кам.

ПА′ННЫВО *н.* Пратока Ясельды. Гар.

ПАРХІ′ЮВКА *ж.* Лес і сенажаць. Друж.

ПАСЫКЫ′ *мн.* Сенажаць. Відз.

ПАСЫЧКЫ′ *мн.* Сенажаць. Відз.

ПАСЭКЫ′ *мн.* Поле. Суш.

ПА′СЮВ СТЫР *м.* Пратока р. Стыр. Лас.

ПАШУ′ЦЬКА ДОРО′ГА *ж.* Дарога. Кам.

ПІ′ВНЫКЫ *мн.* Астравок на балоце, паша, раней поле. Бар.; *гл.* Нігля.

ПІ′РСКЫЙ ЗАТО′Н *м.* Затока р. Ясельды. Кудрычы Пінскага р-на.

ПЛЕ′НТА *ж.* Лес. Прыл.

ПЛО′СКЭ *н.* Поле. Лас., Суш.

ПНЫ′ШЧА *мн.* Поле на ўзвышэнні сярод балота. Спор.

ПОД ЛОЗО′Ю *ж.* Паша. Друж.

ПОДОВЖЭ′ЧЧЭ *н.* Поле. Суш.

ПОДЫ′ШЧА *мн.* Сухая нізіна, зямля халодная, неўрадлівая, расце бяроза і лаза, пасаджаны лес. Бар.

ПОД'Я′ЗЗЕ *н.* Сенажаць. Відз.

ПОЛІ′ТОК *м.* Поле. Відз.

ПОЛСТЫ′НОВА *ж.* Урочышча. Прыл.

ПОЛЬШЧЫ′ЦА *ж.* Сенажаць і лес. Лас.

ПОЛЬШЧЫ′ЦЫ *мн.* Паша. Лас.

ПОПІ′ВСЬКЭ *н.* Поле ва ўсходняй частцы вёскі, раней належала царкве. Бар.: *гл.* Ба́тюшчынэ.

ПОПЫРЫЧНЯКЫ′ *мн.* Балота ўздоўж Дняпроўска-Бугскага і Каралеўскага каналаў. Бар.

ПО′СЭЧ *ж.* Лес. Друж.

ПОТЫРЫБО′К *м.* Сенажаць. Кам.

ПОТЭРУ′Б *м.* Сенажаць. Сош.

ПО′ТЭРЭБ *м.* Лес. Друж.

ПО′ЧАПЭ *мн.* Частка вёскі. Рад.; *гл.* Во́лянсцька Ву́лыця.

ПРОСТОВОЛО′ЧЧЭ *н.* Сенажаць. Кам.

ПРЫП'ЯТЫ′ШЧА *мн.* Пратока р. Стыр. Лас.

ПРЫСЁЛА *ж.* Поле з могілкамі, размешчана на поўдзень ад вёскі і да ўрочышча *Чо́рный Бродо́к;* знаходкі абломкаў керамікі. Бар.

ПРЫЧЫ′НОК *м.* Сенажаць і паша. Кам.

ПРЭ′СТАНЬ *ж.* Сенажаць. Рад.

ПСЯ′РНІ *мн.* Балота. Рад.; *гл.* в Псярне́х.

ПУ′ГАЧОВА *ж.* Поле. Відз.

ПУДБІ′ЛЬСЬКА ДОРО′ГА *ж.* Дарога. Кам.

ПУДБЭРІ′ЗКА *ж.* Возера. Лас.

ПУДБЭРО′ЗНЭ *н.* Лес. Лас.

ПУДГУ′ЛЛЕ *н.* Сенажаць. Відз.

ПУДГУ′ЛЛІКЫ *мн.* Сенажаць. Відз.

ПУДДУБКЫ′ *мн.* Сенажаць, поле. Прыл.

ПУДЛУ′ЖНЭ *н.* Поле. Лас.

ПУД ЛЫНКА′МЫ *мн.* Урочышча. Суш.; *гл.* Лынкы́.

ПУДНЫ′ЗЭНЬКА *ж.* Поле. Лас.

ПУДНЭВІ′РКА *ж.* Частка вёскі. Рад.

ПУДОВЖЭ′ЧЧЭ *н.* Поле. Суш.

ПУДО′МСЬКЫ *мн.* Сенажаць. Кам.

ПУДРІ′ЧНА *ж.* Вуліца каля р. Лясной, набярэжная. Кам.

ПУДСТЫКА′ВА *ж.* Поле, лес. Лас.

ПУДСЭЛЦЭ′ *н.* Поле. Лас.

ПУД СЭЛЭЗНЁВОЮ *ж.* Поле. Лас.

ПУДЧА′ДОМЛЕ *н.* Поле. Лас.

ПУТЧЭ′ПЫЛЬКА *ж.* Сенажаць, поле. Прыл.

ПЫЛЫ′ПУВ ХУ′ТОР *м.* Поле, раней быў хутар. Бар.

ПЫРЫДЫ′ЛЬНЫЦЯ *ж.* Паша. Кам.

ПЫРЫГІ′ЮН *м.* Лес. Друж.

ПЫРЭ′СЫКА *ж.* Сенажаць. Прыл.

ПЫСКЫ′ *мн.* Частка вёскі. Прыл.; *гл.* Пысо́к.

ПЫСО′К *м.* Частка вёскі. Прыл.; *гл.* Пыскы́.

ПЭРЭ′ВОЛОКА *ж.* Сенажаць. Кам.; *гл.* За Пэрэ́волокою.

ПЭРЭШЧЭ′РНЫКЬ *м.* Сенажаць. Рад.

П'ЯТНО′ *н.* Поле. Суш.

РАБЫ′Й МІЮСТ *м.* Мост праз Ясельду з Пінска на Лагішын. Суш.

РА′ДЁЛКА *ж.* Балота ў заходняй частцы вёскі. Бар.

РА′ДНІ *мн.* Лес, ёсць загоны. Сош.

РІ′ВЧЫК *м.* Частка вёскі. Лас.

РІ′ПКА *ж.* Сенажаць. Кам.

РІ′СКА *ж.* Сенажаць. *На Козацькых, на Чэрэтах, і другых, у кажного була Ріска.* Кам.; *гл.* Блішня Ріска, Даліша Ріска.

РОГІ′ЗНЭ *н.* Сенажаць. Лас.

РОЖО′К *м.* Пратока р. Стыр. Лас.

РОКЫ′ТЯНЫЙ ЛУГ *м.* Луг, парослы ракітай, які знаходзіцца ў паўднёвай частцы вёскі, поруч урочышча *Осыньськії Луг.* Бар.

РОМАНЮКЫ′ *мн.* Лес, балота, поле, дамы. Агар.

РУГ *м.* Поле. Сош.; *гл.* В Ро́зы.

РУГЫ′ *мн.* Сенажаць. Відз.

РЫЗЫ′ *мн.* Поле. Кам.; *гл.* Блішній Рыз, Блішчый Рыз, Далішній Рыз, На Рыза́х, Сэрэ́дній Рыз.

РЫТОПО′ЛЛЕ *н.* Поле, якое знаходзіцца ў паўднёва-заходняй частцы вёскі па дарозе на в. Гарадзец. Бар.

РЭЧЭ′ЦКА *ж.* Поле. Суш.

РЯ′СНО, РЯ′СНЭ *н.* Поле; знаходкі керамікі. Суш.

САЗО′НТОВА СЦІ′НКА *ж.* Палявая дарога. Бар.

САХА′РКУВ ХУ′ТОР *м.* Поле, былы хутар, поруч урочышча *Нада́цькый Луг.* Бар.

СВЫ′НЫК *м.* Поле. Лас.

СІ′ДОРОЎШЧЫНА *ж.* Поле і хутар. Ків.

СІ′РЫЙ ЗАТО′Н *м.* Затока р. Ясельды. Суш.

СІ′ЧАНЭ *н.* Сенажаць. Суш.

СІ′ЯНКА *ж.* Лес. Друж., Сім.

СЛЫПЫТЫ′ШЧА *мн.* Лес. Друж.

СМУ′ГА *ж.* Усходняя частка вёскі, раней поле, на ўсход знаходзіцца могільнік. Бар.; былая крыніца. Друж.

СОРО′КА *ж.* Сенажаць. Кам.

СОСНІ′ВКА *ж.* Астравок на балоце, паша, раней поле. Бар.; *гл.* Нігля.

СОШНЫ′ЦА *ж.* Сенажаць. Суш.

СТАРА′Я РЭКА′ *ж.* Пратока р. Стыр. Лас.; пратока р. Ясельды. Суш.

СТАРО′Е СЫЛО′ *н.* Частка вёскі. Прыл.

СТАРЫ′ ДУБ *м.* Сенажаць, поле. Рад.

СТАРЭ′ СЭЛО′ н. Поле; знаходкі абломкаў керамікі XIV—XV і XVI—XVII стст. Рад.

СТРУ′ГА *ж.* Лес. Сош.

СТРУ′ЖКА *ж.* Урочышча. *Стружка — тэку́й дэ* [дзе цячэнне]. Друж.; частка вёскі. Рад.

СТЫКА′ВА *ж.* Сенажаць. Лас.

СТЫКА′ВКА *ж.* Паша. Лас.

СТЯГЫ′ *мн.* Поле. Лас.

СУХА′Я ГА′ЛЯ *ж.* Сенажаць. Рад.

СУШЫ′ЦКЭ О′ЗЭРО *н.* Возера. Суш.

СЫЛЫ′ТЬБА *ж.* Поле. Відз.

СЭЛІШЧА′НСЬКА ДОРО′ГА *ж.* Дарога. Кам.

СЭЛІШЧА′НСЬКЫ ПОЛО′СЫ *мн.* Поле і крыніца. Кам.

СЭЛЦЭ′ *н.* Поле. Лас.

СЭ′ЛЫШЧА *мн.* Поле; знаходкі абломкаў каменных нажоў і старажытнай керамікі. Рад.; лес. Суш.

СЭ′ЛЫШЧЭ *н.* Поле. Суш.

СЭЛЯ′ТЫН *м.* Поле на ўзвышэнні сярод балота. Спор.

СЭРЭ′ДНІЙ РЫЗ *м.* Поле. Кам.; *гл.* РЫЗЫ′.

СЭРЭ′ДНЯ ЧВІРТЬ *ж.* Поле. Кам.; *гл.* Чві́рті.

СЭРЭ′ДЫНА *ж.* Частка вёскі. Лас.

СЭРЭ′ЖАНЦЫ *мн.* Сярэдняя частка вёскі. Сош.

ТОПОЛЫ′НА *ж.* Поле. Прыл.

ТЬВОРДА′Я *ж.* Поле на ўзвышэнні сярод балота. Спор.

ТЭ′РЛЭ *н.* Сенажаць, поле. Прыл.

